

**Вялікі князь Кейстут.** *670 гадоў таму назад у 1340 годзе атрымаў ад свайго бацькі Вялікага князя Гедзіміна ў спадчыну горад Ліду.*

# Лідскі Летапісец

*Народ, які не ведае свайго мінулага, не мае будучыні*





**Краязнаўчы, гістарычна-літаратурны часопіс**
**Выходзіць з 1997 года**

**№ 1 ( 49 ) СТУДЗЕНЬ - САКАВІК 2010 г.**


## *У НУМАРЫ:*



*На першай старонцы выкладкі здымак Ігара Пешахонава*





**Мы просім ўсіх, хто мае цікавыя матэрыялы па гісторыі Ліды і краю, дасылаць іх на адрас: 231282, Ліда-2, п/с 7, або перадаваць у рэдакцыю.**

**Аўтары цалкам адказныя за гістарычную дакладнасць сваіх матэрыялаў**


**Пасведчанне аб рэгістрацыі № 907 ад 18.12.2009 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь**

Заснавальнік і навуковы кансультант
**Валерый Васільевіч Сліўкін,**
старшы навуковы супрацоўнік Лідскага гістарычна-мастацкага музея, кандыдат геаграфічных навук

рэдактар
**Станіслаў Вацлававіч Суднік**

АДРАС РЭДАКЦЫІ:

231293, Лідскі р-н, в. Даліна
E-mail: naszaslowa@tut.by

**Наклад 300 асобнікаў**
**10 друк. аркушаў**

**Часопіс размножаны на абсталяванні рэдакцыі.**
**Замова № 17**
**Часопіс падпісаны да друку 30. 03. 2010 г.**
**Часопіс надрукаваны 30.07.2010 г.**

**Падпісны індэкс 00257**
**Кошт падпіскі:**
**індывід. 3 мес.- 2680 руб.**
**індывід. 6 мес.- 5360 руб.**
**Кошт у розніцу: вольны**

ISSN 2218-1792





9 772218 179007 10001>

# КРОНІКА ЛІДЫ



*А.В. Дземідовіч*

У 2009 годзе выкладчыку Лідскага каледжа Анатолю Віктаравічу Дземідовічу прысвоена вучоная ступень кандыдата гістарычных навук.



У канцы 2009 года завершана адбудова спартовага комплекса ў Тарнове, які пуставаў 20 гадоў. Цяпер тут найвялікшая спартовая зала ў раёне.

31 снежня 2009 года ў Лідскім раёне здадзены два дзіцячыя дамы сямейнага тыпу.






5 студзеня Прэзідэнт Беларусі А.Р. Лукашэнка падпісаў распараджэнне аб правядзенні Рэспубліканскага фэсту-кірмаша працаўнікоў сяла “Дажынкі-2010” у Лідскім раёне.



*Сям’я Тучкоўскіх на прыёме ў старшыні Лідскага райвыканкаму А.П. Худыка*

У студзені 2010 года Лія Тучкоўская з Лідскага раёна ўзнагароджана “Ордэнам маці”.



У студзені 2010 года на водазаборы “Дуброўня” ўведзена ў эксплуатацыю новая станцыя абезжалезвання вады.




У сакавіку 2010 года выйшла кніга паэзіі і прозы лідскага паэта Смарагда Сліўко “Радужное сияние”. Вокладку аформіў лідскі мастак Мікола Лазоўскі.

# Лідчына ў 2009 годзе

## Выступ старшыні Лідскага райвыканкама А.П. Худыка на ўрачыстым сходзе 22.01.2010 г., прысвечаным 70-годдзю з дня ўтварэння Лідскага раёна і падвядзенню вынікаў працы за 2009 г.

Паважаныя ўдзельнікі ўрачыстага сходу!

2010 год для раёна пачаўся добрымі весткамі і значнымі юбілейнымі датамі. 5 студзеня Прэзідэнт нашай краіны Аляксандр Рыгоравіч Лукашэнка падпісаў распараджэнне аб правядзенні Рэспубліканскага фэсту-кірмаша працаўнікоў сяла “Дажынкі-2010” у Лідскім раёне. Гэта для нас вялікі гонар і велізарная адказнасць.

Тым не менш, мы ўпэўненыя, што, прыклаўшы максімум высілкаў, з дапамогай усёй краіны, пры падтрымцы абласнога выканаўчага камітэта, мы зможам зрабіць наш раён і асабліва горад Ліду яшчэ больш прыгожымі і ўтульнымі. Упэўнены, што гэта будзе самае маштабнае свята ў нашым раёне за ўвесь час яго існавання. А раёну ўжо 70 гадоў. Пасля ўз’яднання Ўсходняй і Заходняй Беларусі, у 1939 г., пачалося актыўнае ўладкаванне адміністрацыйнай тэрыторыі БССР.

15 студзеня 1940 года Ўказам Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР у складзе Баранавіцкай вобласці быў створаны Лідскі раён з цэнтрам у горадзе Лідзе. У склад раёна поўнасцю ўвайшлі Белагрудская і Лідская воласці, а таксама часткі Беліцкай, Ваверскай, Дакудаўскай і Жырмунскай валасцяў былога Лідскага павету. Плошча яго складала 1249 км2. Былі створаныя Лідскія гарадскі і раённы, а таксама 20 сельскіх саветаў.

Пачаліся пазітыўныя змяненні ў жыцці людзей. Сыйшло ў нябыт беспрацоўе, ажывілася праца фанернай і абутковай фабрык, шклозавода, мясцовай лясной гаспадаркі. У Ліду былі накіраваны спецыялісты, якія за некалькі месяцаў здолелі арганізаваць бесперабойную працу чыгункі. Паскорана развівалася сацыяльная сфера. У студзені 1940 г. толькі ў Лідзе дзейнічала 11 школ, два кінатэатры, бальніца на 120 ложкаў, радзільны дом, хуткая дапамога, дзве паліклінікі.




*Лідскі раён. Сучасная канфігурацыя.*

Карэнныя змяненні, якія адбыліся на нашай зямлі, былі ацэнены людзьмі. У 1940 г. у нашым горадзе жыло ўжо 36 тысяч чалавек, а ўсяго ў раёне - амаль 80 тысяч. Кожная нацыянальнасць, будзь то беларусы, палякі, рускія, габрэі, літоўцы або ўкраінцы, пачувалася камфортна ў новай беларускай краіне, мела аднолькавыя правы на ўдзел у выбарах, магчымасць займаць пасады, вывучаць родную мову, вучыцца ў школе. Тады гэта было вялікае палітычнае і сацыяльнае дасягненне. Беспадстаўнае звальненне, беспрацоўе ўжо лічыліся надзвычайнай падзеяй. Дзяржава стаяла на абароне інтарэсаў простага чалавека, якому законам гарантавалася занятасць.

Увесну 1940 г. жыхары вёсак Сялец, Ганчары, Жырмуны, Ёдкі, Ольжава, Крывічы, Раманы ўтварылі першыя калгасы. Гэта былі дробныя гаспадаркі.

Да ўз’яднання ў Лідскім павеце мелася толькі 2 трактары, 10 пажарнікаў,

10 грузавых і 15 легкавых аўтамабіляў. У сакавіку 1940 года ў маёнтку Крупава была створаная першая МТС, у якой праз год налічалася ўжо 6 трактароў.

Так лідзяне пачыналі сваю новую гісторыю. Аднак вайна перапыніла ўсе стваральныя планы.

Барацьба з нямецкімі захопнікамі разгарнулася практычна з моманту акупацыі раёна. Менавіта на Лідчыне пачаў дзейнічаць адзін з першых партызанскіх атрадаў на Гарадзеншчыне - імя Варашылава. Камандзір - Пётр Макараў.

Быў створаны падпольны гаркам партыі, які ўзначальваў Яўхім Гапееў. Лідскім міжраённым партыйным цэнтрам накіроўвалася дзейнасць 33 партызанскіх атрадаў. Распаўсюджвалася газета "Уперад".

Пасля многіх страшных і трагічных дзён і начэй, 8 ліпеня 1944 г. падчас Беларускай наступальнай аперацыі, войскі 3-га Беларускага фронту вызвалілі Ліду. На Лідчыне была адноўлена савецкая ўлада і даваенная адміністрацыйная структура.

Усяго за годы вайны больш за 12 тысяч чалавек знайшлі свой апошні прытулак у Лідскай зямлі.

У знак вялікай падзякі і ў памяць аб абаронцах нашай Радзімы ў горадзе Лідзе ў 1966 годзе насыпаны Курган Неўміручасці. Усяго ж на тэрыторыі раёна збудавана 68 помнікаў і абеліскаў загінулым ваярам, партызанам і мірным жыхарам Лідчыны.

Працягваецца пошукавая праца. Бо вядома, што вайна не заканчаецца, пакуль не будзе пахаваны яе апошні салдат. Толькі за апошнія 6 гадоў знойдзены ў раёне рэшткі 13-ці ваяроў, загінулых у гады Вялікай Айчыннай вайны і перапахаваны на могілкі па вул. Савецкай у г. Лідзе і ў в. Тарнова.

Удалося адшукаць сваякоў аднаго з іх - Міхаіла Махнача, які лічыўся без весткі зніклым. На перапахаванне прыязджалі яго ўнукі. Зараз яны могуць наведваць парэшткі свайго гераічнага дзеда.

У 2009 г., у гонар 65-й гадавіны вызвалення Рэспублікі Беларусь ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў і ў мэтах увекавечання вычыну ваяроў і працаўнікоў, партызан і падпольшчыкаў, здзейсненага пры абароне і вызваленні беларускіх гарадоў, Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь Аляксандрам Рыгоравічам Лукашэнкам горад Ліда ўзнагароджаны Ганаровай граматай і вымпелам "За мужнасць і стойкасць у гады Вялікай Айчыннай вайны". Сёння ў зале прысутнічаюць удзельнікі Вялікай Айчыннай вайны. Давайце яшчэ раз скажам ім наша шчырае "дзякуй" і пажадаем даўжэй заставацца ў шыхце.

Паважаныя ўдзельнікі сходу!

20 верасня 1944 г. Лідскі раён выведзены з Баранавіцкай і ўключаны ў склад Гарадзенскай вобласці. Кіраўнічы склад партызанскіх атрадаў быў пакінуты ў раёне для аднаўлення разбуранай гаспадаркі. Гэта быў таксама вычын, вялікі працоўны і маральны вычын былых франтавікоў, партызан, жанчын, старых і дзяцей.

Горад Ліда ляжаў у руінах. Асабліва цэнтр. Было знішчана 75% жылых дамоў. Абсталяванне прамысловых прадпрыемстваў вывезена ў Нямеччыну. Пры адступленні фашысты падарвалі гарадскую электрастанцыю, хлебакамбінат, іншыя прадпрыемствы і культурныя ўстановы. Аднаўляць усё гэта было не проста.

Гарадская гаспадарка знаходзілася ў запушчаным стане. Вуліцы, плошчы і двары не чысціліся ад смецця. Брук, тратуары, платы не рамантаваліся. Лазня працавала з вялікімі перабоямі, не абсталявана гасцініца. З-за адсутнасці лекараў дрэнна арганізавана медыцынская дапамога. Не было ясляў, бальніцы не забяспечваліся вадой, электрычнасцю, існавалі вялікія перабоі з палівам.

Востра стаяла праблема дзіцячай бездагляднасці. У сувязі з гэтым у студзені 1945 г. у Лідзе быў арганізаваны дзіцячы прыёмнік-размеркавальнік. Аднаўляліся і рамантаваліся школьныя будынкі, мэбля, абсталяванне. З 1 верасня 1944 г. пачалася вучоба ў 57-мі школах. Праз 4 гады іх колькасць павялічылася ў два разы.

Былі ўжо пабудаваныя і ўведзеныя ў эксплуатацыю вакзал, дом паравозных брыгад, пункт тэхнічнага агляду. А таксама, што было вельмі важным для развіцця горада - дызельная комплексная электрастанцыя магутнасцю 600 квт і энергацягнік магутнасцю 1000 квт.

Адбыліся змены і ў ахове здароўя: колькасць бальнічных ложкаў дасягнула даваеннага часу. У горадзе ўжо працавала 30 лекараў і каля 100 чалавек сярэдняга медыцынскага персаналу.

Значныя змяненні адбыліся і ў гандлі. На канец 1948 г. у Лідзе існавалі 104 гандлёвыя кропкі, якія ўключалі крамы, ларкі, прадпрыемствы грамадскага харчавання. Пабудаваны новы добраўпарадкаваны рынак.

Паколькі трэба было тэрмінова перасяляць людзей з зямлянак, скляпоў і паўразбураных хат, актыўна вялося будаўніцтва жылля. Аднак на той момант на аднаго жыхара горада прыходзілася толькі 3,5 м2.

Так, з часам, горад падымаўся з руін, будаваўся. Да канца 1950-га года аб'ем прамысловай вытворчасці не толькі перавысіў даваенны, але і павялічыўся больш, чым у 15 разоў у параўнанні з 1946-м.

І гэта не дзіўна. У 40-50-я гады ў Лідзе былі пабудаваныя новыя прадпрыемствы, якія працуюць і сёння: ЖКГ, лясгас, мэблевая фабрыка, ДРБК №48, ГВФ "Ліда", раённы вузел электрасувязі, харчовыя канцэнтраты, мясакамбінат, "Ліданафтапрадукт", малочна-кансервавы камбінат, хлебазавод, цеплавыя і электрычныя сеткі, "Лідаграпраммаш", "Лідаміжрайгаз", "Лідатрансаўта".

Няпроста было адраджаць жыццё на сяле, падымаць калгасы. Працу ўскладнялі дзейсныя бандфармаванні. Ад рук бандытаў са жніўня 1944 па травень 1945 г. на тэрыторыі Лідскага раёна загінула 40 старшыняў і 2 сакратары сельсаветаў, 27 дэпутатаў і ўпаўнаважаных, 28 працаўнікоў раёна і многія іншыя.

Аднаўленне і стварэнне новых калгасаў

ускладнялася яшчэ і даваеннымі памылкамі калектывізацыі, якія не дадалі папулярнасці калектыўнаму гаспадаранню.

Неабходна адзначыць, што з першых дзён дзейнасці калгасаў значную дапамогу аказвалі прамысловыя прадпрыемствы і калектывы чыгуначнага вузла. Напрыклад, цвіковы завод (цяпер завод электравырабаў) увесну 1949 г. выдзеліў калгасу “Радзіма” сваю грузавую машыну, перадаў бясплатна 75 кілаграмаў цвікоў для патрэб калгаснага будаўніцтва. Група рабочых дапамагала ў правядзенні вясновай сяўбы. Калгасу імя Сталіна часта дапамагалі рабочыя завода “Лідсельмаш”. Гэтая практыка мае месца і сёння. У 1952 годзе пачалося масавае аб’яднанне дробных калгасаў у больш буйныя, што спрыяла больш эфектыўнаму выкарыстанню новай тэхнікі і тэхналогіі. У 1958 годзе ў раёне налічвалася 24 калгасы і 1 саўгас “Тарнова”.

Без перабольшання, эпахальныя перамены, якія мелі месца на Лідчыне, звязаны з самаадданай працай людзей. У нашай памяці застануцца імёны многіх людзей, якія працавалі для дабрабыту грамадства. Сярод іх:

Героі Сацыялістычнай працы: звеньявая па вырошчванні льну Алена Ярмантовіч (Голдава), даглядчык буйной рагатай жывёлы Вацлаў Слука (Тарнова); кавалеры ордэна Леніна: старшыня калгаса “Сцяг Саветаў” Міхась Манікала, дырэктар саўгаса “Малое Мажэйкава” Уладзімір Кулакоў, дырэктар шклозавода Сяргей Карзюк, рабочая абутковай фабрыкі Лідзія Круповіч, паэт Валянцін Таўлай, заслужаны лекар БССР Павел Аляксейчык і многія-многія іншыя, чые імёны памятае і паважае гісторыя Лідскага раёна.

Сумеснай упартай працай лідзян падымаліся ўсе галіны народнай гаспадаркі. Так, у 1951 г. адкрыты тэхнікум механізацыі сельскай гаспадаркі - у будучым - індустрыяльны тэхнікум, які рыхтаваў кадры для прамысловасці, што актыўна развівалася .

У 50-60-е гады былі пабудаваны: рамонтны завод (цяпер - Лідаграпраммаш), Лідабудканструкцыя, Лакафарбавы завод. Гэта быў перыяд актыўнай рэалізацыі планаў хімізацыі і меліярацыі ўсёй краіны, і лідзяне ішлі ў нагу з часам.

Актыўна будавалася жыллё. У Лідзе з’явіліся мікрараёны Раслякі, Слабада. Вялікі ўдзел у гэтым прымаў створаны Будаўнічы трэст.

У 70-я гады працягнута індустрыялізацыя раёна - пабудаваныя заводы “Оптык”, “Лідлён”, “Лідабудматэрыялы”, ветсанутыльзавод. Адначасова ў г. Лідзе ўтвораны жылыя мікрараёны: Індустрыяльны, Маладзёжны, Касманаўтаў.

Упартая праца людзей была адзначана высокімі урадавымі ўзнагародамі.

Торфапрадпрыемства “40 гадоў БССР” (цяпер “Лідскае”), Вытворчае аб’яднанне харчаканцэнтратнай прамысловасці (цяпер ААТ “Лідскія харчовыя канцэнтраты”) узнагароджаны ордэнамі Працоўнага Чырвонага Сцяга;

У 1976 г. піўзавод атрымаў ордэн “Знак Пашаны”.

Ансамблю “Лідчанка”, мужчынскаму хору Лідсельмаша, ансамблю песні і танца абутковай фабрыкі, драматычнаму калектыву гарадскога Дома культуры прысвоены ганаровыя званні Народных.

Ліда і Лідскі раён будаваліся. Жыхары, як і раней, добрасумленна працавалі. Прадпрыемствамі выпускалася больш за 200 відаў прадукцыі. З іх 170 мелі дзяржаўны Знак якасці.

Шмат сіл і энергіі па стварэнні новага аблічча раёна і горада ўклалі кіраўнікі. Грывачэўскі Сцяпан Аляксандравіч, Логаш Уладзімір Міхайлавіч, Бурлыка Іван Рыгоравіч, Домаш Сямён Мікалаевіч, Пракопік Уладзімір Канстанцінавіч, Папова Надзея Іванаўна. Дарэчы, гэты Дом культуры, у якім мы сабраліся, пабудаваны менавіта дзякуючы ёй. У перыяд яе кіраўніцтва, у 1980 г. гораду Лідзе ўручаны ордэн “Знак Пашаны”.

Дзякуючы паспяховай працы шклозавода “Нёман”, калектыў якога ў 1984 г. быў узнагароджаны ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга, развівалася Бярозаўка. Далёка за межамі раёна славіліся мастацкія работы са шкла заслужаных дзеячаў мастацтваў БССР Уладзіміра Мурахвера і Людмілы Мягковай.

У 80-я гады значныя змяненні адбыліся таксама ў вытворчым і сацыяльным жыцці вяскоўцаў. Вырас гарадскі пасёлак Першамайскі, пасёлак Дзітва, шмат будавалася жылля, вялася газіфікацыя. Адной з самых перадавых і рэнтабельных гаспадарак быў саўгас “Тарнова”, якім кіраваў Новікаў Алег Цімафеевіч. Зімовыя цяпліцы, агульнай плошчай 3 га, забяспечвалі гароднінай не толькі Лідчыну, але і бліжэйшыя раёны. Паспяхова працавалі гаспадаркі, якія ўзначалльвалі Здановіч Хведар Серафімавічам, Каранюк Аляксандр Аляксандравіч, Сурвіла Альбін Вікенцевіч, Крыніцкі Мацвей Сцяпанавічам, Шуціла Георг Канстанцінавіч, Дудко Сяргей Рыгоравіча. Заканамерна, што ў 1984 г. Лідскі раён прызнаны пераможцам рэспубліканскага спаборніцтва па паспяховым правядзенні зімоўкі жывёлы, павелічэнні вытворчасці і закупкі прадуктаў жывёлагадоўлі і атрымаў Ганаровую грамату.

У сакавіку 1995 г. Бярозаўка атрымала статут горада.

У 1996 г. лідзянін Валер Цыленць заваяваў 3-е месца на 26-х алімпійскіх гульнях у Атланце па грэка-рымскай барацьбе ў сярэдняй вазе.

90-я і пачатак гэтага стагоддзя ў цэлым былі няпростымі для эканомікі раёна. У гэты перыяд горад і раён працавалі пад кіраўніцтвам Мальца Ўладзіміра Міхайлавіча, Чарнышова Мікалая Мікалаевіча, Гайдукевіча Іосіфа Іосіфавіча, Цімчанкі Ўладзіміра Анатольевіча, Усарава Сяргея Аляксандравіча.

У зале прысутнічаюць члены раённага Савета старэйшынаў. Яны ў гэты перыяд узначальвалі прадпрыемствы і арганізацыі розных галін эканомікі Лідскага раёна: Гушча Іван Пятровіч, Дабраловіч Віктар Станіслававіч, Выгоўскі Эдуард Барысавіч, Гардзіёнак Пётр Рыгоравіч, Жалкоўскі Аляксандр Васільевіч, Жураўскі Аляксандр Аляксандравіч,

Рамановіч Аляксандр Іосіфавіч, Шот Марыя Аляксандраўна і многія іншыя. Менавіта дзякуючы іхняму прафесіяналізму і высокай адказнасці, уменню накіраваць калектыў на выкананне пастаўленых задач раён здолеў захаваць наяўны патэнцыял.

Можна яшчэ шмат пералічваць заслужаных людзей, поспехі і дасягненні жыхароў нашага раёна. Аднак, упэўнены, у нас наперадзе — вялікія перспектывы. Гэта даказвае дзень сённяшні.

9 лютага 2004 г. адбылася знамянальная падзея, якая стала новай вехай у гісторыі Лідчыны. Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандра Рыгоравіча Лукашэнкі г. Ліда і Лідскі раён аб'яднаныя ў адну тэрытарыяльна-адміністрацыйную адзінку. Час пацвердзіў правільнасць прынятага рашэння.

За чатыры гады аб'ёмы прамысловай вытворчасці павялічыліся ў 1,7 раза. Перавыканана пяцігадовае заданне па спажывецкіх таварах, прыцягненню інвестыцый у асноўны капітал. Бюджэт раёна прырос у 2,5 разы. Практычна выкананы заданні па экспарце: калі ў 2004 г. прадукцыя лідскіх прадпрыемстваў экспартавалася ў 40 краін, то сёння - амаль у 70.

За 5 гадоў вытворчасць валавой прадукцыі сельскай гаспадаркі ўзрасла на 43%. Валавы збор збожжа павялічыўся на 24%, цукровых буракоў - на 25%, насення рапсу - у 3 разы, вытворчасць малака і мяса вырасла больш, чым на 50%.

Сёння наш рэгіён — адзін з наймацнейшых у краіне. Я з задавальненнем хачу адзначыць, што лідзяне здольныя выпускаць і выпускаюць усё, што неабходна для забеспячэння жыццядзейнасці людзей. У Лідзе вырабляюць разнастайныя сельгасмашыны: ад плугоў і сеялак да капалак, сушылак і камбайнаў, аўтобусы, лакі і фарбу, оптыку, свяцільнікі, крышталь, муку і харчовыя канцэнтраты, квас і піва, натуральныя мясныя і малочныя прадукты, абутак, вокны і дзверы, жалезабетонныя вырабы, тратуарную плітку, мэблю і многае-многае іншае. Такі шырокі асартымент ёсць не ў кожнага раёна.

У нас ёсць свая ліцейная вытворчасць і вагонарамонтнае дэпо.

Усе магчымасці нашага рэальнага сектара эканомікі мы дэманструем на штогадовай прамысловай выставе-кірмашы "Ліда-Рэгіён".

Лідскі раён знаходзіцца на перакрыжаванні чыгуначных магістраляў і шашэйных дарог, якія злучаюць напроста Маскву, Гародню, Рыгу, Вільню, Баранавічы, Львоў, што дазваляе паспяхова працаваць усім галінам эканомікі.

Адкрытасць лідзян для перспектыўнага супрацоўніцтва дазволіла скласці шэраг дамоў аб партнёрскім супрацоўніцтве з раёнам Хорашава-Мнеўнікі г. Масквы, Люберцамі Маскоўскай вобласці, г. Нёман Калінінградскай вобласці, горадам Чыстаполь (Татарстан), Камянецк-Падольскім раёнам Украіны, Рышканскім раёнам Малдовы, Геакчайскім раёнам Азербайджана, з Латвійскім горадам Екабпілс.

Асабліва цеснае супрацоўніцтва ў нас склалася з многімі рэгіёнамі Літвы. І, першым чынам, з горадам Алітус, Трокскім раёнам і, вядома, Шальчынінкайскім раёнам, віцэ-мэр якога, спадар Андрэй Андрушкевіч, сёння прыбыў на нашу ўрачыстасць.

Разам са сваімі суседзямі, партнёрамі нам лягчэй пераадольваць сітуацыю, абумоўленую сусветным фінансавым і эканамічным крызісам. Эканоміка раёна працуе стабільна, і ні адна галіна не знізіла ўзровень вытворчасці. Нашы прамыслоўцы паспяхова знаходзяць спосабы не толькі вырабляць, але і рэалізоўваць прадукцыю сваіх прадпрыемстваў. А гэта значыць, што яна якасная і запатрабаваная. У наступіўшым годзе, абвешчаным у Беларусі Годам якасці, гэта гаворыць аб тым, што лідзяне ўмеюць працаваць на перспектыву. Удзельная вага новай прадукцыі ў 2009 г. склала больш за 25%. Больш за 80% прадукцыі нашых прадпрыемстваў сертыфікаваныя ў адпаведнасці з міжнароднымі стандартамі.

Паспяхова прыцягваюцца інвестыцыі ў асноўны капітал. За апошнія чатыры гады гэты паказчык склаў больш за 250% пры заданні 216,9%. У 2009 г. рэалізаваны шэраг буйных інвестыцыйных праектаў на ААТ "Лакафарба", "Лідабудканструкцыі", Малочна-кансервавым камбінаце, Лідсельмашы.

Рэнтабельнасць рэалізаванай прадукцыі павялічылася амаль на 8%.

Нажаль, пакуль не атрымоўваецца поўнасцю вырашыць праблему са стратнымі прадпрыемствамі. Але, паколькі мы стараемся знайсці і знаходзім шляхі выйсця з складаных сітуацый, то колькасць такіх прадпрыемстваў зніжаецца. Калі на пачатак 2009 г. іх было 24, то ўжо сёння - 9 (студзень-лістапад).

Праводзіцца дыверсіфікаванне рынкаў збыту, развіваецца тавараправодная сетка за мяжой.

Перавыкананы паказчык па энергазахаванні.

Не адстаюць у працавітасці і сельскія працаўнікі. Дзяржаўная праграма адраджэння і развіцці сяла на 2005-2010 гады з'явілася доўгатэрміновым інвестыцыйным праектам у аграпрамысловым комплексе. З 2005 па 2009 год у раёне пабудавана 13 аграгарадкоў.

Рэкордным за ўсю гісторыю раёна ў сельскай гаспадарцы быў 2008 год. Пры ўраджайнасці 43 цэнтнеры з гектара валавы збор збожжа склаў 96 тысяч тон. У 2009 годзе ад кожнай каровы надоена 4710 кілаграмаў малака, больш пяці тысяч кілаграмаў малака склала прадукцыйнасць дойнага статка ў сельскагаспадарчым прадпрыемстве па племянной справе "Ніва", унітарным прадпрыемстве "Мажэйкава", саўгасе "Лідскі", сельскагаспадарчым кааператыве "Бердаўка-Агра". У раёне рэканструяваны і абсталяваны сучасным абсталяваннем 7 малочнатаварных ферм, якія вырабляюць 25% малака ад агульнага аб'ёму. Пераабсталяванне матэрыяльна-тэхнічнай базы сельскай гаспадаркі будзе працягнута. Плануецца будаўніцтва 2-х свінагадоўчых комплексаў магутнасцю на 24 тысячы галоваў свіней у "Мажэйкаве" і сельгаспрадпрыемстве "Ніва", 2-х малочнатаварных ферм на 800 кароў у СВК "Бердаўка-Агра" і "Лідскай птушкафабрыцы". Да пачатку ўборкі збожжа ўраджаю 2010 года будуць пабудаваны

зернесушыльныя комплексы прадукцыйнасцю 30-40 тон збожжа ў гадзіну ў "Ходараўцах-Агра" і на "Лідскай птушкафабрыцы". Важнай задачай у сельскай гаспадарцы на 2010 год застаецца павелічэнне тэмпаў эканамічнага развіцця: рост вытворчасці сельгаспрадукцыі складзе 112%.

Паважаныя ўдзельнікі сходу!

Лідчына заўсёды славілася добрымі спецыялістамі будаўнічай галіны.

Каласальная праца ляжа на плечы калектываў будаўнічых арганізацый у бягучым годзе. Ім трэба будзе падрыхтаваць горад да рэспубліканскіх Дажынкаў. Завяршаецца будаўніцтва Лёдавага палаца. Будуць пабудаваныя: спартовы комплекс для гульнявых відаў спорту і стадыён па вул. Качана, лыжаролерная траса, спартовыя гульнявыя пляцоўкі ў раёне паркавай зоны ля кургана Неўміручасці. Працягнуцца работы па рэканструкцыі і рэстаўрацыі Лідскага замка з добраўпарадкаваннем тэрыторыі. У новым жылым мікрараёне па вул. Гастэла будзе пабудаваны дзіцячы сад.

Хачу сказаць, што мы ўжо на працягу апошніх пяці гадоў вядзём работы па добраўпарадкаванні гарадоў і сёлаў раёна. У гэтым кірунку актыўна працуюць прадпрыемствы жыллёва-камунальнай гаспадаркі, працягваючы пахвальныя традыцыі камунальнікаў 80-90-х гадоў, якія перамагалі ва ўсесаюзных, рэспубліканскіх і абласных спаборніцтвах. Аднак добраўпарадкаванне і будаўніцтва сацыяльных аб'ектаў - гэта праграма мінімум. Важнай задачай будаўнічых калектываў па-ранейшаму застаецца ўвод жылля. І яны дагэтуль пасяхова спраўляліся з гэтай задачай. Прывяду прыклад. Калі ў 2003 годзе ў раёне і горадзе здавалася толькі ледзь больш за 30-ць тысяч м2, то ў 2009 - ужо 77. У планах 2010 года - 100 тысяч м2 жылля.

Паважаныя ўдзельнікі сходу!

Усе, што мы робім, ствараем і будуем - не толькі для нас. Першым чынам — гэта для нашых дзяцей.

У раёне працуе 102 установы адукацыі. Калектывы кожнай імкнуцца даць максімум магчымасцяў для развіцця і замацаванні здольнасцяў навучэнцаў. Бо праца педагога важней за падмурак - ён фармуе будучыню. Выхаванцы нашых устаноў адукацыі пяты год займаюць перадавыя пазіцыі ў вобласці па выніках алімпіяд. Толькі за 2009 г. там заваявана 54 прызавыя месцы, на рэспубліканскіх - 15. 9 выпускнікоў нашых школ летась атрымалі стобальные вынікі па выніках цэнтралізаванага тэставання. Сёння ў зале прысутнічаюць лепшыя навучэнцы Лідскага раёна: Пранюк Аляксандр, Васілец Вольга, Лявоненка Павел, Шлапік Таццяна, Пятроў Артур, Сямак Павел, Кечка Павел, Бадуноў Ілля, Сербіна Ганна, Валюк Ганна, Нясон Кацярына, Кудла Ігар, Мінец Ірына. Гэта наш гонар і, упэўнены, будучая слава раёна. Давайце павітаем іх!

Будзем берагчы і гадаваць маладыя таленты. Яны і створаць квітнеючую Беларусь.

У раённых установах культуры і спорту дзетвара таксама мае магчымасць развіваць і замацоўваць свае таленты. Для гэтага ёсць усе ўмовы. Так, пасля аб'яднання ў новых умовах пачалі працаваць: цэнтр творчасці дзяцей і моладзі, раённая бібліятэка, гістарычна-мастацкі музей, калектыў якога сёлета ўзнагароджаны адмысловай прэміяй Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь дзеячам культуры і мастацтва. Навучэнцы музычнай вучэльні, дзіцячай школы мастацтваў штогод становяцца стыпендыятамі Адмысловага фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.

Спадзяемся і шчыра жадаем поспеху на будучых Алімпійскіх гульнях Наталлі Карэйве, Валеру Радзевічу і Паўлу Шурмею, якія ўжо сёння з'яўляюцца вядомымі спартоўцамі ў Беларусі і за яе межамі. Сярод 64-х фізкультурна-спартовых клубаў рэспублікі клуб Лідскага аддзела па фізічнай культуры, спорту і турызму заняў 2-е месца ў аглядзе-конкурсе на лепшую арганізацыю фізкультурна-спартовай працы па месцы жыхарства. Упэўнены, што гэта не мяжа для лідскіх спартоўцаў. А спартовыя аб'екты, якія будуць збудаваныя ў бліжэйшы час, дапамогуць ім дасягнуць новых высокіх вынікаў.

Варта адзначыць, што мы можам выраблять, будаваць, вучыцца і адпачываць дзякуючы службоўцам вайсковых частак Лідскага гарнізона - лётчыкам і памежнікам, супрацоўнікам аддзелаў унутраных спраў і МНС. Я удзячны ім за службу.

А аб нашых дасягненнях, памылках і перспектывах штодня нам распавядаюць карэспандэнты "Лідскай газеты", Лідскага радыё і тэлебачання, калектывы якіх неаднаразова ўганароўваліся прэміямі міністэрстваў і ведамстваў Рэспублікі Беларусь, станавіліся пераможцамі рэспубліканскіх конкурсаў "Залатое пяро" і "Тэлевяршыня".

Дарагія сябры!

Гісторыя - гэта факт, які адбыўся. Яе не пераробіш, не перапішаш. Але кожны з нас добра ведае, што гісторыю робяць людзі. Таму адмысловыя словы падзякі сёння хачу сказаць тым, хто стаяў ля вытокаў заснавання раёна, хто кіраваў сельскагаспадарчай галіной у гады стварэння і росквіту калгасаў і саўгасаў, хто будаваў і развіваў заводы і фабрыкі, хто ўмацоўваў сферу гандлю і бытавога абслугоўвання, хто развіваў яго культуру і вучыў дзяцей, лячыў хворых, забяспечваў бяспеку і спакой мірных грамадзян, працаваў у органах выканаўчай улады і мясцовага самакіравання.

Дзякую ўсіх, хто працягвае гэты пахвальны шлях, хто годна, прафесійна і з поўнай аддачай працуе для росквіту Лідскага раёна.

Ад усёй душы жадаю моцнага здароўя, аптымізму, стабільнасці і новых працоўных поспехаў. Хай мір і паразуменне пануюць у нашых сем'ях, нашым раёне і роднай Беларусі.




# студзень - сакавік

**Каля 1340 года.** Ліда паводле тастаманту Вялікага князя Гедзіміна стала валоданнем князя Кейстута. (Тастамант напісаны ў 30-я гады 14-га стагоддзя, Гедзімін загінуў у 1341 годзе.)

**Каля 1370 года.** Вялікі князь Альгерд перадаў Ліду ў трыманне свайму служцы Вайдылу *(Шымялевіч М. Горад Ліда і Лідскі замак.// Віленскі каляндар. Вільня, 1906. С. 48)..*

**1440 год.** Ліпнішкі ад Кейстутавічаў пераходзяць да Альгердавічаў

Кароль Казімір перапраўляўся цераз Нёман каля Дубна, у Вільню ехаў праз Новы Двор - Васілішкі - Радунь - Эйшышкі

Староста эйшышскі Мантаўт-Аляксандр.

**1450-1460 гады.** Будаўніцтва касцёлаў у Крупаве (Крупа) і Дылеве (Новая Ваверка).

**1460 год.** Лідскі прыход прыняў ксёндз Стагнеў.

**1480 год.** У адной з грамат Казіміра Ягелончыка вызначаюцца кошт піцейных водкупаў і памеры штрафаў за іх парушэнне *“.... 2 капы з корчмаў Лідскіх...., а 2 рублі ў Васілішках з вінаў ...”.*

**Каля 1500 года**. Белагрудскі двор падзелены на дзве часткі, яго левабярэжная частка адышла да віленскага цівуна Андрэя Завішы, а правабярэжная - да Юрыя Завішы (Завішыча).

**1520 год.** Дворышча належыць Юрыю Ільінічу.

**1540 год.** Ёдкі належаць Нарку Ёдку.

**Каля 1540 года.** Заполле адышло Яленскаму.

**1550 год.** Заполле адышло Юршы Пятровічу.



***Вайдыла.*** *Малюнак мастака Арлена Кашкурэвіча. Ілюстрацыя да паэмы Пятра Бітэля “Замкі і людзі”*

**Каля 1550 года.** Згадваюцца Курасоўшчына (Навіцкія- 2), Качанова, Вялікі Ольжаў, Малы Ольжаў, Леснікі, Куроўшчына.

**1560 год.** Князь Андрэй Вішнявецкі купіў с. Вашкевічы ў Завішаў.

**1570 год.** Ваверка атрымала статус мястэчка.

**1560-1570 гады.** У Лідзе і Сяльцы створаны кальвінісцкія зборы.

**1580 год.** Прызначаны новы лідскі пробашч Ян Юшынскі.
З Гародні пачаўся паход Стэфана Баторыя на Пскоў.

**Каля 1600 года.** У Олдаве пабудавана праваслаўная царква.

**1650 год.** Рэканструюецца царква Святога Спаса, кароль Ян Казімір передае яе праваслаўным вернікам.

**1660 год.** У валоданне маёнткам Голдава (Олдава) уступіў Магілёўскі праваслаўны біскуп Клімент Трызна.

**1670 год.** Ліпнішкі і Геранёны перададзены на ўтрыманне літоўскай артылерыі.

**1680 год.** Лідскі войскі Крыстаф Пакаршэўскі і яго жонка Дарота заснавалі ў Слоніме дамініканскі кляштар.

**1680 год.** Польскі кароль і Вялікі князь літоўскі Ян Сабескі пацвердзіў мястэчку Голдаву права на гандаль і правядзенне кірмашоў.

**1690 год.** Людвіка Караліна Радзівіл (1667-1695)- князёўна нейбургская валодала Беліцай "з фальваркамі, млынамі, корчмамі, жыдамі, папом зблянскім" - 442 дымы.

**1730 год.** Язэп Сцыпіён дэль Кампа жэніцца на Вярэні (Wierena) Фірлей з Дамбровіц, ім было падаравана Балотнае, якое пазней атрымала назву Веранова (Wierenowo - Воранава) ад імя Вярэні Фірлей, а не ад горада Вяроны.

**1740 год.** У Вялічках жывуць 36 душ, у Песках - 38.

**1750 год.** Двор Мінойты набыў падскарбі ВКЛ Язэп Салагуб - уладальнік Васькевічаў (Вашкевічаў).
Пабудаваны плябанны драўляны дом у Лідзе пры фарным касцёле.

**1770 год.** Выдадзена Генеральная карта Польшчы і ВКЛ на французскай мове. На карце прадстаўлены два дзесяткі селішчаў Лідчыны і два гасцінцы.

**1770 год.** Біскупам Тамашом Зянковічам пабудаваны Лідскі рымска-каталіцкі касцёл з сумы 50000 тынфаў, ахвяраваных віленскім біскупам Міхалам Зянковічам. Пабудаваны на месцы старога драўлянага. З дрэва, што засталося пасля разборкі, пабудавана праваслаўная (?) царква *(Шымялевіч, 1906, с. 52)*

**1790 год.** Завершана будаўніцтва Васілішскага цаглянага касцёла пры кляштары дамініканцаў, пачатае ў 1769 г.

**1800 год.** Відугораўскую зямлю набыў Радзевіч.
Рэктар піярскага калегіюма Себасцян Дамброўскі прыступіў да будаўніцтва Язэпаўскага касцёла.

**1810 год.** У піярскім калегіюме 42 вучні. Маецца 5-класная парафіяльная школа.
Абшарнікам Каралём Лясковічам у Бабрах пабудаваная царква Ўзнясення Крыжа Божага, тады ж пасаджаны дуб.

**1820 год.** Неўраджай і голад.
Завершанае будаўніцтва Турэйскай царквы.
У піярскім калегіюме 18 вучняў. Школа пераведзеная ў парафіяльную.

**1820 год.** Лідскай поштай, падведамнай паштамту Вільні, кіраваў тытулярны дарадца Кароль Сташэўскі. *(Палітычны каляндар на 1820 г.)*
Закрыты паштовы гасцінец на Беліцу.
Пабудаваны другі плебаніяльны дом пры фарным касцёле.

**Каля 1820 года.** Уладальнік Шчучына князь Ксаверы Друцкі-Любецкі - расійскі міністр фінансаў.

**1830 год.** Спадчыннікі Ленскага прадалі Мінойты Даменіку Буткевічу.

Бурай у горадзе разбурана нейкая праваслаўная царква. *(Шымялевіч, 1906, с. 52.)*

**1830 год.** Лідская пошта ператворана ў павятовую паштовую кантору 2 класа і падпарадкавана Інспекцыі 5 паштовай Віленскай акругі. Да канторы належала 5 службоўцаў: начальнік, памочнік і 3 паштары. Выдзялялася на ўтрыманне пошты і канцылярскія выдаткі штогод 600 рублёў.

**1840 год.** У Ваверцы на сродкі Самуэля Кастравіцкага збудаваны мураваны касцёл.

**1850 год.** У Лідзе працягвае функцыянаваць дваранская школа, яе капеланам быў Клеменс Лінкін.

**1850 год.** Першая беларуская паэтка Адэля з Устроні Лідскага павету напісала паэму "Мачаха" на беларускай мове і верш "Кракаў" на польскай мове.

## 1860 год

***З даведніка "Гарадскія паселішчы ў Расійскай Імперыі. С. Пецярбург, 1860 г. Т.1., С.162-165" .***

**"ЛІДА.**

Павятовы горад пры рацэ Лідзейцы.

1795 снежня 14. Горад Ліда далучаны да Расіі *(а)*. 1796 г. жніўня 8. Пры заснаванні Віленскай і Слонімскай губерні, горад Ліда прызначаны павятовым горадам гэтай апошняй *(б)*. 1797 лютага 6. Замест прызначаных раней дзвюх губерняў, Віленскай і Слонімскай, павелена ўтварыць адну губерню, пад назвай Літоўскай, з 19 паветаў; у лік павятовых гарадоў увайшоў г. Ліда *(в)*. 1801 верасня 9, 1802 студзеня 1 і жніўня 28. Слонімская губерня адноўленая пад імем Гарадзенскай: г. Ліда паказаны ў ліку павятовых гарадоў гэтай губерні *(г)*.- 1842 снежня 18. Для выраўноўвання паўночна-заходніх губерняў Імперыі ў прасторы і насельніцтве, павелена ўтварыць гэтыя ў новым складзе; з прычыны гэтага ад Віленскай губерні адышлі некаторыя з ранейшых паветаў і ў замен гэтых далучаныя да яе тры паветы іншых губерняў, у тым ліку ад Гарадзенскай губерні Лідскі павет *(д)*.

Горад Ліда належыць да найстаражытнейшых літоўскім паселішчаў. Мясцовасць вакол яго складала самастойны ўдзел князёў дайнаўскіх, рэшткі палаца якіх захаваліся ў фальварку Дайнава каля Ліды. Княства Дайнаўскае разбуранае было ў 1180 г. літоўцамі, якія заснавалі тут драўляны гарадок Ліду (па-літоўску значыць: пасека або поле, вычышчанае ад лесу). Гарадок гэты, як памежны паміж уладаннямі Літвы і Літоўскай Русі, вельмі часта цярпеў ад ваенных нападаў. Да Ліды пранікалі нават манголы ў 1242 г., але былі пабітыя. У 1326 г. вялікі князь Гедзімін пабудаваў тут каменную цвердзь. Ягайла, у 1380 г., падарыў Ліду свайму ўлюбёнцу Вайдылу; але ў 1381 г. горад былі адабраны ў яго князем трокскім Кейстутам. У 1392 г. князь Вітаўт, разам з тэўтонскім гросмайстрам Конрадам Валенродам узяў Лідскі замак і спустошыў горад. Другі раз спусташэнне ад крыжакоў выцерпела Ліда ў 1394 годзе. Акрамя таго нападалі на Ліду князь смаленскі Юры ў 1406 г. і князь літоўскі Свідрыгайла ў 1434 г. Пасля гэтага Ліда была зроблена староствам і аддадзена ў кіраванне хану Хаджы-Гірэю. У вайне Расіі з Польшчаю, Ліда таксама трывала спусташэнні: найважнейшае ўчынена ў 1659 г. князем Хаванскім, які спустошыў замак і спаліў горад; у 1702 годзе замак быў падарваны шведамі; а ў 1794 канчаткова разбураны рускімі войскамі. Пры гэтым выпадку гарадскі архіў быў вывезены ў Смаленск, дзе і згарэў у 1812 годзе *(е)*.

Герб г. Ліды зацверджаны ў 1845 г. чэрвеня 9. Малюнак яго: Шчыт падзелены на дзве паловы: у верхняй памешчаны губернскі герб, а ў ніжняй - у зялёным полі сноп хлеба і серп, у знак таго, што жыхары Лідскага павету займаюцца выключна земляробствам. *(Полн. Соб. Зак. Т. XX, № 10064.)*

Найвысока зацверджанага плану няма; існуе толькі стары план, складзены ў 1787 годзе, калі горад знаходзіўся ў веданні каралеўскага старасты Іосіфа дэ Кампа-Сцыпіёна *(ж)*.

*Паведамлена М-ву В. Д. Начальнікам. Віл. губ. 26 лістап. 1865 г. Арк. 590.*

1836 траўня 29. З-за недастатковасці гарадскіх прыбыткаў Ліды дазволена на ўтрыманне паліцыі ў гэтым горадзе выдаткоўваць ад скарбу па 2 тыс. руб. у год.

---

*(а)* Полн. Соб. Зак. Т. XXIII, № 17418.

*(б)* Т. XXIII, №№ 17494 и 17495.

*(в)* Т. XXIV, № 17788.- (г) Т. XXVI, 20004; Т. XXVII, №№ 20099 , 20394 и 20454; Т. XLIV, № 20394.

*(д)* Т. XVII, 16347.

*(е)* Черты из Ист. Литовского народа, Киркора, стр. 11-13; Хронологич. показание достопримеч. событий в Вил. губ. до 1852 г., его же; ср. Ист. Гос. Рос. Карамзина V, 102- 107.

*(ж)* Полн. Соб. Зак. Т. XI, № 9240.

Жыхарам г. Ліды нададзены палёгкі нароўні з жыхарамі іншых, павятовых гарадоў Віленскай губерні (гл. г. Вільня).

У г. Лідзе мяшчанскае грамадства, для складання прысудаў ад імя мяшчанскага саслоўя, як па раскладцы павіннасцяў, так і наогул па справах, якія належаць да размеркавання ўсяго грамадства, абірае з свайго асяроддзя дэпутатаў (гл. г. Вільня).

Для загадвання гарадской гаспадаркай і справамі грамадскімі і судовымі асоб гарадскіх саслоўяў, у г. Лідзе маюцца:

Магістрат.
Сірочы Суд.
Славесны Суд.
Гарадскі Дэпутацкі Сход.
Кватэрная Камісія.

I. Насельніцтва: мужчынскага полу - 1.809, жаночага полу -1.906: усяго - 3.715.
II. Прыбыткі: звычайныя - 1.231 р. 88 3/4 к.
Выдаткі: бягучыя -1.231 р. 883/4 к.
Капітал: недатыкальны - 68 р. 4 к.

Паводле вылічэнняў, зробленых пры тапаграфічнай здымцы, гораду Лідзе належыць зямлі -1.831 дзес. 489 саж. У тым ліку знаходзіцца: унутры гарадской рысы -147 дзес. 1.848 саж., па-за гарадской рысай - 1.683 дзес. 1.041 саж.”

**1860 год.** У с. Парачаны адкрыта броварная вытворчасць.
Паштовая станцыя з Лупеніц пераведзена ў с. Вашкевічы, а з Радзівонішак у Масявічы.

**Каля 1860 года.** Люцыян Кастравіцкі прадаў за 200 тысяч рублёў золатам Паперню (3000 гектараў) абшарніку Слізеню, з правам выкупу на працягу 100 гадоў.

**1870 год.** На Голдаўскіх могілках пабудаваная царква са званіцай.

**1880 год.** Паштовая станцыя з Ганчароў пераведзена ў фальварак Дзяковічы.

**1890 год.** На Лідскай тытунёва-махорачнай фабрыцы працуюць 100 чалавек.

**1890 год.** Лідская ПТК атрымала 5 клас.

**1900 год.** Дзейнічалі: Перапечыцкае цаглянае прадпрыемства.
Тытунёва-махорачная фабрыка Ў.І. Віленчыка і Д.Ш.Рабіновіча (спадчыннік Папірмейстара). Гадавая вытворчасць 197800 рублёў. 120 працоўных. Выпушчана 400 пачкаў тытуню, 228 тысяч пачкаў махоркі, 17,6 млн. штук папярос.
На Пудзінскай лесапільнай вытворчасці 46 працоўных, прадукцыі на 23 тыс. рублёў.

**1900 год.** У Лідзе размешчаныя 1,3 і 4 батальёны 172 Лідскага пяхотнага палка.

**1910 год, 10 студзеня.** Настаўніца Клаўдзія Катовіч правяла ў Голдаве небывалае дзіцячае свята.

**1910 год.** Высілкамі ксяндза Віктара Каханскага пабудаваны Восаўскі касцёл.

**1920 год, 20 лютага.** Віленскі Сойм уключыў Сярэднюю Літву ў Рэч Паспалітую.

**1920 год, 28 сакавіка (ст. ст.).** Беліцкая Свята-Духаўская царква захоплена католікамі.

**1920 год.** У Лідзе ў Паўднёвым гарадку размешчаны 5 лётны полк з фанернымі самалётамі.

**1930 год, 30 сакавіка.** У Лідскай акрузе створаны акруговы выбарчы камітэт Беларускага сялянска - працоўнага пасольскага клуба “Барацьба” па адрасе: Міцкевіча, 16.

**1930 год.** ЦК КПЗБ стварыў Лідскі падпольны акруговы камітэт КПЗБ.
Адкрыта швейная майстэрня Антонія Кужмы і Антонія Хвядолека.
Адкрыты рэстаран “Аазіс” Аляксандра Тамасіка па вул. 3 Траўня, 4.

**1940 год.** У заходніх абласцях рэспублікі ўсталяваныя абавязковыя нормы здачы дзяржаве аднаасобнымі

гаспадаркамі збожжа і бульбы.

**1940 год.** У Лідзе 11 лячэбна-прафілактычных установ на 135 ложкаў, 38 лекараў. Адкрытыя яслі на 30 месцаў. У горадзе 4428 навучэнцаў, адкрытыя 2 новыя сярэднія школы і 2 вячэрнія.

**1940 год.** На заводзе сельскагаспадарчых машын пабудаваны новы зборачны корпус, у ліцейным цэху ўсталяваныя дзве новыя вагранкі. Дырэктары завода: Іосіф Дамашэўскі (2 тыдні), затым Шчаглоў і Гінзбург.

Партыйная арганізацыя фабрыкі "Ардаль"-10 членаў УКП(б) і 3 кандыдаты. На фабрыцы выпушчаныя 1385 тысяч пар абутку.

**1940 год.** У мястэчку Беліца жывуць каля 700 габрэяў.

**1950 год, 1 сакавіка.** Аддзяленне хуткай санітарнай дапамогі па рашэнні гарвыканкама становіцца самастойным прадпрыемствам - станцыяй хуткай медыцынскай дапамогі

**12 сакавіка.** Выбары ў Вярхоўны Савет.

**1950 год.** На мясакамбінаце пабудаваны каўбасны цэх

На прамкамбінаце пачалі выпуск мэблі.

**1960 год, 24 сакавіка.** У газеце "Уперад" змешчаная артыкул М. Бурачэўскага "Нізкія учынкі "святога" айца" пра ксяндза Роека.

**1960 год.** У цэнтры в. Голдава ўзводзіцца будынак бальніцы на 25 ложкаў. Ініцыятарамі выступілі калгаснікі, бальніцу вырашылі будаваць саматугам. Кожны калгаснік абавязаўся адпрацаваць на будоўлі 5 працоўных дзён.

**1970 год, 22 лютага.** Праведзены свята зімы. Святочная інтэрмедыя ў выкананні артыстаў народнага тэатра ГДК і народнага ансамбля песні і танца "Лідчанка". Масавыя гульні, конкурсы спаборніцтвы, забаўкі. Конкурсы чытальнікаў і танцораў. Гралі аркестры. Катанне на тройках,санкавых цягніках, арэлях, каруселях. Масавыя гульні, карагоды, танцы. Гульні: "Бег у мяшках", "Дастань прыз", "Рыбаловы", "Бег на адной лыжы", "Перацягванне каната", катанне са снежнай горкі на Лідскім возеры, гандаль кнігамі, часопісамі, ілюмінацыя, феерверк.

**1970 год.** На мясакамбінаце пабудаваны халадзільнік 1500 тн умоўнай ёмістасці, 60 тн/суткі замарожвання, 45 тн/суткі астуджэння.

**1980 год, 1 студзеня.** У горадзе і раёне 17 лячэбных установ на 1690 ложкаў, 58 іншых медыцынскіх установ, 289 лекараў, 893 сярэдніх медыцынскіх працаўнікоў, усяго 1852 супрацоўнікі.

**25 студзеня.** Адбылася 14 абласная міжсаюзная канферэнцыя прафсаюзаў. У спрэчках выступіла работніца Лідскага камбіната харчовых канцэнтратаў Г.М. Абрамовіч.

**3 лютага.** Адбылося свята зімы. На машынах праехалі 33 волаты, Ямеля,гаспадыня Меднай гары, Даніла-майстар, Кот у ботах, тры мушкецёры, Бураціна, доктар Айбаліт са звярамі, чэрці, ведзьмы і іншыя казачныя персанажы. У парку вылепленыя са снегу скульптуры звяроў і герояў казак. Святочная інтэрмедыя. На адкрытай эстрадзе выступалі ўдзельнікі мастацкай самадзейнасці, працавалі атракцыёны, гралі духавыя аркестры. Праводзіліся масавыя гульні, конкурсы, спаборніцтвы, карагоды, танцы.

**24 лютага.** Адбыліся выбары ў ВС БССР і мясцовыя саветы. У ВС БССР абраныя 6 чалавек: Л.І. Бутэнка, А.С. Руткоўская, З.К. Байгот, А.А. Каранюк, Максім Лужанін, С.А. Пранько. У гарсавет абраныя Мазоўка, Пархута, Малахоўскі, Азаранка, Васільеў, Анацка, Зялінская, Слыш, Катвіцкая Аліцыя, Дзяржынскі, Казлоў, Іванова Соф'я, Ус Іосіф, Енка Віктар, Ударцаў, Папова, Тэрзі, Бакшт, Выгоўскі, Грыневіч, Дулуб, Рамановіч, Грынюк, Логаш - усяго 172 дэпутаты.

**1990 год, 18 лютага.** У Фарным касцёле праведзена першая моладзевая імша на Беларусі (пасля вайны), правёў яе ксёндз Міхал Гуроўскі.

**2000 год, 1 студзеня.** Тэрыторыя Лідскага раёна 1537 (1569) км кв. Насельніцтва 46 837 чал., 48,1 (50,7) % беларусы, 45,4 %(42,2) - палякі, 5,1 %(5,6) рускія, 1,4 %(1,0) украінцы, па 0,1 % літоўцы і татары, 0, 2(0,3) - прадстаўнікі іншых нацыянальнасцяў. 13 калгасаў, 4 саўгасы і птушкафабрыка. У сельскай гаспадарцы занятыя 6946 чалавек. 35 фермерскіх гаспадарак, за імі замацавана 361 га с/г угоддзяў, 6 прадпрыемстваў: шклозавод "Нёман", торфабрыкетныя заводы "Лідскі" і "Дзітва", АТ "Лідлён", лясгас і ветсанутыльзавод.

# Траццякоўцы могуць неўзабаве святкаваць 450-годдзе

## МЕТРЫКА

### Вялікага Княства Літоўскага
### Кніга запісаў № 46/46 (1562 - 1565). Справа 11.

***Апавяданне («сознанье») перад Жыгімонтам Аўгустам і зачытанне «листа записного» харунжыча земскага ВКЛ, двараніна каралеўскага, пана Себасцьяна Мікалаевіча Траццяка аб тым, што ён перадае пасля сваёй смерці дзве часткі бацькоўскіх маёнткаў у Лідзе і Бержах на сумуў тысячу залатых жонцы Альжбеце Ерданаўне.***

“Лет(о) Бож(его) нарож(енья) 1565, м(е)с(я)ца сент(ябра) 2 дня.

Г(о)с(по)д(а)ръ король его м(и)л(о)сть и великий княз Жикгимонт Августъ рачилъ казати до книгъ его м(и)л(о)сти г(о)с(по)д(а)ръскихъ канъцлерейскихъ записати.

Ижъ пришедши обьличъне перед его королевъскую м(и)л(о)сть дворенинъ его королевское м(и)л(о)сти, панъ Миколаевич Собестяновичъ* Третякъ сознalъ и поведилъ то перед его королевъскою м(и)л(о)стью. Ижъ онъ, узнавъши ку собе верную м(и)л(о)сть и на всемъ повольное, цнотъливое в малъженьстве претивъ собе захование малъжонъки своее пани Альжъбеты *Ер*дановны, зъ закличимя, што онъ, хотечи *ей,* малъжоньце своей, приязню своею нагородити и отдати, самъ по своей доброй воли записалъ ей по животе своемъ две части именей своихъ отъчизныхъ и материстыхъ, то есть у Лиде и в Бержах, в певном суме п(е)н(е)зей в чотырохъсотъ копахъ грошей личьбы литовъское. На што онъ и листъ свой записный под печатью и с подписю руки своее, и тежъ под печатьми никоторыхъ врадниковъ его королевъское м(и)л(о)сти дворныхъ преречоной малъжонъце своей далъ.

Который листъ *он* перед его королевъскою м(и)л(о)стью показывалъ и просилъ короля его м(и)л(о)сти, абы его королевъская м(и)л(о)сть, припустивъши то ку ведомости своей г(о)с(по)д(а)ръской тое сознанье и оповеданье, и тотъ листъ его записный до книгъ его м(и)л(о)сти г(о)с(по)д(а)ръскихъ канъцлеремскихъ росказать записати рачил. Которым же листъ Собестяна Третяка слово отъ слова такъ ся в собе маеть:

*«Я, Собестянъ Миколаевичъ Третякъ, хоружичъ земъский Великого Князства Литовъского, дворенинъ его королевъское м(и)л(о)сти, вызнаваю и чиню явно симъ моимъ листомъ, кому будеть потреба того ведати.*

*Ижъ есми дознавъши доброе, повольное, статочъное захованье в малъженьстве малъжонъки моее милое Алжъбеты Ердановъны, зъ закличимя и,*

“Лета Божага нараджэння 1565, месяца верасня, 2 дня.

Гаспадар кароль яго міласць і вялікі князь Жыгімонт Аўгуст распарадзіўся загадаць да кніг яго міласці гаспадарскіх канцылярскіх запісаць.

Сыходзячы з таго, што прыйшоўшы асабіста перад яго каралеўскую міласць дваранін яго каралеўскай міласці, пан Себасцьян Мікалаевіч Траццяк распавёў і паведаміў тое перад яго каралеўскай міласцю. Сыходзячы з таго, што спазнаўшы да сябе вернае каханне і ва ўсім паслухмянае, цнатлівае ў замустве да сябе стаўленне жонкі сваёй пані Альжбеты Ерданаўны, заключаючы, што ён, хочучы яе, жонку сваю, прыязнасцю сваёю ўзнагародзіць і аддаць, сам па сваёй добрай волі, запісаў ёй пасля сваёй смерці дзве часткі маёнткаў сваіх бацькоўскіх і мацярынскіх, гэта значыць, у Лідзе і ў Бержах (Біржах), на пэўную суму пенязяў у чатырохстах копах грошаў лічбы літоўскай. На што ён і ліст свой запісны пад пячаткаю і з подпісам рукі свае і таксама пад пячаткамі некаторых ураднікаў яго каралеўскай міласці шляхціцаў названай жонцы сваёй даў.

Гэты ліст ён перад яго каралеўскаю міласцю паказваў і прасіў караля, яго міласць, каб яго каралеўская міласць, прыпусціўшы да ведама свайго гаспадарскага тое паведамленне і апавяданне, і той ліст яго запісны да кніг яго міласці гаспадарскіх канцылярскіх загадаць запісаць распарадзіўся. Той жа ліст Себасцьяна Траццяка слова ў слова такое ў сабе мае:

*“Я, Себасцьян Мікалаевіч Траццяк, харунжыч земскі Вялікага Княства Літоўскага, дваранін яго каралеўскай міласці, усведамляю і чыню яўна гэтым маім лістом, каму будзе патрэба тое ведаць.*

*Сыходзячы з таго, што спазнаўшы добрыя, паслухмяныя, самавітыя паводзіны ў замустве жонкі маёй мілай Альжбеты Ерданаўны, заключа-*

* У слове Собестяновичь апошнія пяць літар узяты ў дужкі, трэба чытаць Собестян, гл. ніжэй тэкст дакумента.

*хотечи тое вызнати и вперед поволнейшую, даю и симъ листомъ нашимъ записую по животе моемъ вперод менованой жоне моей, моей Алжъбете, две части именей своихъ отьчизныхъ и материстыхъ у Лиде и в Бержахъ, которые на мене з делу отъ братьи моей прийти мають, в певно суме п(е)н(е)зей в тисечу золотых, то есть в чотырохъсотъ копахъ грошей литовъскихъ, личечи в кожъдый грошъ по десети п(е)н(е)зей.*

*Мает жона моя, Алжъбета, по животе моемъ две части оныхъ именей моихъ помененыхъ зъ землями пашными дворными, зъ сеножатьми, з бояры путьными, з людми тяглыми и ихъ земълями, и сеножатьми, з млыны, з реками, з озеры, зъ ставы у моцъ свою вземъши, зо всими пожитьки и владностью в той суме п(е)н(е)зей в чотырохъсотъ копахъ грошей держати и вживати до отъданья тое сумы п(е)н(е)зей отъ братьи и отъ близкихъ моихъ.*

*А братья и никоторые близкие мои у две части тыхъ именей моихъ, отъ мене ей записаныхъ, хотя бы она и замужъ пошла, не отъдавъши ей тое сумы п(е)н(е)зей, ничимъ ся уступовати и переказы жадное в держанью тыхъ двухъ частей чинити не мають. И кгды братья и близкие мои тую суму п(е)н(е)зей чотыриста копъ грошей спольна ей отдадуть и заплатять, тогды на онъ час повинъна она будеть две части тыхъ именей имъ поступити.*

*А для лепшое твердости сего моего листу, заховываючи водле уфалы соймовое, оповедилъ и объявилъ то г(о)с(по)д(а)ру королю его м(и)л(о)сти и великому кн(я)зю Жикгимонъту Августу, пану нашому м(и)л(о)стивому. Которого сознанья и выпис книгъ ей, жоне моей, данъ.*

*И на то есми далъ сес мой листь под моею печатью и с подписю руки моее.*

*А при томъ были и того добре сведоми, и за прозбою моею печати свои к сему моему листу приложити рачили ихъ м(и)л(о)сть: панъ Остафей Воловичъ, маршалок дворный, подскарбий земъский, писар г(о)с(по)д(а)ръский, державца могилевъский; панъ Ян Шимъковичъ, маршалокъ и писар г(о)с(по)д(а)ръский, староста тыкотиньский; панъ Янъ Миколаевичъ Гайко, писар г(о)с(по)д(а)ръский, конюший городеньский, дер(жавца) ошмяньский, утеньский и красносельский; а панъ Миколай Нарушевичъ, писаръ его королевъское м(и)л(о)сти, державца марковъский и мядельский.*

*Писан у Вильни, лет(о) Бож(его) нарож(енья) тисеча пятьсоть шестьдесять второго, м(е)с(я)ца апрел пятого дня».*

А такъ его королевьская м(и)л(о)сть того доброволько сознанья и оповеданья пана Себестяна Третяка и *теж* листу его записного выслухавъши, и ку ведомости своей г(о)с(по)д(а)ръской то припустивъши, рачилъ казати до книгъ его королевъское м(и)л(о)сти канъцлярейских записати. На што и выпис с книгъ под печатью его королевъское м(и)л(о)сти паней Собестяновой Третяковой, паней Альжбете Ердановне есть данъ.

Писанъ у Городне."

*ючы і, хочучы тое мецъ і ў будучым яе паслухмянай, даю і гэтым лістом нашым запісваю пасля смерці маёй раней названай жонцы маёй, маёй Альжбеце, дзве часткі маёнткаў сваіх бацькоўскіх і мацярынскіх у Лідзе і ў Бержах, якія на мяне з падзелу ад братоў маіх прыйсці маюць, у пэўнай суме пенязяў у тысячу залатых, гэта значыць у чатырохстах копах грошаў літоўскіх, лічачы ў кожны грош па дзесяць пенязяў.*

*Мае жонка мая, Альжбета, пасля маёй смерці, дзве часткі гэтых маёнткаў маіх названых з землямі ворнымі дворнымі, з сенажацямі, з баярамі путнымі, з людзьмі цяглымі і іх землямі і сенажацямі, з млынамі, з рэкамі, з азёрамі, са ставамі ў моц сваю ўзяўшы, з усімі пажыткамі і ўласнасцю ў той суме пенязяў у чатырохстах копах трымаць і скарыстоўваць да аддачы той сумы пенязяў ад братоў і ад блізкіх маіх.*

*А браты і ніякія блізкія мае ў дзве часткі тых маёнткаў маіх, ад мяне ёй запісаных, хоць бы яна і замуж пайшла, не аддаўшы ёй той сумы пенязяў, нічым ўступацца і ніякіх перазагадаў у трыманні тых дзвюх частак чыніць не маюць. А калі браты і блізкія мае тую суму пенязяў чатыраста коп грошаў спаўна ёй аддадуць і заплацяць, тады яна ў той жа час павінна будзе дзве часткі тых маёнткаў ім саступіць.*

*А для лепшай цвёрдасці гэтага майго ліста, дзейнічаючы паводле ўхвалы соймавай, апавясціў і аб'явіў тое гаспадару каралю яго міласці і вялікаму князю Жыгімонту Аўгусту, пану нашаму міласціваму, каб з гэтага апавяданне і выпіс з кніг ёй, жонцы маёй, даць.*

*І на тое даў гэты мой ліст пад маёй пячаткай і з подпісам рукі маёй.*

*А пры тым былі, і ў тым добра абазнаныя, і па просьбе маёй пячаткі свае да гэтага майго ліста прыкласці распарадзіліся іх міласці: пан Астафей Валовіч, маршалак дворны, падскарбі земскі, пісар гаспадарскі, дзяржавец магілёўскі; пан Ян Шымкавіч, маршалак і пісар гаспадарскі, стараста тыкоцінскі; пан Ян Мікалаевіч Гайко, пісар гаспадарскі, стайнік гарадзенскі, дзяржавец ашмянскі, уценскі і краснасельскі; і пан Мікалай Нарушэвіч, пісар яго каралеўскай міласці, дзяржавец маркаўскі і мядзельскі.*

*Пісаны ў Вільні, лета Божага нараджэння, тысяча пяцьсот шэсцьдзесят другога, месяца красавіка, пятага дня."*

А так яго каралеўская міласць тое дабраахвотнае паведамленне і апавяданне пана Себасцьяна Трацяка, а таксама ліст яго запісны выслухаўшы, і да ведама свайго гаспадарскага тое прыпусціўшы, распарадзіліся загадаць да кніг яго каралеўскай міласці канцылярскіх запісаць. На што і выпіс з кніг пад пячаткаю яго каралеўскай міласці пані Себасцьянавай Трацցяковай, пані Альжбеце Ердаўне дадзены.

Пісаны ў Гародні."

Такім чынам на старонках лідскай гісторыі высвецілася яшчэ адно імя - каралеўскі дваранін пан **Себасцьян Мікалаевіч Трацціяк,** харунжыч земскі ВКЛ, трэба разумець - сын земскага харунжага ВКЛ, хаця даследчыкі Метрыкі падаюць яго самога як харунжага земскага ВКЛ. Гэта магло быць, тады трэба Себасцьяна Мікалаевіча Трацціяка лічыць спадчынным харунжым земскім ВКЛ.

Пан Себасцьян Трацціяк - багаты пан, бо мае маёнткі з *"землямі ворнымі дворнымі, з сенажацямі, з баярамі путнымі, з людзьмі цяглымі і іх землямі і сенажацямі, з млынамі, з рэкамі, з азёрамі, са ставамі ў ... суме пенязяў у чатырохстах копах"* або у *"суме пенязяў у тысячу залатых, гэта значыць у чатырохстах копах грошаў літоўскіх, лічачы ў кожны грош па дзесяць пенязяў."* Маёнткі гэтыя ён мае *"ў Лідзе і ў Бержах"*, што на першы погляд не зусім зразумела, бо гаворка ідзе пра вялікія абшары зямель, плошча якіх большая за ўсю плошчу горада Ліды на той час. Каб зразумець гэта, трэба згадаць, што многія беларускія гарады мелі гарадскія землі за гарадской рысай. Не выключэнне тут і Ліда. " Паводле вылічэнняў, зробленых пры тапаграфічнай здымцы *(перад 1859 г.)*, гораду Лідзе належыць зямлі -1.831 дзес. 489 саж. У тым ліку знаходзіцца: унутры гарадской рысы -147 дзес. 1.848 саж., па-за гарадской рысай - 1.683 дзес. 1.041 саж." *(Даведнік Гарадскія паселішчы ў Расійскай Імперыі. С. Пецярбург, 1860 г. Т.1., С.162-165 ).* Гэта значыць, у гарадской рысе у 1860 г. знаходзілася менш, чым адна дзесятая ўсёй гарадской зямлі. Такая сітуацыя магла мець месца і ў 16-м стагоддзі. Таму землі пана Трацціяка ў Лідзе, відавочна, гэта ёсць гарадскія землі па-за рысай горада, але трэба чакаць, што размешчаны яны ў непасрэднай блізкасці ад горада.

Пан Трацціяк мае *"землі ворныя дворныя"*, гэта абсалютна дакладна абазначае, што Трацціяк меў **двор** (фальварак, маёнтак). У той жа час баяры путныя і людзі цяглыя мелі свае землі, асобныя ад земляў дворных, і найбольш верагодна жылі на гэтых землях.

Ці засталася нейкая памяць пра пана Трацціяка на Лідчыне?

Калі мы глянем на карту бліжніх ваколіцаў Ліды, то ў вочы кідаецца вёска **Трацціякоўцы**, размешчаная на поўдзень ад Ліды недзе з кіламетр за кальцавой дарогай.

У спісе населеных пунктаў Віленскай губерні Расійскай Імперыі *(пасля 1904 г.)* у Лідскай воласці паказана **вёска Трацціякоўцы** на р. Астровік (суч. Астраўлянка), 121 жыхар ( 53 муж., 68 жан.), 112 дзесяцін зямлі, і паказаны **маёнтак Трацціякоўцы** (пана Калясінскага), 21 жыхар (13 муж., 8 жан.), 104 дзесяціны зямлі. Падаецца размяшчэнне абодвух населеных пунктаў: за 5 вёрст ад горада і за 5 вёрст ад чыгуначнай станцыі Ліда, што цалкам супадае з сённяшнім размяшчэннем Трацціякоўцаў.

**З усяго сказанага выцякае:**

- найбольш верагодна, што сучасная вёска Трацціякоўцы стаіць на землях згаданага ў Метрыцы пана Трацціяка і атрымала назву ад імені гэтага Трацціяка;

- мы не ведаем, калі ўзніклі вёска і маёнтак Трацціякоўцы. Але на *"лісце запісным"* Себасцьяна Трацціяка прапісана: *"Пісаны ў Вільні, лета Божага нараджэння, тысяча пяцьсот шэсцьдзесят другога, месяца красавіка, пятага дня."* І пакуль больш дакладнага сведчання пра вёску Трацціякоўцы няма, то па ўсіх правілах ад **5 красавіка 1562 года** мы можам адлічваць існаванне гэтай вёскі, і нагадаць, што ў 2012 годзе Трацціякоўцам споўніцца 450 гадоў.

Якую яшчэ інфармацыю мы можам атрымаць з гэтага запісу ў Метрыцы?

Пан Себасцьян Трацціяк вельмі клапатліва прапісвае ў тастаманце ўсе аспекты перадачы ў спадчыну сваёй уласнасці жонцы сваёй Альжбеце Ердаўне. З запісу таксама выцякае, што ў пана Себасцьяна ёсць браты, якія могуць выставіць прэтэнзіі на яго маёмасць. І відавочна, што ад Альжбеты Ердаўны ў пана Себасцьяна няма дзяцей, бо ў адваротным выпадку правы дзяцей былі б неяк агавораны.

З запісу выцякае, што адносіны паміж панам Себасцьянам і Альжбетай Ердаўнай былі добрыя, цёплыя і сардэчныя. Пан Себасцьян кахаў сваю жонку і быў упэўнены ва ўзаемнасці.

Пан Трацціяк прадугледжвае магчымасць выхаду Альжбеты Ердаўны замуж пасля яго смерці, адгэтуль можна зрабіць выснову, што Альжбета Ердаўна была значна маладзейшай за пана Себасцьяна. У гэтым фрагменце пан Себасцьян выглядае абсалютна неэгаістычным чалавекам, ён не змушае каханую жанчыну векаваць век удавой, а хоча, каб і пасля яго смерці яна была шчаслівай.

Мы пакуль не ведаем, ці выкупілі браты Себасцьяна яго ўладанні ў Альжбеты Ердаўны - усё залежыць ад таго, наколькі заможныя яны былі. Мы не ведаем, як доўга заставаліся гэтыя землі ўладаннямі Трацціякоў. Мы ведаем з дакумента Себасцьяна Мікалаевіча Трацціяка, харунжыча земскага ВКЛ; яго бацьку - Мікалая, харунжага земскага ВКЛ; братоў Себасцьяна Трацціяка (імёны і прозвішчы іх не пададзены). У тыя часы прозвішчы былі з'явай няўстойлівай. Тое ж прозвішча *Трацціяк* маглі даць Себасцьяну толькі за тое, што ён быў трэцім па нараджэнні сярод братоў. Але калі прозвішча *Трацціяк* меў бацька Себасцьяна Мікалай, то браты Себасцьяна таксама былі хутчэй за ўсё Трацціякі.

Альжбета Ердаўна магла выйсці замуж, і землі маглі перайсці да гаспадара з новым прозвішчам, але ў шлюбным кантракце гэтыя землі хутчэй за ўсё былі прапісаны, як землі атрыманыя ёй у спадчыну па пану Трацціяку, каб яна магла распараджацца імі незалежна ад мужа.

Жанчыны ў Вялікім Княстве Літоўскім былі прыгожыя, разумныя і абароненыя звычаёвым і дзяржаўным правам. **Альжбета Ердаўна Трацціяк** - следам за мужам таксама гістарычная, а магчыма, і рамантычная асоба лідскай даўніны.

***Станіслаў Суднік.***

# Лідскія юбіляры 2010 года

**ІЛЫНІЧ Юры Іванавіч** (1470? -1527) - маршалак гаспадарскі (1501-1519), стараста лідскі (1501-03), намеснік лідскі з 1507 г., намеснік лідскі і беліцкі у 1510, стараста лідскі з 1511, намеснік берасцейскі (1510-24), ковенскі (1514, 1519-23), маршалак дворны (1519-26).

Лідскі стараста, уладальнік Бердаўкі, Дворышча, Зблянаў і Прыдыбайлаў Юры Іванавіч Ільініч пабудаваў Мірскі замак.


Герб **«Корчак»**.

Род Ільінічаў герба "Корчак" у пісанай гісторыі праіснаваў 4 пакаленні, з'явіўся з невядомасці і вельмі хутка вымер, дабіўшыся графства на Міры. Заснавальнік роду Ян (Івашка) Ільініч (к.1440 - к.1490) - праваслаўны баярын ці-то з Магілёўскага павету, ці-то з Северскай зямлі, ці-то з Віцебшчыны. Ільініч Ян, бацька Юрыя- удзельнік бітвы з чэхамі пры Хвойніках у 1445 г, знаходзіўся ў бліжэйшым атачэнні караля Казіміра, быў узяты ў палон, а, магчыма, і загінуў *(ПЗРЛ. Т.32, с. 161)*. Яго ўнукі лічылі Варанцэвічы (цяпер Талачынскага раёна) сваёй "вотчынай". Вызначыўся Ян Ільініч пры каралі Казіміры - намеснік драгічынскі (1475), віцебскі (1482), браслаўскі (1486), смаленскі (1487-1489). З праваслаўя перайшоў у каталіцтва.

У 1503 г. кароль Аляксандр вырашыў адабраць у Ільініча Ліду і аддаць Дразду, Ільініч звярнуўся да паноў-рады ВКЛ. Але Ліду Аляксандр забраў, хоць не меў права. *(ПЗРЛ т.32, с. 170.)*

Мірскі двор перайшоў Ільінічам каля 1490 г., да гэтага Мір належаў віленскаму кашталяну Сямёну (Сеньку) Гедыгольдавічу. Не вядома, купілі Ільінічы Мір або атрымалі па спадчыне, не зразумела, хто - сын або бацька - быў пакупнікам або спадчыннікам. Існуе даволі такі складаная версія - бяздзетны Сямён Гедыгольдавіч апісаў Мірскае ўладанненазванай дачцэ Ганне Бутрым (Бутрымаўне), а тая вярнула землі яго жонцы і сваёй цётцы Мілохне з умовай, што калі яна памрэ, уладальнікам стане яе сваяк Юры Ільініч. Як бы там ні было, пасля 1490 г. Юры Ільініч стаў уладальнікам Мірскага двара.

У 1501г. вялікі князь Аляксандр прызначыў Юрыя маршалкам гаспадарскім і намеснікам лідскім, не абышлося, безумоўна, без уплыву цесця - ваяводы троцкага Яна Забярэзінскага, дачка якога Ядвіга стала жонкай Юрыя. Праз два гады Юры Ільініч апынуўся ў эпіцэнтры канфлікту магнатаў і быў пазбаўлены лідскага намесніцтва. Адноўлены на пасадзе 26 снежня 1507 г. каралём Жыгімонтам. У далейшым кар'ера Юрыя Ільініча праходзіла без зрываў: з траўня 1510 г. - намеснік берасцейскі, з 1514 г. - намеснік ковенскі, з 1518 г. - дворны маршалак. Чалец Паноў Рады.

У 1508 г. Юры Ільініч, бывшы лідскім старастам, пачынае будаўніцтва Мірскага замка. Якая з падзей прымусіла Ільініча пайсці на такую ахвярную справу: наезды татараў у 1501- 1506 гг., распараджэнне караля Аляксандра пра яго арышт у 1503 г., забойства цесця, рокаш Глінскіх, рэйды маскоўскіх конных аддзелаў пад Вільню і Наваградак у 1508 г. - цяжка сказаць. Спачатку былі збудаваныя магутныя зубчастыя сцены і вежы, а ў паўднёва-заходняй частцы ўнутранага двара - аднапавярховыя цагляныя жылыя будынкі.

Адважваюся сцвярджаць, што прататыпам Мірскага замка быў Лідскі замак. Гэта палепшаны варыянт, пабудаваны па падабенстве, але з дадаваннем усіх фартыфікацыйных хітрыкаў таго часу. Такі ж няправільны перакошаны чатырохкутнік, такая ж вышыня сценаў (12-13 м) і вежаў (25 м), такі ж будаўнічы матэрыял (гранітныя валуны, цэгла, вапна), такая ж таўшчыня сценаў - да 3 м, такі ж трохпластавы мур, такі ж цагляны дэкаратыўны пояс, такая ж галярэя ўздоўж байніц верхняга яруса.

Разам з тым, Мірскі замак больш кампактны - перыметр сценаў 300 м (Лідскі -341 м), мае 4 кутнія пяціпавярховых вежы і адну шасціпавярховую цэнтральную вежу з уязнымі варотамі, кутнія вежы выступаюць за лінію сценаў, што дазваляла весткі фланкальны агонь, 3 ярусы байніц па ўсім перыметры, у вежах вокны навяснога бою (машыкулі) для скідання камянёў і гарачай смалы. Вежы дэкараваныя рознымі па форме і памерам нішамі, цягамі і арнаментальнымі паясамі. Ва усіх вежах 4-гранная аснова і 8-гранны верх, які звужваецца. Па ўсім перыметры на вышыні 8 м выкладзены арнаментальны пояс з 6 радоў цаглянага мура.

Юры Ільініч, яго архітэктар і муляры здолелі ўзвесці першакласны фартыфікацыйны будынак 16-га стагоддзя, унікальны замак, лепшы з усіх беларускіх, "пярліну беларускага дойлідства". У ім знайшлі прымяненне амаль усе вядомыя элементы сярэднявечнай фартыфікацыі і мясцовыя традыцыі замкавага дойлідства. Ні адна з вежаў не падобная на іншую - гэта значыць, што кожную з іх будавала адмысловая брыгада.

Сродкі на будаўніцтва збіраліся з лідскіх земляробаў, прыцягваліся крэдыты. Пасля смерці Юрыя Ільініча высветлілася, што ён завінаваціўся гарадзенскім габрэям Хацку і Харашэнку Ісакавічам. Вельмі верагодна, што на будаўніцтва пайшлі таксама *"10 тысяч залатых вугорскіх чырвоных"* памерлага Аўрама Езафовіча,

якія ў 1523 г. кароль Жыгімонт перадаў Юрыю Ільінічу: "бо вжо Аврамов сын лета маетъ, а і дачка, дей вжо яго (Ільініча) дарасла". Наўрад ці гэтыя грошы вярнуліся сыну Аўрама. У 1530 г. у таго былі сур'ёзныя фінансавыя цяжкасці, і кароль Жыгімонт прасіў усіх крэдытораў адкласці яшчэ на адзін год свае патрабаванні па аплаце пазыкаў.

Памёр Юры Ільініч у траўні 1527 г. На Лідчыне яму належалі Бердаўка, Збляны (з 1514 г.), Дворышча (з 1524), Прыдыбайлы (з 1525). Траім сваім сынам: Яну (к. 1495-1536), Станіславу (к.1500 - к. 1531), Шчаснаму (к.1505-1542) пакінуў велізарную спадчыну - шматлікія "двары і дварцы". Браты Ільінічы ставілі ў войска ў 1528 г. 145 вершнікаў, адзін конь ставіўся ад 8 сялянскіх служб або 24 дымоў (па тры ў службе). Дым - мінімум сем душ. Атрымліваецца, што ў сукупнасці Юры Ільініч валодаў не менш, чым 23 тысячамі сялян. Пры дзяльбе спадчыны Ян атрымаў двары Чарнаўчыцы, Лазавіцу і дварэц Галубля. Станіславу дасталіся Мірскі замак "з усімі дварцамі Жуховічы, Мядзведзічы, Жарабковічы, Брацінкі, а таксама двор Бердаўка і Прыдыбайлсаўскі дварэц". Шчасны пры падзеле атрымаў двор Збляны, Зэльвенскі і Талкоўскі двары, а таксама Бязгрынічы і Лазукі. "Атчызны двор" Варанцэвічы, а таксама Лынтупы і Камарова браты захавалі ў сумесным карыстанні - дзяліць не сталі. Старэйшая дачка Ганна выйшла замуж за Пятра Кішку, а малодшая - за Яна Аўрамовіча-сына падскарбія ВКЛ Аўрама Езафовіча, габрэя, які перайшоў у праваслаўе, банкіра, які прывёў у парадак дзяржаўны скарб.

**ГЛАЎБІЦ (Glaubitz, Glaubicz) Ёган (Ян) Крыштаф** (к.1700 - 3.3.1767), архітэктар, майстар барока позняга, у самой развітой яго форме спраектаваў касцёл у Лідзе (1765 - 67), рэканструяваў кармеліцкі касцёл Унебаўзяцця Маці Божай у Мсціславе ў 1746-1750 гг. і Сафійскі сабор у Полацку, праектаваў касцёл у Сталовічах, палац арцыбіскупа ў Магілёве.

**БЕЛАПЯТРОВІЧ Юры** (1740-16.03.1812), лідскі стражнік у 1764 г., удзельнічаў у абранні караля Рэчы Паспалітай Станіслава-Аўгуста Панятоўскага, у 1771 г. лідскі лоўчы, сакратар малой пячаткі ВКЛ да 1784 г. У 1780 -84 гг. член Сталай Рады, удзельнічаў у працы дэпартамента справядлівасці. У 1783-87 пісар войскі літоўскі. Удзельнік паўстання 1794 г. 24 красавіка 1794 г. на гарадскім рынку ў Вільні зачытаў акт аб пачатку паўстання ў ВКЛ. Член Вышэйшай Літоўскай Рады, суддзя крымінальны літоўскі. Кіраўнік аддзела вайсковых патрэбнасцяў у Цэнтральнай дэпутацыі ВКЛ. У 1808 г. член судовай камісіі па пытаннях фінансавання адукацыі. З сакавіка 1810 г. заснавальнік і старшыня таварыства дабрачыннасці ў Навагрудку. Яго звалі "літоўскім Арыстыдам" (ЭГБ, т. 1, с. 345)

**КУЛЕША (Кулеш) Міхал** (1800, Беласток - 3.11.1863), графік і жывапісец, яго бацькі родам з Лідскага павету. З 1844 г. жыў на Гарадзеншчыне, пісаў архітэктурныя пейзажы - руіны замкаў у Лідзе і Крэве. Вялікая колькасць пейзажаў выдадзена ў альбомах Лемерсе ў Парыжы (1850) і Ю. Вільчынскага ў Вільні.

**НАРБУТ Каміла** (каля 1800 - ?)- дачка гісторыка Юстына Нарбута, жыла ў маёнтку Юршышкі. Выступала ў перыядычным друку з рыфмаванымі і празаічнымі творамі. Выдала кнігу "Pisma moralne" (Вільня, 1835). З верша "Чалавек" у перакладзе з польскага (Раса нябёсаў на зямлі тутэйшай. Мн., 1998, с. 381):

*"Чалавек разумным створан,*
*Ён сябе узяў узорам,*
*Пан зямлі, кароль сумлення,*
*Трон яго - адно цярпенне,*
*Герб дзяржаўны - слёз струмені;*
*Па гаркотах смерць чаргою...*
*Смерць! Не размінуцца з ёю...*
*Потым ... што яго чакае..*
*Тога ...розум не спазнае."*


*А.С. Дамбавецкі*

**ДАМБАВЕЦКІ Аляксандр Станіслававіч** (1840 -пасля 1914), уладальнік маёнтка Бердаўка (1864 ? - 1914), ганаровы суддзя Лідскага павета, магілёўскі губернатар (1872-92), сенатар, беларускі краязнавец, заснавальнік Магілёўскага гістарычна-этнаграфічнага музея, будаўнік Бердаўскага палаца і заснавальнік Бердаўскага парку.

***Дамбавецкі** Аляксандр Станіслававіч (1840-каля 1914), бел. краязнавец, грамадскі дзеяч. Скончыў Кіеўскі ун-т. З 1870 камергер, ганаровы суддзя Лідскага пав., з 1872 магілёўскі губернатар, з 1893 сенатар. Ініцыятар выдання і рэдактар калектыўнай працы "Опыт описания Могилёвской губернии в историческом, физико-географическом, этнографическом, промышленном, сельскохозяйственном, лесном, учебном, медицинском и статистическом отношениях..." у*

*трох кнігах (1882-1884), дзе побач з апісаннем побыту, абрадаў, народнай творчасці краю змешчаны матэрыялы па археалогіі і пра помнікі старажытнасці. Ініцыятар адкрыцця гіст.-этнагр. музея ў Магілёве (1879). Падтрымліваў правядзенне і ўваходзіў у падрыхтоўчы камітэт дзевятага Археалагічнага з'езда. Арганізоўваў археал. экспедыцыі на Магілеўшчыне, выстаўкі археал. знаходак у Магілёве, Вільні. Садзейнічаў выданню краяведчых работ. ( Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. Мінск, 1996, Т.3, с.202)*

**Літаратура пра яго:**

1. Виленская губерния. Полный список населенных мест со статистическимими данными о каждом поселении, составленный по официальным сведениям И.И. Гошкевичем. Вільна, 1905 с.200-202.
2. Беларуская савецкая энцыклапедыя. Т. 1У. Мінск, 1971, с.130. (Дамбавецкі А.С.)
3. Каханоўскі А.Г. Археалагіческае і гістарычнае краязнаўства Беларусі ў ХУ1-Х1Х стст. Мінск, 1984.
4. Roman Aftanazy. Materialy do dziejow rezydencji. Tom 1Y. Dawne wojewodstwo wilenske. Warszawa, 1987.S 16-17.
5. Могилёв. Энциклопедический справочник. Минск, 1990. с.272 (Могилевский музей)
6. Археалогія і нумізматыка Беларусі. Мінск, 1993, с.208. (Дамбавецкі А.С.)
7. Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. Мінск, 1996, Т.3, с.202 (Дамбавецкі А.С.)
8. Сліўкін В. Бердаўка. // Лідскі Летапісец. № 6, 1998. с.15-20.
9. Крупа А.Л. Уладальнік маёнтка "Бердаўка" Аляксандр Дамбавецкі. // Лідскі летапісец. № 29-30. 2005. с.79-82.

**КОЛЫШКА Аляксандр Часлававіч.** Нарадзіўся 26 сакавіка 1960 года ў горадзе Лідзе. Бацька Часлаў Іосіфавіч, рабочы "Лідсельмаша" , памёр у 2000 годзе, маці – Альфрэда Пятроўна прадавец РСС.

У 1997 годзе Аляксандр Колышка скончыў восьмую сярэднюю школу. У 1982 - Інстытут замежных моў. Доўгі час працаваў настаўнікам англійскай і французкай моў у Цырынскай і Карэліцкай сярэдняй школе. Тры гады прарабіў у Бярозаўскай СШ № 2, пасля працаваў у Доме піянераў кіраўніком турыстычных гурткоў. У 1990 годзе адкрыў Цэнтр дзіцяча-юнацкага турызму і экскурсій, дзе быў прызначаны на пасаду дырэктара да 1994 года. Пасля вярнуўся ў Дом творчасці школьнікаў.

Яшчэ ў інстытуце Аляксандр Колышка вельмі зацікавіўся спартыўным турызмам. Затым падчас настаўніцкай дзейнасці паспяхова рыхтаваў каманды студэнтаў і педагогаў да спаборніцтваў у гэтым відзе спорту. Каманда Бярозаўскай сярэдняй школы № 2 "Каўказ- 86" пад яго кіраўніцтвам стала апошнім чэмпіёнам СССР па горнаму турызму сярод школьнікаў.



***Аляксандр Колышка***

Менавіта з гэтага часу быў пакладзены пачатак вывучэнню гісторыі роднага краю, і тое, што калісьці было хобі, ператварылася ў сапраўдную справу жыцця. Па словах самаго Аляксандра Часлававіча: "Краязнаўства – гэта адзін з найгалоўнейшых элементаў турызму. Немагчыма займацца турызмам, каб не пазнаёміцца з мінулым і гісторыяй тых мясцін, у якіх бываеш". З траўня 1987 года Аляксандр Колышка з'яўляецца суарганізатарам клуба аматарў польскай культуры – першай афіцыйнай польскай суполкі ў СССР. Ён лічыць, што сапраўдны гісторык, тым больш той, які займаецца краязнаўствам, павінен ведаць польскую мову, цікавіцца культурай і мінулым суседняй дзяржавы, таму што, як і ранней, так і зараз у Лідзе пражывае вялікая колькасць палякаў.

У верасні 1990 года быў надрукаваны першы нумар газеты "Земі лідскай" - незалежнага польскага гістарычна-краязнаўчага выдання, рэдактарам якога з'яўляецца Аляксандр Часлававіч. На сённяшні дзень выдадзена больша за 90 нумароў газеты на польскай мове.

У 1995 годзе быў надрукаваны зборнік вершаў польскай паэткі Марыі Сулімы. У 1997 пад рэдакцыяй самаго Аляксандра Часлававіча была выдадзена кніга пад назвай "Як фенікс з попелу", прысвечаная польскаму нацыянальнама адраджэнню.

Наступная кніга, якая ў перакладзе з польскай мовы называецца "Для ўсеагульнага дабрабыту" знаёміць чытачоў з дзейнасцю Таварыства польскай культуры на Лідчыне, выйшла ў свет у 2006 годзе.

З 1998 года пакладзены пачатак выданню літарататурнай серыі "Вядомыя палякі Лідчыны". Першая публікацыя пра "Людвіка Нарбута" была напісана менавіта па ініцыятыве Аляксандра Колышкі.

Сёння Аляксандр Часлававіч займаецца любімай справай – працуе ў Цэнтры творчасці дзяцей і моладдзі, вядзе краязнаўчыя гурткі, працягвае вывучаць гістрыю роднага краю і знаёміць з ёю наступнае пакаленне. Бо, як лічыць сам краязнавец: "Дзеці павінны дакладна ведаць мінулае і сваіх продкаў. У гэтым і складаецца галоўная мая задача."

***Юля Грыб.***

***Валеры Сліўкін***

# Князі Палубенскія

*Вось ужо не думаў, што хто-небудзь з жыхароў Лідскай зямлі ляжыць у Кіева-Пячэрскай лаўры. Далекавата, ды і месца важнае, не для ўсякага. Ну добра, жонка Альгерда Юліянія Цвярская супакоілася там, парэштки Ўладзіміра Альгердавіча князя кіеўскага - там жа. Але вось каб нейкі князь Палубенскі, ды яшчэ з лідскіх баяраў, быў там пахаваны, ніяк не верылася. І пачаў я капаць энцыклапедыі, даведнікі, радаводы, сёе-тое высветліў. Вось вынік гэтых работ.*

Аказалася, што ў Кіева-Пячэрскай лаўры пахаваныя трое Палубенскіх, бацька, сын і ўнук: князь Андрэй Палубенскі, князь Васіль Андрэевіч Палубенскі і князь Леў Васільевіч Палубенскі.

Князі Палубенскія (Палубінскія) старажытны княжы род, магчыма галіна Гедзімінавічаў. Родапачынальнікам свайго роду Палубенскія лічылі князя Андрэя Альгердавіча, у якога быццам бы быў сын па імені Хведар і ўнук з такім жа імем, а праўнукам быў Андрэй Палубенскі - дваранін караля Казіміра Ягелончыка. Праблема ў тым, што князь Хведар Хведаравіч у дакументах 15-га стагоддзя не згадваецца, таму І. Вольф князёў Палубенскіх адносіў да ліцвінскіх князёў невядомага паходжання.

Адносна родавага імені Палубенскіх у генеалагічнай літаратуры маюцца тры асноўныя версіі: 1) ад сяла Палубнікі Лідскага раёна; 2) ад сяла Палубічы на Берасцейшчыне; 3) ад сяла Лубна або Любна каля Парчава. Зразумела, што Палубнікі Лідскія, калі іх назваць Палубенск - варыянт найболей пэўны; ад Палубіч - Палубіцкія, ад Лубна, Любна - Лубненскія, Любненскія. Зрэшты, у некаторых ранніх сярэднявечных актах князь Палубенскі падпісваўся: *“... Палубенскі, князь на Лубне”*, а не на Дзітве.

Прадстаўнікі роду Палубенскіх у 16-17 стагоддзях займалі ў ВКЛ вельмі высокія пасады. Князь Васіль Андрэевіч (памёр у 1551 г.) быў маршалкам Вялікага Княства Літоўскага і старастам мсціслаўскім, князь Канстанцін Аляксандравіч (памёр у 1640 г.) - маршалкам Трыбунала ВКЛ, ваяводам парнаўскім, яго сын, Аляксандр-Гіляр (1627-1679) - маршалкам вялікім літоўскім; князь Зміцер-Самуіл (памёр у 1687 г.) - ваяводам наваградскім. Спынімся на трох Палубенскіх, пахаваных у Кіева-Пячэрскай лаўры.

Князь **Андрэй Палубенскі** пахаваны ў Лаўры побач з князем кіеўскім Уладзімірам Альгердавічам. Валодаў маёнткамі на Берасцейшчыне. За службу каралю Казіміру Ягелончыку неаднаразова ўзнагароджваўся: у 1482 г. атрымаў 20 коп літоўскіх грошаў; у 1488 г.- 80 коп літоўскіх грошаў, лісінае футра, два паставы сукна новагонскага, шэсць вазоў солі і кадзь мёду. Быў жанаты на Багавіцінавай. Меў двух сыноў Васіля і Яна.



***Княжацкі герб Палубенскіх (герб А. Г. Палубенскага, 1670 г.)***

Князь **Васіль Андрэевіч Палубенскі** (каля 1480-4.03.1551) - намеснік уладзімірскі (1505-07), дзяржаўца любашанскі і цяцерынскі (1515-16), дзяржаўца жалудокскі (1516-35), каняўскі і дубіцкі (1527-29) маршалак гаспадарскі з 1521 г., староста мсціслаўскі і радамскі з 1535 г. Валодаў маёнткамі Гарадзішча, Яблынь, Глыбокае, Круглае (цяпер г.п. Круглае ў Магілёўскай), Палюбічы і Мажэйкава. Жанаты быў тройчы: імя першай жонкі невядома, другая - князёўна Аксіння Іванаўна Заслаўская, трэцяя - Соф’я Паўлаўна. Меў сыноў Яна і Льва, дачку Ганну. Васіль Андрэевіч мае наўпроставыя адносіны да Лідскай зямлі, паколькі валодаў Мажэйкавым і быў жалудокскім старастам.

Упершыню ў дакументах князь Васіль Андрэевіч Палубенскі згадваецца ў 1488 г. разам са сваім бацькам - князем Андрэем Полубенскім, калі атрымаў ад караля 4 капы літоўскіх грошаў. У 1501 г. быў адным з гарантаў Мельніцкай уніі з Польшчай. У 1503 г. атрымаў ад караля Аляксандра прывілей на сяло Палубічы у Берасцейскім павеце. У 1507 г. купіў с. Мікіціна і людзей у Ліхінічах. 14 снежня 1508 г. ад караля Жыгімонта атрымлівае прывілей на Мажэйкаўскі дварэц (*невялікі двор, рэд.*).

*“Жикгимонтъ, Божъю милостю.*

*Дворянину нашому Лву Тишъковичу.*

*...князъ Василей Анъдрыевичъ Полубенский бил намъ чоломъ у Смолнянех в тот часъ, какъ есмо ехали исъ Смоленьска, и напоминал намъ о томъ, што есмо ему перъво сего тыи дворцы дали, Можейково а Бикушки, абыхмо его пры тои перъшои нашои данине зоставити.*

*Ино мы, упамятовавъши его к намъ верънуую службу, прырекли есмо его зася пры тои нашои перъвшои данине зоставити.*

*Ино мы вжо тыми разы отьчыну твою з рукъ того зрадцы нашого выняли, и князь Василей билъ намъ чоломъ, абыхмо ему и ныне в томъ ласку нашу*

*вчинили и в тыи дворъцы казали быхъмо ему увязанье дати подълугъ первъшыхъ нашыхъ листовъ. Ино воевода троцкий пан Миколай Миколаевичъ жадалъ нас, абыхъмо тебе для твое служъбы вжды пры чомъ оставили.*

*Ино мы, на жеданье пана воеводиной для твоей служъбы, впаду и шкоды, которая жъ ся тобе будеть стала на нашой служъбе дали есмо тобе одинъ дворецъ Бикушки з людми того дворъца, а князю Василью Полубенскому дали есмо дворецъ Можейково и со всими тыми людми, который к тому дворъцу прыслухают, а к тому дворъцу прыдали есмо ему пять служебъ того дворца Бикушского на имя Лихинич а Опенковичъ, а Служчич, а Тупичыч, а Феда Домашевич, и зъ ихъ землями, и ввязати есмо его в тотъ дворецъ и в люди послали подконюшого нашого Шымъка. И ты бы вжо в тотъ дворецъ и въ люди ся не въступалъ, а што будешъ в том дворъцы побрал жыта и челяди, и жыботины, и иных речеи, то бы еси ему все передъ Шымъкомъ поотдавалъ.*

*Писан у Вилни, декабря 14, индикт 12.” (Літоўская метрыка. Кніга 8. № 379).**

У лютым 1509 г. за зносіны са “здрадцамі” Глінскімі князь Васіль Андрэевіч Палубенскі быў арыштаваны. Арыштаваныя былі таксама князь Ольбрахт Гаштольд, князь Аляксандр Хадкевіч, стайнік Мартын Храбтовіч і падскарбі Федзька Храбтовіч. З-пад арышту князь Васіль Андрэевіч Палубенскі быў вызвалены 18 траўня 1511 года. Пасля ўсе пяцёра былі апраўданыя. Пакуль Васіль Андрэевіч знаходзіўся ў каралеўскай няласцы падканюшы Шымка Мацковіч у 1511 г. нейкім чынам з Мажэйкаўскага дварца каралеўскім прывілеем выключыў у сваю карысць Малое Мажэйкава. У 1514 г. князь Васіль Андрэевіч атрымаў пацверджанне сваіх правоў на двор Мажэйкаўскі ў Жолудокскім павеце, але без Малога Мажэйкава.

У лютым 1522 г. “маршалак Яго Каралеўскай Міласці, намеснік Жалудокскі князь Васіль Андрэевіч Палубенскі” судзіўся з Падлескім ваяводам Касцевічам з-за сядзібы Ваверка. У судовым паседжанні высветлілася, што зыск князя ў сувязі з гэтай сядзібай быў да “Андрэя Сірутовіча і яго княгіні”. Праз пару гадоў удава Андрэя Сірутовіча княгіня Аксіння Заслаўская стане жонкай князя Васіля Палубенскага. Нараўне з уладаннямі жонкі ў якасці падарунка атрымаў у 1524 г. ад яе брата князя Міхаіла Іванавіча Мсціслаўскага тры сёлы ў Цяцерынскай воласці. Да 1528 г. Васіль Андрэевіч ужо меў шырокія зямельныя ўладанні і выстаўляў у войска 43 конных ваяроў: *“Кназ Василеи Полубенскии маеть ставити 43 кони”. (Перапіс.., с.54.)*

У 1533 г. князь Васіль Андрэевіч Палубенскі ажаніў свайго сына Яна з Раінай Копаць - дачкой пісара Копаця Васільевіча. У 1534 г. вёў цяжбу з князем Андрэем Міхайлавічам Сангушкам, луцкім старастам і яго сынам князем Аляксандрам Андрэевічам аб выкраданні сваёй дачкі Ганны. У верасні таго ж, 1534 года, кароль Жыгімонт адправіў Васіля Андрэевіча насустрач маскоўскім уцекачам Сямёну Бельскаму і Івану Ляцкому, а ў 1535 г. прызначыў мсціслаўскім ваяводам. Прыйшлося Васілю Андрэевічу ў 1535 г. адбівацца ад маскоўскага войска. За добрую службу ў 1541 г. атрымаў грамату, якая вызваляла ад выплаты дзесяціны з прыбыткаў яго сядзібы Яблынь на Парчаўскую царкву, а ў 1542 г. атрымаў прывілей на сёлы ў маёнтку Палубічы.

Васіль Андрэевіч любіў судзіцца і судзіўся бесперапынна, гэта такая была ў 16 стагоддзі забаўка. У 1541 г. удзельнічаў у цяжбе з княгіняй Мсціслаўскай з-за Цяцерынскіх земляў. У 1545 г., разам са сваімі пляменнікамі князямі Міхаілам Іванавічам і Аляксандрам Іванавічам Палубенскімі, судзіўся з князем Васілём Талачынскім з-за Друцкага замка. Самая складаная фінансавая цяжба была з канцлерам ВКЛ і віленскім ваяводам Янам Юр’евічам Глябовічам. Глебовічы і Палубенскія былі паміж сабой у сваяцтве - князь Васіль Палубенскі быў жанаты на роднай цётцы жонкі Яна Юр’евіча Глябовіча, судовы працэс паміж імі быў звычайнай для таго часу ўнутрысямейнай разборкай.

У 1542 г., у веку за 60 гадоў, Васіль Андрэвіч Палубенскі ажаніўся трэці раз і ізноў на ўдаве. Соф’я Паўлаўна ў першым шлюбе была замужам за Шымкам Мацкевічам. Шымка (Шымко) Мацкевіч (Мацковіч) (каля 1486 - каля 1542) - у 1508 г. падстайнік, у 1528 г. цівун і падстайнік віленскі, у 1530 г. - цівун віленскі і дзяржаўца радуньскі. Менавіта Ш. Мацкевіч

---

**“Жыгімонт, Божай міласцю.*

*Дваранiну нашаму Льву Тышкевічу.*

*...князъ Васіль Андрэевіч Палубенскі біў нам чалом у Смальнянах у той час, як мы ехалі са Смаленска, і нагадваў нам аб тым, што былі яму спярша тыя дварцы далі, Мажэйкава і Бікушкі (Дзікушкі, рэд.), каб мы яго пры той першай нашай даніне пакінулі.*

*Таму мы, узгадаўшы яго да нас верную службу, прыраклі, каб яго пры той нашай першай даніне пакінуць.*

*Паколькі мы ўжо тым разам вотчыну тваю з рукъ таго зрадцы нашага вынялі, і князь Васіль біў нам чалом, каб мы яму і цяпер у тым ласку нашу ўчынілі і тыя дварцы казалі б яму у валоданне даць паводле ранейшых нашых лістоў. Разам з тым ваявода троцкі пан Мікалай Мікалаевіч (Радзівіл, рэд.) жадаў ад нас, каб мы цябе дзеля тваёй службы таксама пры нечым пакінулі.*

*Таму мы, на жаданне пана ваяводы дзеля тваёй службы, стратаў і шкоды, якая табе была сталася на нашай службе, далі табе адзін дварэц Бікушкі з людзьмі таго дварца, а князю Васілю Палубенскаму далі дварэц Мажэйкава і з усімі тымі людзьмі, якія да таго дварца прыслугоўваюць, а да таго дварца прыдалі яму пяць службаў таго дварца Бікушскага на імя Ліхініч, і Апенькавіч, і Служчыч, і Тупічыч, і Федзя Дамашэвіч, і з іхнімі землямі, і ўвесці яго ў той дварэц і ў людзі паслалі падстайніка нашага Шымка. І ты б ужо ў той дварэц і ў людзі не ўступаўся, а што быў у тым дварцы пабраў жыта і чэлядзі, і жывёлы, і іншых рэчаў, то б яму ўсё перад Шымкам паадаваў.*

*Пісаны ў Вільні, снежня 14, індыкт 12. (Літоўская метрыка. Кніга 8. № 379).*

пабудаваў Маламажэйкаўскую царкву (Мураванку). Гэты шлюб для Васіля Андрэевіча меў нейкія маёмасныя выгоды, ну а Соф'я Паўлаўна стала княгіняй.

У той жа год, 11 жніўня Васіль Андрэевіч атрымаў каралеўскі прывілей на маставое мыта. На гасцінцы, які ідзе на Палубічы *"на многих злых местьцях, на реках и на болотах, людми своими мосты и гати справуеть… А звлашче ижь онъ тыхъ часовъ людми своими справилъ мост великий з села своего Полубичъ Тяней через болота… А надто тежъ, тыми разы едучи намъ с тамошнего паньства нашого ВкЛ до Коруны Полское, княз Полубенский во всей той дорозе, почоншы от Ломаз ажъ до Ясенъки на водах и на болотахъ мосты и гати людми своими про вчасность нашу господаръ добре заробити велел, где мы з дворомъ нашимъ без жадного замешканья тыи все болота и реки проехали. … мы на его чоломбите… з ласки нашое господаръское то вчинили …Маетъ онъ от купцовъ, которые бы тою дорогою ехали, з воза, в которомъ два кони будутъ, по грошу лядскому, то есть по осми пенязей мыта брати, а от воза, в которомъ одинъ конь будетъ, по полугрошъку мыта мают платити ему самому и его потомкомъ*."

*(Метрыка Вялікага Княства Літоўскага. Кніга 28. (1522-1552) Менск .2000. № 15)**

Перажыўшы двух сваіх жонак, малодшага сына Льва (1544) і дачка Ганну (каля 1547) перад дзвярамі вечнасці Васіль Андрэевіч нажытую маёмасць і землі падзяліў на тры часткі: сыну князю Яну адпісаў трацінy сваіх уладанняў; жонцы Соф'і Паўлаўне - таксама трацінy і 2000 коп грошаў літоўскіх ад сядзібы Мажэйкаў; і трацінy адпісаў у пасаг сваёй унучцы Марыне, пазасталай сіратой пасля смерці сына Льва. У 1547 г. дзед дапісаў унучцы 1000 коп грошаў літоўскіх і 1000 залатых чырвонцаў ад сядзібы Яблынь, а ў 1549 г. дадаў яшчэ 500 коп грошаў літоўскіх ад сядзібы Глыбокае. Памёр князь Васіль Андрэевіч Палубенскі 4 сакавіка 1551 года ў маёнтку Гародзіч. Княгіня Соф'я Паўлаўна перавезла цела князя ў Кіева-Пячэрскую лаўру і пахавала ў царкве Прасвятой Багародзіцы Пячэрскай. Эпітафія Васілю Андрэевічу Палубенскаму гаворыць: *"Памерлы па хрысціянску Васіль Андрэевіч Палубенскі тут пакладзены. Мсціслаўскі стараста, Гарадзенскі маршалак Васіль Андрэевіч Палубенскі пасля смерці выбраў сабе месца для пахавання ў царкве Прасвятой Багародзіцы Пячэрскай. Чытач! Праходзячы міма, скажы яму добрае слова: Божа, памілуй душу міласэрнага, справядлівага слугі Свайго Васіля Палубенскага."*

Князь Леў Васільевіч Палубенскі (памёр раней за бацьку, каля 1544 г), малодшы сын Васіля Андрэевіча, дзяржавец крычаўскі. Быў жанаты на дачцы навагрдскага ваяводы Яна Гарнастая. Меў дачку Марыну. Дзед Васіль Андрэевіч заручыў Марыну Львоўну з князем Зміцерам Фёдаравічам Сангушкам - старастам жытомірскім, што было афармлена юрыдычнай дамовай. Маладая была так прыгожая сабой або так багатая, што на трэці дзень пасля смерці Васіля Андрэевіча ў 1551 г. князь Зміцер Фёдаравіч Сангушка захапіў непаўнагадовую Марыну і аддаў яе пад апеку жонкі падскарбія Богуша Багавіцінава, Федзіі Андрэеўны, якая прыходзілася яму цёткай. Высілкі аказаліся марнымі, Марына не стала яго жонкай, у першым шлюбе была за Янам Копцем, у другім - за Станіславам Паўлавічам Нарушэвічам. Памерла пасля 1566 г. Перад смерцю княгіня Марына Львоўна адмовілася ад Вялікага Мажэйкава на карысць Яна Шымкавіча (? -1568), сына Соф'і Паўлаўны, трэцяй жонкі свайго дзеда. Эпітафія Льву Васільевічу Палубенскаму: *"Князь Леў Васільевіч Палубенскі, Аддаўшы доўг прыродзе, у гэтай царкве Прасвятой Багародзіцы Пячэрскай. каля сваіх пакладзены. Леў Палубенскі ляжыць тут каля сваіх. Хто трымае шлях міма гэтай урны, хай маўчыць, каб не разбудзіць яго: Леў каму пяройдзе дарогу, той не хочучы павінен адступіць."*

У 18-19 стагоддзях род Полубенскіх збяднеў, многія з прадстаўнікоў роду забылі пра сваё княжае паходжанне. У Расійскай Імперыі не шанавалі ліцвінскія шляхочыя роды, усё ж многія галіны роду Палубенскіх даказалі сваё шляхочае паходжанне ў дэпартаменце герольдыі. Але толькі адной галіне роду Палубенскіх удалося аформіць пацверджанне княжага тытула. Тым не менш, усе хто носіць гэтае прозвішча, з'яўляюцца нашчадкамі князёў Полубенскіх.

**Літаратура.**


1. Войтович. Леонтий. Князівські дінастіі Східней Эвропі, історико-генеологічне дослідження. Львів, 2000. С. 542-547.
2. Вольф Юзеф. Літовско-Русскіе князья. Варшава, 1899. С. 368-391.
3. Гунин Лев. Сокращенная родовая, судебная и владельческая история князей Полубенских. С. 538-547.
4. Літоўская метрыка. Кніга 8. Справа 379.
5. Метрыка Вялікага Княства Літоўскага. Кніга 28. (1522-1552). Менск .2000. № 15.
6. Перапіс войска Вялікага княства Літоўскага 1528 года. Мінск. 2003. с.54.
7. Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. Мінск. 1999. Т.5. С.60, 390.


* *"на многіх злых месцах, на рэках і на балотах, людзьмі сваімі масты і грэблі справуе… А маючы на ўвазе што ён тым часам людзьмі сваімі справіў мост вялікі з сяла свайго Палубіч Цяняў праз балоты… А таксама, тымі разамі, як прыйшлося нам ехаць з тамтэйшага панства нашага ВКЛ да Короны Польскай, князь Палубенскі па ўсёй той дарозе, пачаўшы ад Ломазаў аж да Ясенькі на водах і на балотах масты і грэблі людзьмі сваімі своечасова для нас, гаспадара, добра зрабіць загадаў, дзе мы з дворомъ нашым без ніякай затрымкі тыя ўсе балоты і рэкі праехалі. … мы на яго чаломбіцце… з ласкі нашай гаспадарскай тое ўчынілі …Мае ён ад купцов, якія б тою дарогаю ехалі, з воза, у якім два кані будуць, па грошу ляшскаму, гэта значыць па восем пенязяў мыта браці, а ад воза, у якім адзін конь будзе, па паўгрошыку мыта маюць плаціць яму самому і яго нашчадкам".*

*(Метрыка Вялікага Княства Літоўскага. Кніга 28. (1522-1552) Менск .2000. № 15)*

# Вечны альянс паміж праваслаўнымі і пратэстантамі. Выніковы дакумент Віленскай Канфедэрацыі.

## *Вільня, у першую сераду пасля Сёмухі 1599 года*

Мы бачым, што, насуперак Варшаўскай Канфедэрацыі, насуперак прывілеям і граматам, якімі забяспечана свабода богаслужэння, і насуперак таму звычаю, што меў заспець тут пры ўступленні на пасад Яго Вялікасць цяперашні наш уладар і кароль, - шмат наносіцца нам прыгнятанняў і гвалтаў асабліва ад рымска-каталіцкага святарства і ад некаторых свецкіх асоб гэтага спавядання. Часта бывае, што ні адзін кут гэтай шырокай дзяржавы, і ні адзін чалавек любога звання не забяспечаны ад гэтых ганенняў. Усе мы, хоць па розных спавядальных адрозненнях, церпім такія прыгнёты, што фактычна ўжо пазбаўлены волі, якая належала нашым продкам, недатыкальнасці гонару, бяспекі жыцця, цэласці маёнткаў і дастаткаў.

Чаму мы дагэтуль не можам выпрасіць абяцанага для Варшаўскай Канфедэрацыі судовага працэсу, які хоць бы надалей ахаваў нас ад крыўдаў і гвалтаў? Наадварот, мы чытаем заявы, якія адкрыта робяцца каталіцкім святарствам у сваіх сачыненнях, і чутны ад свецкіх асоб у соймах, сойміках і судах, - што яны не толькі не прызнаюць пастановы Варшаўскай Канфедэрацыі, але лічаць справай супраціўнай сумленню выконваць і ўхваляць такія. Тым самым яны раздзіраюць адзіны вузел унутранай згоды, любові, даверу і агульнага міру, які, быўшы завязаны і асцярожна захоўваны нашымі продкамі і намі, набыў для нас рэпутацыю мудрасці ў чужынцаў, якія бяруць з нас у гэтым прыклад, і які нас, шматкроць абражаных і не атрымліваючых за тое непасрэднай кампенсацыі, - сцішваў і спакушаў надзеяю, што гвалтаўнікі адумаюцца прынамсі ў будучыні. Такія заявы каталікоў, што з кожным днём пачашчаюцца і могуць быць зразуметыя, як канчатковая іх адмова ад верацярпімасці, выклікаюць адпадзенні і ўхіленні ад нас нашых адзінаверцаў, якія ўсё павялічваюцца.

Грунтуючыся на Варшаўскай Генеральнай Канфедэрацыі, у сілу якой мы жадаем захаваць любоў, добрыя стасункі і разнастайныя братэрскія абавязальніцтвы ў адносінах да асоб рымска-каталіцкага спавядання, якія імкнуцца адпаведна з гэтаю Канфедэрацыяй жыць з намі ў міры і згодзе (мы не сумняваемся, што такіх каталікоў існуе вялікае мноства), а, з другой, прытрымваючыся пратэстацый, вынесеных намі на ўчынкі і азначэнні, супраціўныя пастановам Варшаўскай Канфедэрацыі, мы, праваслаўныя і евангелікі, запісам, як усе наогул, так кожны бок і кожная асоба ў асобнасці, абавяжамся і перад Усемагутным Госпадам Богам, які ніколі не бывае зняважаны, за сябе і за сваіх нашчадкаў абяцаем і клянёмся: што, стоячы на варце ўмоў Варшаўскай Канфедэрацыі, якая абараняе недатыкальнасць хрысціянскіх вучэнняў і волю веравызнанняў, - мы з дапамогай Божай не маючы намер прымяняшаць сваіх правоў ні з дапамогай гвалту, ні пад законнай падставай; што мы будзем разам засцерагаць і ахоўваць цэрквы, саборы і кірхі, якія належаць нам, а таксама наша правa міласціны ў гэтых храмах, роўна як утрымоўваць пад нашай сталай абаронай духоўныя ўстановы, асабліва святароў (ды дапаможа нам у гэтым Госпад!), як адмыслова даручаных апецы Канфедэрацыі; што мы будзем рупліва, дбайна і разам старацца ў соймах, сойміках і інш. урадавых установах - перад дзяржаўнымі саслоўямі Рэчы Паспалітай, а асабліва перад Яго Каралеўскай Вялікасцю, у міласцівым стаўленні якога да нас мы не сумняваемся, - аб тым, каб былі падгоеныя раны раней-шых крыўд, а гвалты былі перарваныя пакараннямі і папярэджаныя ў будучыні; што ў гэтым імкненні мы не дапусцім паміж собою ніякіх паслабленняў і ўхіленняў, якія выклікаюцца набажэнцкімі і абрадавымі адрозненнямі паміж праваслаўнымі цэрквамі і евангелічнымі зборамі; наадварот, кожны праваслаўны будзе абавязаны па-сяброўску абараняць астатніх праваслаўных і евангелікаў, а кожны евангелік астатніх евангелікаў і праваслаўных ад усялякіх крыўд, страт, абраз і абцяжарванняў, што прычыняюцца ім за веру або ў дачыненні веры, для чаго, атрымаўшы паведамленне аб прычыненых крыўдах, мы не замарудзім з'явіцца на агульныя нарады і зговары…

Гэтак жа, калі б (ад чаго захавай нас Божа!) парушальнікі сваёй прысягі і адрачэнцы ад Варшаўскай Канфедэрацыі не перамянілі свае намеры і нябрацкага пачынання і захацелі прычыніць нам які-небудзь гвалт і абразу, як у спавяданні праваслаўным, так і евангелічным, выступаючы супраць нас якім-небудзь спосабам і перашкаджаючы нам у нашым набажэнстве, або абразліва паступаючы з асобамі і месцамі, прысвечанымі набажэнству якой-небудзь з нашых рэлігій, або накладаючы на нас падступна і гвалтоўна рукі, або жадаючы змяніць, абмежаваць, альбо цалкам скасаваць установы, уласцівыя нашым спавяданням; калі б хто-небудзь захацеў адбіраць з дапамогай гвалту, альбо пад падставай судовага прысуду царкоўнае начынне, уклады, каштоўнасці, унёскі, зборы, рухомыя і нерухомыя маёмасці, капіталы, адным словам усякую саборную і царкоўную маёмасць; тым больш, калі над кім-небудзь з нас або з нашых аднаверцаў ужо пачалі ўчыняць з-за веры гвалт, а асабліва калі ў якім-небудзь месцы на падставе якога-небудзь прысуду, супраціўнага канфедэрацыі, ужо прыступілі да мер выканання (экзекуцыі), - то ў такіх выпадках, без усякай адгаворкі (бо няма больш надзённай і настойлівай патрэбы, чым тая, што датычыцца служэння Богу, Яго Царкве і канфедэраванай брацііі) - усе мы разам, кожная група ў асобнасці і нават кожная асоба паасобку павінны, атрымаўшы пра гэта вестку, сцякацца да месца, дзе мяркуецца, або ўжо робіцца гвалт, як бы для пагашэння вялікага пажару; у выпадку ж немагчымасці нашага асабістага прыбыцця мы павінны, прынамсі, праз пасланцаў, што замяняюць нас, падаваць прыгнечаным і тым, хто знаходзіцца ў небяспецы дапамогу, ахову і абарону. Такім чынам, будзем не толькі на словах, але насамрэч старацца з вераю, спакоем і сумленнем абараняць свабоду спавядання, недатыкальнасці асоб і месцаў, прысвечаных набажэнству, а таксама цэласць саборных і царкоўных маёмасцяў, не звяртаючы пры гэтым увагі ні на якія цяжкасці і небяспекі, і не шкадуючы прац і ўтрымання, але да апошняй магчымасці і крайняга разумення.

Таму, для найзручнейшых паміж сабою зносін, для паведамлення аб часе экзекуцый, якія патрабуюць нашай прысутнасці, мы цяпер жа з сябе абралі і пры-

значылі генеральных правізараў або апекуноў аб міры ў Царкве і нашых хрысціянскіх саборах, а менавіта, з асобаў праваслаўнага спавядання намі абраныя:

З сенатараў: Яго Яснавяльможнасць, Князь Канстанцін Астрожскі, Кіеўскі ваявода; Яго Яснавяльможнасць, Князь Андрэй Астрожскі, Валынскі ваявода; князь Рыгор Сангушка-Кашырскі, Брацлаўскі кашталян.

З рыцараў: князі Адам і Міхаіл Вішнявецкія; кн. Іоакім Карэцкі; кн. Георгі Горскі; князі Багдан і Іяан Саламярэцкія; пан Іяан Трызна; паны Андрэй і Аляксандр Загароўскія; пан Георгій Кірдзей, стараста Лабунскі; пан Стэфан Лозка, маршал Мазырскі; стараста Ліцінскі кн. Юры Пузына.

З асобаў евангелічнага спавядання намі абраныя наступныя сенатары Польскай Рэчы Паспалітай і Вялікага Княства Літоўскага:

З ваявод: Яснавяльможны Князь Хрыстафор Радзівіл, Віленскі ваявода; Яснавяльможный пан Андрэй Ляшчынскі з Лешна, ваявода Брэсцка-Куяўскі; пан Ян Абрамовіч, ваявода Смаленскі; пан Хрыстафор Зяновіч, ваявода Брэсцка-Літоўскі; пан Фабіян Церна, маршал Мальбаркскі.

З кашталянаў: вяльможны пан Ян Разражэўскі, кашталян Познаньскі; Ян Збароўскі, кашталян Гнезненскі; Мікола Нерушэвіч, кашталян Жмудскі; Георгі Чапліц, кашталян Кіеўскі; Георгі Корсак, кашталян Полацкі; Ян Зіневіч, кашталян Віцебскі; Пётр Дарагастайскі, кашталян Менскі; Пётр Нішчыцкі, кашталян Бельскі; Андрэй Фірлей, кашталян Радамскі; Андрэй Мянчынскі, кашталян Велюнскі; Ян Драгаеўскі, кашталян Саноцкі; Андрэй Усавецкі, кашталян Хелмскі; Ян Рушкоўскі, кашталян Перамышльскі; Адам Балецкі, кашталян Быдгашчскі; пан Хрыстафор Манвід, вялікі маршал Вялікага Княства Літоўскага.

Акрамя таго, з Вялікага Княства Літоўскага вяльможныя паны: Кн. Георгі Радзівіл, ваяводзіч Наваградскі; Ян Глебавіч, стольнік Вялікага Княства Літоўскага; Адам Тальвош, стараста Дынабургскі; Мікола Зяновіч, падкаморы Ашмянскі; Мельхіёр Пяткевіч, пісар Віленскі; кн. Яраслаў Галаўчынскі на Княжычах; Пётр Стаброўскі, стараста Кейданскі; кн. Хведар Друцкі-Горскі; Хведар Пацей, суддзя земскі; Іяан Мацкевіч; Андрэй Юндзіл, маршал Воўкаўскі; Севасцьян Пакаш; Павел Верашчак, подстолі Брэсцкі; Якаў Сямашка; Раман Раўт; Раман Васільевіч Корсак; кн. Георгі Друцкі-Сакалінскі, падкаморы Віцебскі; Рыгор Сапега, падкаморы Аршанскі; кн. Іяан Друцкі-Горскі; Мельхіёр Шэмет; Севасціян Керштар, Жмудскі земскі суддзя; Войцах Радзімінскі, падкаморы Жмудскі; Ян Станкевіч, стараста Менскі; Яраш Турок; кн. Жыжамскі, стараста Рэчыцкі; Ян Юндзіл.

Да гэтых названых апекуноў, да ўсіх наогул або да аднаго з іх у асобнасці, гледзячы па блізкасці жыхарства, павінен звяртацца кожны сціснуты ў свабодзе веравызнання або ў самім спавяданні, і які жыве ў нястачы рады і дапамогі. А яны, як усе наогул, так і кожны ў асобнасці, - павінны, калі знойдуць неабходным, апавяшчаць іншых (апекуноў) і асабліва старацца аб тым, каб заведзеная (па скарзе пакрыўджанага) справа ўвянчалася спрыяльным поспехам. Каб гэтыя старанні ў будучых крымінальных справах былі больш дзейснымі, мы лічым неабходным скліканне сінодаў. У мэтах шматлюдства апошніх мы, пад сілаю вышэйзгаданых абавязальніцтваў, абяцаем, што калі праваслаўныя склічуць Сабор і будуць запрашаць на яго, тады евангелікі будуць прысутнічаць на гэтым Саборы або самі асабіста, або з дапамогай сваіх прадстаўнікоў. Калі ж евангелікі па сваім даўнім звычаі склічуць генеральны сінод і будуць патрабаваць таго ж ад праваслаўных, тады людзі праваслаўнага спавядання павінны будуць на іх Саборы альбо прыбыць асабіста, альбо адправіць сваіх паслоў.

Такім чынам, мы напалову падзелім наш агульны цяжар і будзем узаемна падтрымліваць адзін аднаго радай і дапамогай. Стала захоўваючы паводле Генеральнай Канфедэрацыі давер адзін да аднаго і з'яўляючыся адным целам пад адзінай Галавою: Хрыстом Богам, - мы захаваем з Божай дапамогай гэтую дамову і саюз паміж намі на вечныя часы, ніколі ад яго не адыходзячы і не абражаючы адзін аднаго ні ў лісце, ні словам папроку.

Завяртаючы паміж сабою гэтую дамову па сіле акалічнасцяў, выяўленых у Генеральнай Канфедэрацыі, - прадстаўнікі абодвух спавяданняў праваслаўнага і евангелічнага ўласнаручна гэтую дамову падпісалі і для большай пэўнасці прыклалі да гэтага пячаткі свае.

Вільня, у першую сераду па Сёмусе 1599 года.

**Віленскія тэзісы:**

1. Св. Пісанне, напісанае Апосталамі і Прарокамі, з'яўляецца крыніцай ісціны і выратавальнага вучэння.

2. Бог ёсць Адзіны па істоце і Траічны ў Асобах.

3. З гэтых Трох Асоб ніхто не з'яўляецца ні першым, ні апошнім у Сваім быцці, паводле сімвалу Нікейскай веры.

4. Тлумачэнне Апостальскай веры, гэта завецца Сімвалам Веры, з'яўляецца сутнасцю набажэнства і сапраўднага спавядання.

5. Хрыстос, Сын Бога Жывога, ёсць Праўдзівы Бог, невыказным спосабам прадвечна народжаны ад Бога Бацькі, і праўдзівы чалавек, які нарадзіўся ад Панны Марыі дзеля нашага выратавання.

6. Гэты ж Хрыстос, прынёсшы Сябе ў ахвяру Богу Бацьку за нас, учыніў выкупленне за нашы грахі Сваёю смерцю.

7. Бог не з'яўляецца ні прычынай, ні творцам зла.

8. У першародным граху зачынаюцца і нараджаюцца ўсе людзі.

9. Тым, хто каецца і сапраўды выпраўляецца, даруецца адпушчэнне грахоў.

10. Хрышчоныя вернікі павінны выяўляць добрыя справы.

11. Толькі Хрыстос з'яўляецца адзіным Кіраўнікомм Сваёй Царквы, як бачнай, так і нябачнай.

12. У Царкве Божай неабходна служэнне святарства для ўразумення Евангелля і здзяйснення таінстваў.

13. Шлюб не забараняецца ўсяму святарству.

14. Дзяцей трэба хрысціць у малым веку.

15. Прычашчэнне павінна быць давана ўсім верным пад абодвума выглядамі.

16. У Св. Пісанні няма ніякага згадвання аб чысцяцы, дзе пасля смерці чысціліся б душы.

17. Хрыстос па ўшэсці жывым на неба уссядае там праваруч Бога Бацькі, і не сыдзе на зямлю, пакуль не прыйдзе судзіць жывых і мёртвых.

18. Як выратаванне праведнікаў ёсць вечнае, так бясконцыя і пакуты грэшнікаў.

# Аляксандра Нарбут – акадэмік Берлінскай акадэміі навук

Міхаіл Балінскі ў сваёй працы "Даўняя Віленская акадэмія" пра Аляксандру Нарбут пісаў наступнае: *"... у той час у Вільні кожны адукаваны месціч, кожны, хто меў адносіны да навукі, быў моцна ўсхваляваны навіной, якая толькі што разышлася па горадзе, што агульнавядомая сваімі талентамі і адукаванасцю высакародная літоўская панна Аляксандра Нарбутоўна, дачка подкаморага лідскага, была абрана сябрам Акадэміі навук у Берліне на паседжанні 19 студзеня 1788 г., і патэнт на тое з рук прускага князя Генрыха атрымала. Усцешыла гэта шмат асоб і асабліва шматлікую сям'ю. Некаторыя здзіўляліся гэтаму і лічылі гэта не жаночай справай, а ў некаторых, як гэта часта бывае ў свеце, гэты факт узбуджаў зайздрасць, калі не здзек"*.

Унікальны выпадак – **жанчына–акадэмік** у XVIII стагоддзі! І гэта жанчына – **з Ліды!**

Пошук інфармацыі ў літаратуры і інтэрнэт–бібліятэках дазволіў аднавіць некаторыя крэскі біяграфіі нашай знакамітай зямлячкі са шляхецкага роду Нарбутаў.

Яе бацька Тадэвуш Нарбут (каля 1740 – ?) герба Задора – падкаморы Лідскага павету і каралеўскі шамбелян, сын Казіміра Юзафа Нарбута (каля 1700 – ?). Ад першага шлюбу ў Тадэвуша Нарбута каля 1760 г. нарадзіліся тры дачкі: Канстанцыя, Аляксандра і Тэкля, ад другога шлюбу з Кацярынай Вяжэвіч – сын Войцах (1762 – 1837), каралеўскі шамбелян, посол сойму 1788 г. ад Лідскага павету, і дачка Ганна. Тадэвуш Нарбут мог мець дом у Лідзе, бо ў 1790 г. паводле інфармацыі Ч. Малеўскага, яму ў Лідскай парафіі належала Зарэчча (прыгарад Ліды), ваколіца Бельскія, Плясавічы, фальварак Сукурчы (з Востравам).

Пра сясцёр Канстанцыю і Аляксандру вядома, што яны выхоўваліся і атрымалі адукацыю пры двары княгіні Ізабэлы Чартарыскай з Флемінгаў (1745 – 1835) у Пулавах. У той час князь Адам Казімір Чартарыскі разам з жонкай стварыў у Пулавах сапраўдны асяродак навукі і мастацтва. Пры княжым двары жылі і працавалі мастакі Я. Норблін, З. Фогель, К. Войнякоўскі, Я. Рыхтар, пісьменнікі Ф. Княжнін, Я. Вароніч, Я. Нямцэвіч, архітэктары Ч. Айгнер, Я. Хемпель, музыканты Вінцэнт і Францішак Лясловы. У палацы была выдатная бібліятэка, фінансаваліся навуковыя даследаванні у галіне філалогіі, літаратуры, гісторыі. Да навуковай працы прыцягваліся лепшыя навукоўцы Еўропы. Пры двары атрымлівала адукацыю і выхаванне таленавітая моладзь. Таму ў XIX ст. Пулавы зваліся *"польскімі Афінамі"*. З Тадэвушам Нарбутам, бацькам Аляксандры, князя Чартарыскага звязвалі агульныя дзяржаўныя клопаты: *"бацька (Чартарыскі –Л.Л.) ў Вільні, быў старшынём суда Літвы. Ён горача аддаваўся выкананню сваіх абавязкаў ... віцэпрэзідэнтамі суду тады былі: у Гародні – Швяйкоўскі, вельмі выдатны чалавек, а ў Вільні – Нарбут, бацька паннаў, якія выхоўваліся ў доме маіх бацькоў"*.

У сваіх мемуарах, сын Адама Казіміра Чартарыскага, Адам Юры (Ежы) Чартарыскі (1770–1861), пісаў: *"Знаходжанне майго бацькі ў Літве прыцягнула да нас вялікую колькасць выхадцаў гэтай правінцыі. ... З Літвы, каб атрымаць у нас выхаванне, прыехала таксама некалькі маладых людзей. Іх прысутнасць ажыўляла Пулавы ў вольныя ад заняткаў гадзіны"*. Звычайна ў княгіні выхоўвалася 12 дзяўчат. Калі яны завяршалі адукацыю, княгіня клапацілася аб тым, каб дзяўчаты добра выйшлі замуж. Панны жылі ў асобным будынку пад апекай Францішкі Марыі Янушэўскай, якая разам са сваім мужам Філіпам займаліся таксама і адукацыяй дзяўчат. Асноўнай навукай, якую вывучалі дзяўчаты, была французская мова, модная ў той час і неабходная для чытання кніг. Вельмі добра выкладалі польскую мову, і княгіня заахвочвала паненак больш гаварыць і пісаць па-польску. Князь вельмі цікавіўся ўзроўнем адукацыі пулаўскіх дзяўчат, пра што сведчаць асабістыя віншаванні, якія ён накіроўваў выпускніцам. Па заканчэнні тэрміну адукацыі выхаванкі дзякавалі князю і ягонаму дому за *"гонар атрымаць выхаванне ў Пулавах"*.

Вядома, што княгіня Ізабэла Чартарыская вельмі добра адносілася да сясцёр Нарбут. Яны жылі з Чартарыскімі як члены іх сям'і, абедалі за княжым сталом і былі сяброўкамі маладых князёўнаў.

Адам Юры (Ежы) Чартарыскі ўспамінае аб жыцці ў адным з маёнткаў сям'і, Павонзках (пад Варшавай): *"Кожны з дзяцей меў хатку з садам, а пасярэдзіне на ўзвышэнні, над сажалкай, вада якой, сцякаючы ў маленькую рэчку, арашала ўсе пасадкі ... каб упрыгожыць гэты маёнтак, мая маці завяла ў ім штучныя разваліны ... кожная з хатак ... калонія мела сваю адмысловую эмблему. У сястры Марыі эмблемай была выява берасцянкі з надпісам: "весялосць". Мне далі галінку дуба з надпісам: "цвёрдасць". Над хатай маці была намалявана курыца з куранятамі. Над халупай сястры Тарэзы – кошык з белымі ружамі і надпісам: "дабрыня" ... панны Нарбут мелі таксама свае хаткі ... Усё гэта было прыдумана і ўладкавана маёй маці"*.

Сёстры Нарбут прымалі ўдзел у сямейных пастаноўках: *"У Павонзках ... ставілі оперу пад назвай "Зэміра і Азор". У адным з актаў гэтай оперы на сцэне з'яўляліся і дзве з маіх сясцёр з паннай Нарбут. Сцэна ўяўляла зачараваны замак, дзе сёстры павінны былі суцяшаць Зэміру"*. *"Неяк, пасля адной з тэатральных п'ес, калі ўжо ўсе раз'ехаліся, успыхнуў пажар. Агонь з'явіўся ў бакавым крыле хаты, дзе жылі мае сёстры. Сёстры з гувернанткай, мадэмуазель Пці і іх сяброўкі, панны Нарбут, ратуючыся, павінны былі ўцячы на іншы канец двара ... пасля пажару, Аляксандра, малодшая з сясцёр Нарбут, была ў адчаі і, думаючы, што мы пазба-*

**I M I O N A**

**OSÓB TU WCHODZĄCYCH.**

---

***Tamia*, (znaczy rządzącą).**

***Księżniczka Maryanna Czartoryska.***

***Kleona* (imie Nimfy oznacza).**

***Maryanna Przebendowska.***

***Kliodora* (od Klio Muzy historyczney).**

***Alexandra Narbuttówna.***

***Irys* (znaczy Tęczę: stosuje się do malarstwa).**

***Konstancya Narbuttówna.***

***Polifrena* (od wielu myśli, czyli wielomyślna).**

***Madame Petit, Guwernantka.***

***Muzofil* (znaczy sprzyjającego Muzom).**

***Książe Adam Czartoryski.***

***Kallisten*, (od słowa kallos: piękny).**

***Książę Franciszek Sapieha.***

***Glikon*, (od słowa glykos: słodki).**

***Książe Konstanty Czartoryski.***

***Афіша спектакля па п'есе Францішка Княжніна "Паветраны шар ці нядобрыя Пулаўскія"***

*віліся ўсёй нашай маёмасці, казала, каб мае бацькі пераехалі ў вёску яе бацькоў Сукурчы (Sukurcze), у Лідскай акрузе"* .

З канца снежня 1787 г. Аляксандра разам з Ізабэлай Чартарыскай была ў Берліне. *"Княгіня ў канцы снежня прыязджае ў Берлін. Ужо памёр Фрыдрых Вялікі, але адносіны (да Чартарыскай – Л.Л.) за два гады не змяніліся, і вельмі добры прыём княгіні ў Берліне нельга было зразумець без уліку палітычнай сітуацыі. Кабінет міністраў і каралеўскі двор Берліна ў гэты час спрабаваў здабыць папулярнасць у Польшчы і давер партыі, да якой належаў муж княгіні"*. Знайсці дакладную інфармацыю аб выбранні Аляксандры Нарбут сябрам акадэміі навук у Берліне на пасяджэнні 19 студзеня 1788 г. не ўдалося, але можна выказаць здагадку, што гэта выбранне было дэманстрацыяй павагі да Чартарыскіх, прызнанне іх сістэмы адукацыі і таленту іх выхаванкі. Нават у значна больш знакамітай, Французкай акадэміі (у ёй акадэмікам плацілі неблагія грошы), за 90 год да абрання Нарбутоўны ў лік акадэмікаў, з разлікам на перспектыву і з павагі да бацькі, былі прыняты семнаццацігадовы сын знакамітага астранома Касіні – Жак, а таксама ягоны пляменнік Джакама Маральдзі.

Берлінская акадэмія, арганізаваная Лейбніцам на пачатку XVIII стагоддзя перажыла заняпад пры "салдацкім каралі" Фрыдрыху Вільгельму I (1688-1740). Пасля яго смерці, у кіраванне Фрыдрыха II, фінансаванне акадэміі было значна палепшана, яна была пашырана і забяспечана лабараторыяй, для ўдзелу ў кіраўніцтве акадэміяй былі запрошаны першакласныя навукоўцы. І такім чынам да XIX стагоддзя Пруская акадэмія была ўжо аўтарытэтнай навуковай установай.

Аляксандра Нарбут стала вядомай актрысай, перакладчыцай і літаратарам. Яе прозвішча ёсць у спісе літаратараў Яна Савінскага. У "Гісторыі польскай літаратуры …" Фелікса Бянткоўскага ёсць інфармацыя пра пераклад п'есы дэ Жанліс "Зэлія, альбо шчырасць". Выхадныя дадзеныя гэтага перакладу наступныя: Zelia, czyli Szczerонъж (Zelia, albo Szczera; Zelia czyli Osobliwsze wychowanie). Kom. w 5 a. **Narbutywna Al**. (1790). Jadowski R. Warszawa, 1793.

Удалося ўстанавіць некаторыя ролі і спектаклі, у якіх іграла Аляксандра. Гэта роля Тэлэзіі ў оперы з трох актаў "Маці Спартанка" Францішка Княжніна. У гэтай жа оперы ігралі таксама яе старэйшая сястра Канстанцыя Нарбут (па мужу – Дамбоўская), якая таксама стала таленавітай і папулярнай актрысай і кампазітарам, і сама княгіня Ізабэла Чартарыская (у ролі Тэоны). Спектакль ставіўся ў тэатры Пулаў[21] . У п'есе Ф. Княжніна "Паветраны шар, ці нядобрыя Пулаўскія" Аляксандра выконвала ролю Кліадоры, Канстанцыя – ролю Ірыс .

У зборніку Марыі і Ўладзіслава Тамкевічаў "Даўняя Польшча ў анекдоце" ёсць нават анекдот пра Аляксандру: *"У Чартарыскіх у Пулавах пэўны час стала жыла панна Аляксандра Нарбутоўна. Была яна ўсімі паважаная і любімая, аднак князь Адам не мог ёй дараваць таго, што яна зашмат ужывала тытунь, таму аднойчы сказаў пра панну Аляксандру:*

*“Калі б іншыя часткі цела ў нашай панны Аляксандры, былі неўтаймаваныя гэтак жа як нос, то якая ж панна была бы!”*

Ю. Крашэўскі ў працы “Польшча пад час трох падзелаў, 1772 – 1799” пісаў аб прыездзе “*панны Нарбутоўны (Аляксандры – Л.Л.) з княжной Радзівілавай” на сойм у Гародню 1793 г.”* І на сойме, губернатарам Літвы, расейскім генералам Рапніным “*нягледзячы на стары ўзрост кіравала прыгожая і разумная панна Нарбутоўна са сваім бацькам, пра што ўсе казалі ўголас, і ён (Рапнін – Л.Л.) часам быў настолькі чалавечны, што менавіта ў гэтыя гады ... яго пахваліў Карпіньскі”.*

Гаротны лёс Рэчы Паспалітай Аляксандра не змяніла, але падобна на тое, што гэтыя адносіны адгукнуліся старому расейцу падчас знаходжання на Лідчыне ўжо пасля падзелу краіны. У той час сярод лідскай шляхты была распаўсюджана гульня, пад час якой шляхціцы, у залежнасці ад таго хто галоўны ў сям'і дзяліліся на “войска Лясковіча” і “войска Валёвай”. Справа ў тым, што ў Лідскім павеце быў заможны староста па прозвішчу Валь, уладар Ішчалны, Голдава і іншых вялікіх гаспадарак. Ён ужо у сталым веку ажаніўся з паннай з Шукевічаў і быў ў яе так закаханы, што перад шлюбам апісаў на жонку ўсю сваю маёмасць. Пані Валёва была досыць энергічнай жанчынай, і праз некаторы час самастойна кіравала не толькі маёнткам, але і асобай мужа, пра існаванне якога ўсе пачалі забывацца, бо ў размовах упаміналі толькі пра пані Валёву. Аднаго разу, калі ў маёнтку былі госці, Валь некалькі разоў паспрабаваў падтрымаць бяседу, аднак адна з госцяў цішком запыталася ў Валёвай: *“Як завуць гэтага старога, напэўна гэта эканом пані?”.* І тая пачырванеўшы, працадзіла праз зубы: *“Гэта мой муж”*. Сястра ж пані Валёвай была замужам за Каралем Лясковічам. Лясковіч быў чалавек небагаты, але меў добрую галаву і моцную волю. Сваёй жонкай кіраваў дэспатычна. Прыкладна гэтак жа, як Валь у жонкі, яна не мела аніякага голасу ў мужа. Абедзве пары жылі разам, бо Лясковіч быў даверанай асобай Валёвай і займаўся яе гаспадарчымі справамі. Кароль Нарбут, лідскі крайчы і земскі пісар, будучы чалавекам вясёлага характару, падзяліў сваіх жанатых землякоў на два войскі: *“войска Валёвай”* і *“войска Лясковіча”*. Усе мужчыны, якія былі пад абцасам у жонак, і тыя, што паслухмяна выконвалі жаночыя загады, адносіліся да афіцэраў войска Валёвай. Нарбут дзеля смеху, выпісваў патэнты ў гэтыя войскі.

У 1796 г. расейскі фельдмаршал Рапнін пачаў будаваць дарогі у Літве, у тым ліку і з Ліды на Гародню, і, верагодна, таму гасцяваў у Лідзе. Старога зацікавілі чуткі пра незвычайныя лідскія войскі. Аднойчы на балі ў вёсцы Перапечыца Рапніна пазнаёмілі з крайчым Нарбутам. Падчас знаёмства Рапнін сказаў: *“Я з'яўляюся фельдмаршалам*[27] *расейскай арміі і меў бы задавальненне даведацца аб тым тытуле, які я мог бы мець у войску, створаным панам Нарбутам”*. На што Нарбут адказаў: *“Гэта будзе залежыць ад заслуг Вашай княскай светласці, заўважаных на адпаведным полі славы, прызначаным выключна для гэтых войскаў”*. Праз нейкі час дамы намовілі княжну Рапніну падыйсці да мужа, які граў у карты, і палашчыць яго па твары, што яна і зрабіла. Прайшло некалькі хвілін, і камердынер прынёс вялікі запячатаны пакет, які падаў князю. Рапнін неадкладна адкрыў пакет і знайшоў у ім патэнт на чын падхарунжага *“войска Валёвай”*. Задаволены, ён схаваўшы гэты патэнт, сказаў, што далучыць яго да іншых сваіх патэнтаў з вайсковымі тытуламі і ўзнагародамі. Думаю, што будзе карэктна выказаць здагадку аб тым, што лідскі крайчы Нарбут такім чынам нагадаў Рапніну пра ягоны ўдзел у падзеле Рэчы Паспалітай і захапленне Аляксандрай Нарбут.

Аляксандра Нарбут была асобай інтэлектуальнай эліты Рэчы Паспалітай, і пасля таго як гэтай дзяржавы не стала, пачала жыць прыватным жыццём. Яна выйшла замуж за Станіслава Цясельскага (Stanisiaw Ciesielski, 1750–1823) і стала Аляксандрай Цясельскай. Жанчына–акадэмік была добра вядомая сваім сучаснікам і даследчыкам першай паловы XIX ст., але да нашага часу засталася невядомай сваім землякам. Нараджаюцца і сыходзяць у нябыт дзяржавы, але памяць аб першай і адзінай у гісторыі горада Ліды жанчыне–акадэміку павінна жыць у нашым горадзе.

Памерла Аляксандра нарбут у 1803 годзе.

***Леанід Лаўрэш.***

**Літаратура:**


1. Копелевич Ю.Х. Возникновение научных академий. Середина XVII-середина XVIII в. Ленинград. 1974.
2. Адам Чарторижский. Мемуары. М., 1998.
3. Balinski Michal. Dawna academia Wilenska. Petersburg, 1862. S.322.
4. Fielix Bentkowski. Historya literatury polskiej w spisie dziel drukiem ogloszonych. Warz. i Wilnia, 1814.
5. Dziela Franciszka Dyonizego Kniaznina. T. IV., Warsz., 1828.
6. Genealogia potomkyw Sejmu Wielkiego.
7. Zofia Goikbiowska. Oњwiata i wychowanie w Puiawach oraz kluczu kocskowolskim w czasach Czartoryskich. Puiawy. 2005.
8. Jyzef Ignacy Kraszewski. Polska w czasie trzech rozbiorow, 1772-1799: studya do historyi ducha i obyczaju Warszawa, Nakl. Gebethnera i Wolffa, 1903. T. 3. 1791-1799.
9. Miron Bronisiaw Narbutt. Armije maiїecskie / / Ziemia lidzka. Luty, 2002 r., nr 1(48)
10. Puiawy (1762-1830). Monografia z їycia towarzyskiego, politycznego i literackiego na podstawie archiwam ks. Czartoryskich w Krakowie. Opracowai Ludwik Dкbicki. Lwyw. 1887. T.1.
11. Jan Sowicski. O Uczonych Polkach. Warszawa, Krzemieniec i N. Gluncksber, 1821.
12. Michai Szymielewicz. Biaiohruda // Ziemia lidzka. Kwieciec, 2001 r., nr 2(45).
13. Maria Tomkiewiczowa, Wiadysiaw Tomkiewicz. Dawna Polska w anegdocie. Warszawa, 1968.

# Водны дыяметр горада Ліды

Як вядома, гісторыя горада - гэта перадусім яго геаграфія. Не будзь на гэтай геаграфічнай мясцовасці, хоць і невялічкай, рэчкі Лідзейкі, якая пачатак свой бярэ за Колышкамі паблізу вёскі Цябы, а таксама з-пад Уладзіслававa і з-пад Верхліды, а калі б у Лідзейку не ўпадала рачулка Каменка, якая складалася з двух рукавоў – адзін праходзіць праз гарадскі парк, а другі ля гарадскога стадыёна, а цяпер узятыя ў трубы – цяжка сказаць, ці адважыўся б наш Вялікі князь Гедзімін узяцца за пабудову замка. Абедзве рачукі сілкуюцца, ў асноўным, падземнымі грунтовымі водамі, а таксама паводкавымі, якія збіраюцца з усяго бесейна гэтых дзвюх рэчак. Напэўна ў тыя часы яны былі паўнаводныя, з чыстай крынічнай вадой, і моцна забалочанай поймай, добра прыдатныя для пражывання абапал іх, а водападзел паміж імі ў выглядзе ўзгорка, якраз там, дзе цяпер цэнтр горада, стаў месцам для арганізацыі першага паселішча. Пабудова ў 1323 годзе на месцы зліцця рэчак велічавага замка гарманічна спалучыла архітэктурную каштоўнасць яго з навакольнай прыродай і акрамя важнай абароннай функцыі, прыдало наваколлю непаўторнае хараство і прывабнасць. І па сённяшні дзень замак, які у асноўным пасля аднаўлення ўжо вырысаваўся, застаецца самай важнай дамінантай у архітэктурным абліччы горада.

Ішоў час, горад рос, разбудоўваўся, са з’яўленнем у горадзе чыгуначнага вузла актыўна развілася прамысловасць. Пачалося і новае жыццё ў рэчак. Лідзейка прыняла прамысловыя сцёкі Сельмаша, Піўзавода, Камбіната харчовых канцэнтратаў, з жылых дамоў. Каменка ўзяла на сябе сцёкі з Абутковай фабрыкі, Завода электравырабаў, жылых дамоў і сацыяльных аб’ектаў цэнтральнай часткі горада. Пакуль сцёкаў было нямнога, прыкметнай шкоды для нармальнага існавання біялагічнага жыцця ў гэтых рачулках не было.

У сярэдзіне 50-х гадоў мінулага стагоддзя гаркамунгас праявіў ініцыятыву аб стварэнні на Лідзейцы гарадскога возера. Падаў гэту ідэю тагачасны галоўны інжынер камунгаса малады спецыяліст Крыніцкі Алі Мустафавіч, які сам распрацаваў чарцяжы, зрабіў разлікі. Вельмі горача гэтая ініцыятыва была падтрымана гарвыканкамам у асобе старшыні Ушацкага Івана Іванавіча. І неўзабаве сіламі прадпрыемстваў і арганізацый горада і насельніцтва метадам народнай будоўлі была зроблена дамба, і з’явілася амаль 20-ці гектарнае возера. Гэта была вялікая радасць для гараджан – летам стала магчымым загараць і купацца, зімой, калі возера замярзала, стараўся цудоўны каток.

Недахопам, можна сказаць, слабым і ўразлівым месцам у возеры было тое, што фекальныя і прамысловыя сцёкі мясакамбіната і пабудаванага аўтарамонтнага завода, без папярэдняй ачысткі выліваліся ў возера.

У канцы 60-х і пачатку 70- гадоў XX стагоддзя ўзнікла многа праблем ў жыцці горада. У сувязі з ростам прамысловасці, будаўніцтвам жылля і сацыяльных аб’ектаў у шмат разоў павялічыліся сцёкі ў Лідзейку і Каменку. Апошняя ператварылася у так званую ў народзе “Смярдзючку”. Вузкім месцам у горадзе стала транспартная схема. Патрэбен быў пісьменны, комплексны падыход пры вырашэнні гэтых задач. А самае галоўнае – трэба было выкарыстаць тое, што далі гораду Бог і прырода. Маецца на ўвазе рэчка Лідзейка. Перш-наперш была дасягнута дамоўненасць у Міністэрстве меліярацыі і воднай гаспадаркі ўключыць у план інстытута Дзіправодгас (па руску – Гипроводхоз) вывучэнне магчымасцяў воднага сцёку Лідзейкі і стварэння на ёй каскаду азёраў. Такая работа была праведзена ў 1972 г. На рэчцы Лідзейцы згодна з планам ствралася пяць азёр. Былі пралічаны сцёкі вады, сярэднія глыбіні, водаабмен, абазначаны месцы адпачынку. Гэта была фундаментальная праца, якая дала магчымасць увязаць і ліўневыя сцёкі, і ўзроўні транспартных шляхоў, а самае галоўнае, адкрыла магчымасць распрацоўкі асобных вадаёмаў, стварaць на іх рабочую праектна-каштарысную дакументацыю. Адначасова была прапрацавана схема фекальнай каналізацыі ўсяго горада, каб спыніць сцёк неачышчаных водаў у Лідзейку, а таксама арганізавана скідваць ліўневыя сцёкі.

У хуткім часе згаданы інстытут распрацаваў праект верхняга возера плошчай 62 га - давялося прасіць вельмі многіх чыноўнікаў. Належнае трэба аддаць тагачаснаму дырэктару саўгаса “Лідскі” Крыніцкаму Мацвею Сцяпанавічу, які прыхільна аднёсся да стварэння возера, бо яно знаходзілася на землях гаспадаркі: усе пытанні, якія адносіліся да яго кампетэнцыі, вырашаліся станоўча і хутка.

Затым трэба было збудаваць гэты вадаём, пры тым самы дарагі і самы аб’ёмны з усіх . Узніклі пытанні ўключэння ў план і пошуку падрадчыка ды грошай. І тут хачу асобна падкрэсліць ролю міністра меліярацыі і воднай гаспадаркі рэспублікі Паўлючука Ўладзіміра Іосіфавіча. Ён у гэтай справе ўбачыў вялікую карысць і для прыроды, і для шматтысячнага горада Ліды. Аб’ект быў уключаны ў план, аддалі будаўнічамантажнаму кіраванню меліярацыі, і ў 1977 годзе пачаліся работы, а праз два гады воднае люстэрка ў 62 гектары заззяла паміж вёскай Малэйкаўшчына і вуліцай Свярдлова.

У гэты ж час пачаліся работы і па стварэнні вадаёма паміж Раслякамі, піўзаводам і камбінатам харчовых канцэнтратаў. Запраектавалі мост – плаціну па вуліцы Таўлая, бо возера гэтае было невялікіх памераў, і пры малым перападзе паміж вуліцамі Міцкевіч і Таўлая ствралася ў копані, гэта значыць, для яго рабілася штучнае ложа.

Агромістыя цяжкасці былі з узвядзенем мастаплаціны. Справа ў тым. што ў гэтым месцы на глыбіні двух метраў аказаліся вельмі воданасычаныя грунты,



## *Фрагмент плана русла Лідзейкі паміж вуліцамі Таўлая і Энгельса*

т. зв. плывуны. Давялося многа папрацаваць, каб забетанаваць аснову і цела маста-плаціны. Але к 1979 году работа была завершана, засталося правесці добраўпарадкаванне вуліцы Таўлая.

Праз нэўны час, на рубяжы 80-90-х гадоў была праведзена рэканструкцыя і рамонт першага возера па вуліцы Міцкевіча і створана трэцяе возера паміж вуліцамі Міцкевіча і Таўлая.

Цяпер на першым возеры па вул. Міцкевіча маецца цудоўная зона адпачынку гараджан, а пабудаваная нядаўна стараннямі былога старшыні Лідскага райвыканкаму Шурбы Сяргея Іванавіча (цяпер стар-




***Фрагмент плана вадаёма ў раёне Паўднёвага гарадка***

шыня абласнога ТВВОД) выратавальная станцыя не толькі павысіла бяспеку на вадзе, але і ўпрыгожыла і дапоўніла акваторыю возера.

У 1973-1974 гадах у эксплуатацыю былі ўведзены гарадскія ачышчальныя каналізацыйныя збудаванні, а таксама сетка самацечных і напорных калектараў з помпавымі станцыямі, што дазволіла ачысціць і Лідзею, і Каменку ад брудных сцёкаў. Неўзабаве ў Лідзейцы пачала жыць рыба. Гэта значная падзея ў жыцці горада.

У выніку распрацаваная схема рэгуляавання ракі Лідзейкі, як і было задумана, ужо тады, была больш чым напалавіну рэалізавана. Але і на сёння яна актуальна. Трэба русла даводзіць да ладу і далей, пачынаючы ад вуліцы Таўлая, побач з раённым Домам культуры, замкам і аж да Паўднёвага гарадка і такім чынам завяршаць водны дыяметр горада. Наперадзе чакае вялікая і цікавая работа.

У раёне Паўднёвага гарадка насупраць Малочнага завода трэба будзе пабудаваць яшчэ адну плаціну, стварыць вадаём і пашырыць русла рэчкі вышэй па цячэнні. Нядаўна галоўны архітэктар БелНДІП горадабудаўніцтва Ісачанка Уладзімір Рыгоравіч распрацаваў варыянт дэталёвага плана цэнтра горада Ліды, які ўключае ў сабе прапановы па завяршэнні воднага дыяметра і яго добраўпарадкавання. Дарэчы, Уладзімір Рыгоравіч у мінулым галоўны архітэктар нашай вобласці, аўтар Лідскага Дома культуры, Дома афіцэраў і цэнтра Ліды, шмат зрабіў і робіць для нашага горада. Ён заслужаны архітэктар краіны. Трэба асобна адзначыць, што ў распрацоўцы гэтай усёй задумы вялікі ўклад зрабіў Пархута Анатоль Сяргеевіч пад час сваёй працы галоўным архітэктарам горада.

Больш чым упэўнены: усё, што зроблена па воднаму дыяметру, і тое, што павінна быць выканана па завяршэнні яго, прыдасць гораду непаўторны, унікальны выгляд, палепшыць экалогію і мікраклімат, будзе доўга і карысна служыць многім пакаленням гараджан.

***Уладзімір Логаш,***
***былы старшыня Лідскага гарвыканкаму.***

***Ад рэдакцыі.*** *Сёлета на русле Лідзейкі ідуць вялікія работы. Па іх завяршэнні стане відно, што з запланаванага некалі ўдалося рэалізаваць.*

# РЭКВІЕМ 56-й СТРАЛКОВАЙ ДЫВІЗІІ

*(Заканчэнне. Пачатак у папярэднім нумары.)*

Падчас работы над гісторыяй 56-й сд ўдалося ўстанавіць, што з 37 сп перажылі вайну яшчэ 7 чалавек. Гэта:

1. Бажанаў Міхаіл Карлавіч;



Бельдяев Анатолий Николаевич
37 СП 56 СД



БАЖАНОВ
Михаил Карпович
37-ой СП

2. Бельдыеў Антоль Мікалаевіч;
3. Захараў Мікалай Абрамавіч;
4. Ізмайлаў Аляксандр Мацвеевіч;
5. Іштэракаў Леанід Пятровіч;
6. Радзько Сяргей Дзмітрыевіч;
7. Усманаў Файзі Усманавіч.



Радько
Сергей Дмитриевич,
37 СП 56 СД



Курсанты полковой школы
ребята из Башкирской АССР
слева направо
Бикметов – погиб, Усманов Ф. У., Гильмияров С. Г.



УСМАНОВ
Файзи Усманович
37-ого СП 56-ой СД



Валивахин Иван Игнатьевич
184 СП 56СД

Па 184 сп ўдалося ўстанавіць, што ў жывых засталося яшчэ тры чалавекі. Гэта:

1. Валівахін Іван Ігнацьевіч;
2. Ісупаў Анатоль Пятровіч;
3. Радыюс Мікалай Пятровіч.



Исупов Анатолий Петрович
Ротный I батальона 184 СП 56 СД

**Артылерыя 56-й сд**

Важнае месца ў баяздольнасці войскаў у перадваенны перыяд адводзілася артылерыі, якую часта ў той час звалі "богам вайны". Асноўнай арганізацыйнай адзінкай артылерыі з'яўляўся полк, які, як правіла, складаўся з 3-х агнявых дывізіёнаў. Вайсковыя спецыялісты адзначаюць, што па баявых якасцях савецкая артылерыя пераўзыходзіла нямецкую. Але яна была слаба забяспечаная механізаванай цягай, што рэзка зніжала яе баявыя магчымасці. Патрэбнасці войскаў у адмысловых артылерыйскіх цягачах задавальняліся толькі на 20,5 %. У якасці цягачоў выкарыстоўваліся сельскагаспадарчыя трактары,



Радиус Николай Петрович
184 СП

палова гармат - на конскай цязе. І гэты "бог вайны, "любата" 56 сд - артылерыя, загінула, практычна, пад першымі ўдарамі ворага: многія з 122-х і найноўшых 152-х мм гармат не зрабілі нават аднаго стрэлу. І што страшней за ўсё, загінула не толькі тэхніка, загінуў не па сваёй віне практычна ўвесь асабовы склад.

У 56-й стралковай дывізіі па штаце меліся 247-мы гаўбічны і 113-ты лёгкі артылерыйскія палкі.

**247 гаўбічны артылерыйскі полк**

У 1939 г. полк размяшчаўся ў г. Слуцку. Увосень 1939 г. удзельнічаў у вызваленні Заходняй Беларусі, узімку 1939-1940 гг. - у баях у Фінляндыі на Петразаводскім кірунку, улетку 1940 г. - у паходзе ў Латвію. З Рыгі полк быў перакінуты ў Ломжу, адтуль - у маёнтак Мікелеўшчына, што за 7 км ад Ражанкі. У траўні 1941 г. полк перамешчаны пад Сапоцкін у маёнтак Свяцк - Велькі. Камандзір палка Кузняцоў, нам. па палітчастцы - батальённы камісар Зайцаў. Напярэдадні вайны частка байцоў знаходзілася на артылерыйскіх зборах пад Гародняю.

Пра будні, узбраенне, баявую падрыхтоўку і гібель палка ўспамінае малодшы лейтэнант **Іваноў Аляксандр Макаравіч:** *"Полк размяшчаўся ля самай мяжы ў м. Сапоцкін у маляўнічым фальварку Свяцк-Велькі, усяго за 7 км ад мяжы. У сярэдзіне траўня на наша месца пераведзены з Гародні камандны пункт 56-й дывізіі. Каб не дэмаскаваць яго, мы размясціліся побач з дотамі, якія будаваліся ля канала.*

*На мяжы ў траўні 1941 года - трывожнае становішча: пастаянныя парушэнні мяжы, пералёты праз яе нямецкіх самалётаў-выведнікаў. Усё часцей у нас пачалі праводзіцца баявыя трывогі, вучэнні ў полі з гарматамі. У нашым 1-м дывізіёне, якім камандаваў старэйшы палітрук Сямёнаў, гарматы былі любата: даўгаствольныя 152-мм гарматы на механічнай цязе, працаваць на якіх было сапраўднае задавальненне. Уявіце сабе такую махіну вагой у 2.5 тоны! Адзін снарад для яе важыў больш за 2,5 пуды, а кідае яна яго на 17 км. Праўда, такія гарматы-гаўбіцы былі толькі ў нашым дывізіёне, у астатніх заставаліся ранейшыя, 122-х мм, дарэчы сказаць, таксама не цацкі - снарады амаль па 22 кг, далёкасць стральбы - звыш 11 км. Але працаваць з імі ў баі было нялёгка: паспрабуй перакінуць з рук на рукі шэсць такіх паўтарапудовых штучак у хвіліну, гэта значыць 10 пудоў на працягу хоць бы чвэрці гадзіны, адразу змокне на спіне гімнасцёрка. А калі паўгадзіны, гадзіна? Без трэніроўкі не абыйдзешся. Вось мы і трэніраваліся, каб адказаць на варожы ўдар патройным ударам. Як памятаецца, мы спявалі з гонарам:*

*"Ударят орудия громом,*
*закутав селения в дым.*
*Ни поля, ни леса, ни дома,*
*ни Волги, ни Лены, ни Дона –*
*ни пяди земли не сдадим!"*

*Спявалі то, спявалі, а вось так здарылася, што многія нашы гарматы нават разу не стрэлілі: былі знішчаныя з паветра да пачатку бою.*

*Увечар у суботу 21 чэрвеня мы глядзелі пад хвоямі непадалёк ад Аўгустоўскага канала фільм "Аляксандр Сувораў". Экран быў замацаваны на дрэве, а мы размясціліся, хто на самаробных зэдлях, хто на крэслах. Пасля фільма трохі пасядзелі ў курылцы і разышліся па намётах, якія былі разбітыя непадалёк ад артылерыйскага парку. Агнявыя пазіцыі ля канала намі былі раней адкапаныя, але мы іх пакуль не займалі. Гаварылі, не варта правакаваць немцаў, асабліва пасля прачытанага нам напярэдадні паведамлення ТАСС аб тым, што ні немцы на нас, ні мы на немцаў нападаць не рыхтуемся… Некаторыя нашы камандзіры, у іх ліку і маёр Кузняцоў, які выконваў абавязкі камандзіра палка, моцна сумняваліся, як і нашы суседзі з бліжэйшай памежнай заставы. Я быў на пасадзе камандзіра агнявога звяза 1-й батарэі. Батарэяй камандаваў лейтэнант Заякін.*

*На досвітку ўсіх падняў на ногі аглушальны выбух. З боку мяжы, дзе размяшчаўся штаб палка, вёўся інтэнсіўны артылерыйскі абстрэл. З'явіўся самалёт-выведнік.*

*Па баявой трывозе мы хутка панесліся ў артылерыйскі парк, які мясціўся поблізу на лясной паляне. Агнявы налёт пакінуў свой след: частка гаўбіц, цягачоў і аўтамабіляў была пашкоджаная.*

*Фашысты напалі на нашу Радзіму! З'явіліся першыя забітыя і параненыя. Цяжка паранены камандзір палка маёр Кузняцоў. Камандаванне палком прыняў яго намеснік па палітычнай частцы батальённы камісар Зайцаў. Камандзір 1-га дывізіёна старэйшы палітрук Сямёнаў загадаў нашай батарэі заняць агнявыя пазіцыі ў яшчэ не скончаным будаўнікамі ўмацраёне ўздоўж мяжы каля Сапоцкіна, паказаў асноўны кірунак стральбы і паставіў баявую задачу. Пад бесперапынным агнём фашыстаў мы хутка абсталявалі назіральны пункт і агнявыя пазіцыі для стральбы прамой наводкай, замаскавалі гаўбіцы, цягачы і аўтамабілі.*

*Каля 5 гадзін раніцы немцы перанеслі артылерыйскі агонь углыб нашай абароны, а іх пяхота пайшла ў атаку. Яны ішлі нахабна, самаўпэўнена, закасаўшы рукавы, з аўтаматамі. Выведнік Пагарэльскі спрытна працаваў са стэрэатрубой, хутка засякаў цэлі і рыхтаваў дадзеныя для стральбы па іх.*

*Магутныя залпы чатырох 152-х міліметровых гаўбіц скалынаюць паветра, снарады рвуцца ў размяшчэнні фашыстаў. Атака адбітая. Частка гітлераўцаў была забітыя, астатнія пабеглі назад. Наступіла невялікая паўза. Ізноў з'явіўся самалёт-выведнік.*

*- Танкі! - раптам дакладвае Пагарэльскі.*

*Гляджу на гадзіннік - 5.30. Падымаю да вачэй бінокль, лічу, колькі іх. Адзін, два, тры…, пяць…, дзесяць… Дакладваю камандзіру батарэі. Артылерысты адкрываюць агонь па ворагу. "Чатыры танкі павярнулі назад, шэсць знішчана, - дакладвае выведнік Пагарэльскі.*

*Танкавая атака адбітая. На стомленых тварах батарэйцаў радасць. Яшчэ б! Першы выйграны бой.*

*Але радасць раптам згасае. Камандзір звяза боезабеспячэння лейтэнант Баліхін даклаў на НП: "Снарадаў няма!". Спрабую звязацца з іншымі батарэямі - сувязі няма, няма сувязі з НП камандзіра дывізіёна, маўчыць і камандзір палка.*

*Праз некалькі хвілін гучыць каманда: "Паветра!". На нашу батарэю наляцела пяць "Юнкерсаў". Не маючы зенітнага прыкрыцця, мы нічога не маглі зрабіць з імі. Яны на прыземным палёце моцна бамбавалі і абстрэльвалі пазіцыі нашай батарэі.*

*Пасля паветранай атакі гаўбіцы, цягачы былі пакарабачаныя, асабовы склад агнявых звязаў амаль поўнасцю знішчаны. Загінуў камандзір батарэі лейтэнант Заякін.*

*Сяк-так прывялі ў парадак ацалелыя гаўбіцы, адкрыць жа агонь многія не паспелі. "Юнкерсы" і "Месершміты" з'явіліся ізноў і пачалі сваю смяротную карусель.*

*Дывізіён раставаў на маіх вачах. Тое ж было і з суседнім дывізіёнам. Там пачалі закочваць ацалелыя гарматы ў катлаваны недабудаваных дотаў. Але і гэта не дапамагло". (У чэрвені 1941. Кн.2-я. Гародня,1999, стар. 80-81).*

Падчас бою да палка далучылася частка байцоў, якія знаходзіліся на артылерыйскіх зборах пад Гародняй. Але і гэта не выратавала становішча. Успамінае курсант палкавой школы **Пагарэльскі Ігар Яўхімавіч:** *"У траўні 1941 г. мы выехалі ў летнія лагеры. Тады я быў курсантам палкавой школы. У ноч з 21 на 22 чэрвеня нас паднялі па трывозе, і мы зрушыліся паходным маршам у бок мяжы.*




*Досвіткам спыніліся на прывал у невялікім гаі недалёка ад мястэчка Свяцк. Селі адпачыць. І раптам пачалі рвацца снарады. Мы ўскочылі. Першая думка, якая прыйшла ў галаву, гэта мабыць, ізноў пачаліся вучэнні. Але, тут жа, з-за лесу з'явіліся знішчальнікі з чорнымі крыжамі і з прыземнага палёту пачалі паліваць нас свінцом. Вакол з'явіліся першыя забітыя і параненыя. Тады мы зразумелі, што гэта не вучэнні, а вайна. Далучыўшыся да палка, усталявалі 152-мм гаўбіцы ў доты ўмацраёна, і пачалі адбіваць атакі гітлераўцаў. З першых хвілін вайны наш полк вёў разлютаныя баі. Агнявыя пазіцыі падвяргаліся бесперапыннаму артабстрэлу. Затым наляцела група фашысцкіх бамбардзіроўшчыкаў і пачала бамбаваць наша размяшчэнне". (У чэрвені 1941. Кн.1-я, Гародня, 1997, стар. 78).*

**Іваноў А.М.:** *"Гадзінаў да 5 ад палка* (22.06- А.К.), *які ўступіў у бой, з больш, чым 40 гаўбіц, засталіся адзінкі. Верагодна, загінула і была параненая і большасць артылерыстаў. Забітых пахавалі там жа, на месцы бою, а параненых паклалі на зялёныя галінкі ў ацалелыя машыны і артылерыйскія цягачы, падчапілі з дзесятак пазасталых гармат і з некалькімі дзесяткамі здаровых байцоў пад вечар зрушыліся да Нёмана. Журботны быў гэты шлях адступлення рэштка ў нядаўна яшчэ магутнага палка. З 1240 чалавек, якія былі ў ім яшчэ напярэдадні, да Гародні дабралася ўсяго 78 чалавек з некалькімі гаўбіцамі". (У чэрвені 1941. Кн.2-я. Гародня,1999, стар. 80-81).*

Асабовы склад 247-га гаўбічна-артылерыйскага палка (78 чалавек з 1240), які дабраўся да Гародні, там не затрымаўся. Мал. лейтэнант **Іваноў А.М**.: *"У ноч на 23 чэрвеня па загадзе камандавання мы пакінулі Гародню, якая пылала (гарэлі склады з палівм, рваліся боепрыпасы) і накіраваліся да Ліды. Адтуль наш шлях ляжаў на Іўе, Юрацішкі, Вілейку, падчас якога мы падвяргаліся частым бамбёжкам і трацілі апошнія гарматы і машыны". (У чэрвені 1941. Кн.2-я. Гародня,1999, стар. 81-82).*

Шлях ад мяжы на ўсход быў нялёгкім не толькі з-за нямецкіх бамбардзіровак з паветра. *"У населеных пунктах па нас неаднаразова адкрывалі кулямётны агонь з гарышчаў і скляпоў будынкаў. Гэта стралялі варожыя групы, пасланыя ў наш тыл. Пад іх агнём нямала палегла нашых хлопцаў. Быў паранены і я",* - успамінае **Пагарэльскі І.Я.** - курсант палкавой школы 247 гап. *(У чэрвені 1941. Кн.1-я, Гародня, 1997, стар. 79).*

Старшына **Карпенка А.М:** *"247 гап з-пад Шчучына быў накіраваны ў м. Рось, каб спыніць пасоўванне немцаў на ўчастку Скідаль-Рось-Ваўкавыск. Штаб палка размяшчаўся ў м. Рось, а гаўбіцы былі ўсталяваныя перад мастом на р. Нёман... Наступны пункт нашага палка - лес пад Ваўкавыскам, затым адступленне ў кірунку Менскага ЎРа праз Зэльву, Наваградак, Карэлічы, Івянец, Койданава. За лінію фронту выйсці не ўдалося. Быў камандзірам роты і парторгам п.а. імя Су-*



*ворава брыгады “Савецкая Беларусь” Берасцейскага партызанскага злучэння.”*

**113 лёгкі артылерыйскі полк**

113 ап - удзельнік фінскай вайны, пры 60-ці градусным марозе штурмаваў недаступную лінію Манергейма. Да 7 траўня 1941 г. месцам сталай дыслакацыі палка быў г. Ліда, а 7 траўня полк перадыслакаваўся ў Гародню. Адзін дывізіён палка прымаў удзел у абсталяванні баявых пазіцый на прымежным рубяжы ў раёне Сапоцкіна. Артылерыя была на коннай цязе, адну гармату цягнулі тры пары коней.

Трывожнае становішча на мяжы. Гэта адчувалі ўсе, у тым ліку і шараговы, і сяржанцкі склад. Вось як яе апісваў у лісце родным сяржант 113 ап **Аляксандр Яўхімавіч Макееў:** *“...Прабуду тут, калі не затрымаюць, да 20 чэрвеня. Жыццё цячэ звычайна - праца, чатыры-шэсць гадзін у тыдзень палітзаняткаў. Памежнае жыццё поўнае нечаканасцяў. Не праходзіць дня, каб чаго-небудзь не здарылася. Сёння, напрыклад, уначы (з 3 на 4 чэрвеня) перайшоў мяжу звяз з мэтай здзяйснення дыверсій, але быў затрыманы. Не так даўно быў выкрадзены вартавы, якога потым знайшлі павешаным на дрэве, распранутым і з багнетам у грудзях. Была таксама затрыманая група бандытаў каля 25 чалавек, якія спрабавалі перайсці мяжу. І так штодня, то адно, то другое...”. (І. Макеева. Рэха чэрвеня 1941. Гародня, 2005, ст. 67).*

Драматычна для палка пачаўся першы дзень Вялікай Айчыннай. Усё пачалося раптам. Мірная раніца для артылерыстаў скончылася ў той момант, калі над мяжой прагрымелі аглушальныя выбухі нямецкіх снарадаў, а ўслед за імі пайшлі танкі. Ініцыятыва ўпушчаная. Асабовы склад палка займаў агнявыя пазіцыі і наглядальныя пункты пад агнём праціўніка. У першыя гадзіны вайны вораг накрыў пазіцыі артылерыстаў магутным артылерыйска-мінамётным агнём, затым пайшлі танкі. Асноўная частка гармат выведзена з ладу. Полк панёс вялікія страты асабовага складу і матэрыяльнай часткі і змушаны быў адыходзіць праз падпаленую Гародню. Пасля паразы пад Гародняй рэшткі палка ў стане блытаніны і панікі групамі і групкамі пачалі хаатычнае адступленне на ўсход.



Аб падзеях першага крывавага для савецкага боку дня 22 чэрвеня палітрук 113-га гаўбічнага артылерыйскага палка **Андрэеў М.М.**: *“У 4 гадзіны ў асляпляльна-аглушальных выбухах агню і смерці загула і застагнала зямля. Я, зрываючыся, апранаючыся, бягу па загадзе камандзіра палка палітруком у другую батарэю першага дывізіёна, а адтуль у артылерыйскі парк, дзе стаялі на падстаўках 76-мм гарматы.*

*Артылерыйскі парк кіпіць ва ўраганным шквале агню. Конныя запрэжкі кідаюцца па баках, блытаюцца ў пастронках, ездавыя ніяк не могуць загнаць коней у бурлівае пекла артылерыйскага парку. Тут жа выскачыў камандзір дывізіёна на ўзвар'яваным шэрым кані. На поўным скаку яго зачапіла за шыю тэлефонным провадам, які падаў, і выкінула прэч з сядла з адрэзанай галавой.*

*Пасля немалых высілкаў і страт нам усё-такі ўдалося загнаць ашалелых коней у парк, упрэгчы ў перадкі і выкаціць з бурлівага пекла тры з чатырох гармат батарэі. Адна гармата так і засталася там разам з ездавымі і баявым разлікам, разбітая прамым трапляннем варожага снарада.*

*Адскочыўшы наўскач метраў на 500 ад парку, наша батарэя займае агнявыя пазіцыі прама сярод поля ў жыце. Камандзір батарэі ст. л-т Сяргей Балашоў, нібы непаражальны, спакойна і ўпэўнена праходзіць пад агнём ад аднаго гарматнага разліку да іншага, паказвае недахопы і недагляды. Яго загад абкопвацца ў поўны профіль і як след маскавацца, выконваецца няўхільна. Мне, як палітруку батарэі, тым больш неабходна было словам і справай натхняць байцоў на вычын. Я іду і падбадзёрваю хлопцаў: “Надышоў і наш час. Не пасарамоцім нашых продкаў, выдужаем. Смерць фашысцкім захопнікам!”*

*Яшчэ не паспелі абкапацца і замаскавацца, як артналёт сціхае, і на ўскраіне жытняга поля ад лесу раптам з'явіліся надыходзячыя цёмна-зялёныя ланцугі гітлераўцаў, разгорнутыя ў баявы парадак. Яны няўлоўна насоўваюцца грознай лавінай ва ўвесь рост з закасанымі рукавамі, са зброяй у руках проста на нашу пазіцыю. Ва ўзаемадзеянні з памежнікамі на вышыньцы справа падпускаем праціўніка як мага бліжэй і кулямётна-мінамётным, артылерыйскім агнём расстрэльваем яго ва ўпор, прыціскаем да зямлі і адкідваем назад.*

*Адкаціўшыся, непрыяцель адразу ж накрывае нашу пазіцыю магутным артылерыйска-мінамётным агнём. Закіпела і застагнала наша пазіцыя ў немым выцці снарадаў і мін, якія рвуцца паўсюль . Неўзабаве яна на імгненне замерла, парваная і разварочаная снарадамі і мінамі. З трох гармат батарэі адна зусім завалілася набок з падбітым колам і шчытом і выведзеным з ладу супраць-адкатным прыстасаваннем. Пашкоджанымі аказаліся і апошнія дзве гарматы, але з іх яшчэ можна было весці агонь. Тут жа ў беспарадку валяліся пакарабачаныя снарадныя скрыні, забітыя байцы, крывавыя лахманы, стрэляныя гільзы. Замерла таксама і вышынька памежнікаў на нашым правым фланзе. Пасля артналёту не паспяваем аказаць дапамогу параненым, як з-за лесу з гулам паказаліся*




*цёмныя машыны. Калышучыся, яны распаўзаліся па жытнім полі.*

*Ля нашых пашкоджаных, але баяздольных дзвюх гармат закіпела праца. Пазасталыя ў жывых баявыя разлікі, пагарджаючы смерцю, дзейнічаюць суладна і хутка.*

*- Агонь!- камандуе ст. л-т Балашоў.*

*Наводчыкі, хвалюючыся, бяруць на прыцэл пярэднія танкі, б'юць па іх, і ўсё міма і міма… Не вытрымаўшы няўдач і напругі, я адхіляю бліжэйшага наводчыка ад прыцэльнага прыстасавання, наводжу перакрыжаванне панарамы пад вежу танка, б'ю… і таксама міма! Скрыпучы зубамі, адкідаю прэч сваю напругу, і як мага спакайней і ўпэўненей бяру на прыцэл вырaслы перад вачамі бліжэйшы танк і б'ю прама ва ўпор першым снарадам па траках, другім - у борт. Танк развярнуўся бокам, рассцілаючы стужкай тракі, яшчэ раз ірвануўся, як паранены звер, і, замёр, агорнуты агнём і дымам. Услед за першым, падбіваю другую пачвару. Разам з ім раптам успыхнула і задымілася яшчэ адна варожая машына. Гэта патрапіла ў цэль і другая гармата.*

*Побач раздаўся трэск - зваліўся смяротна паранены Сяргей Балашоў. Сувязны Сцяпанаў аказвае яму дапамогу, але нажаль, яна ўжо не патрэбная. Смерць камбата яшчэ больш разлютавала нашы сэрцы. І не лічачыся з навіслай небяспекай і стратамі, ваюем да апошняга ўздыху і адбіваем танкавую атаку…*

*Ацанілі становішча, праціўнік авалодаў вышынькай памежнікаў і абышоў нашу пазіцыю з правага флангу. Яшчэ адно імгненне, і нашу батарэю раздушаць танкі. Трэба неадкладна здымацца і мяняць пазіцыю.*

*Выклікаем са схованак перадкі на батарэю, аказваем дапамогу параненым, хаваем забітых, здымаемся і адыходзім. Стараемся звязацца са сваім дывізіёнам, палком, суседнімі падраздзяленнямі. (У чэрвені 1941. Кн.1-я. Гародня, 1997, стар.89).*

*Палку пастаўленая задача - прайсці праз падпаленую Гародню, засярoдзіцца на яе ўскраіне і падтрымаць 184-ты стралковы полк, які да вечара 22 чэрвеня размясціўся на ўсходняй ускраіне Гародні.*

*У 7 гадзін вечара полк быў гатовы да бою. Раптам з боку горада данёсся грукат танкаў: немцы наступаюць.*

**Коваль А.М.**: *"…Адбіццём атакі праціўніка кіраваў маёр Зайцаў. Ён навідавоку ва ўсіх, у т.л. і непрыяцеля, ездзіў верхам на кані па баявых парадках і, натуральна, не ўбярогся, быў забіты. Пасля неаднаразовых атак у разліку засталіся толькі два чалавекі - я і наводчык. Мы навялі гармату і прамой наводкай пачалі расстрэльваць танкі. Некалькі танкаў былі падбітыя, астатнія схаваліся ў схованку. Праціўнік не мог не заўважыць нашу гармату і адкрыў па ёй агонь. Гармата была разбіта, а я паранены асколкам снарада. Памятаю, адзін з пазасталых у жывых наводчык, вынес мяне з поля бою і даставіў у палкавы лазарэт. Адгэтуль я патрапіў у Ліду, а потым у Арол. (Там жа, ст. 89).*



***Коваль Аляксандр Майсеевіч (3.06.1913-26.02.2005), Герой Савецкага Саюза.***

Лейтэнант Коваль Аляксандр Майсеевіч пасля папраўкі ў жніўні 1941 года вярнуўся ў шыхт. Ваяваў на Ленінградскім, Волхаўскім, Сталінградскім, Данскім і Трэцім Украінскім франтах у складзе 23-га артпалка 4-й гвардзейскай стралковай дывізіі, узнагароджаны званнем Героя Савецкага Саюза.

**Бабаджанян А.А.**: *"Да вечара засталіся 2 гарматы - гаўбіца 122 мм і гармата 76 мм. Байцы 184-га стралковага палка ручной гранатай падпальваюць першы танк, аднак танкі паўзуць. Я накіроўваю ствол сваёй гарматы на танк, які ідзе наперадзе. Мой камандзір гарматы аддае загад: "4 снарады, беглы - агонь!". Выпу-*



*працякае кроў. А дзяўчынка жывая, пальчыкам размазвае кроў па твары маці, і свой тварык выпацкала.*

*Мы спыніліся. Паверце, я адвярнуўся, каб не бачылі слёзаў палітрука. Не стрымалі слёзаў і іншыя, а жанчыны, якія надышлі, плакалі ва ўвесь голас…". (ЛГММ. Фонд 56 сд. М.А. Дайнега).*

А тым часам пасоўванне на ўсход хоць і ладна патрапаным, але ўсё-такі палком, станавілася ўсё больш цяжкім. Меншай колькасці людзей лягчэй атуліцца, схавацца ад пастоў і нямецкіх самалётаў, якія лётаюць бяскарна. *"У раёне Новай Руды камандаванне 213 сп сабрала адкрыты партыйны сход, запрасіўшы на яго ўсіх камандзіраў. Камандзір палка маёр Якаўлеў, камісар палка батальённы камісар Чарных, начальнік штаба капітан Царанок паінфармаваўшы аб становішчы, вырашылі спытаць, параіцца з камандным складам, камуністамі, камсамольцамі, як быць далей, ісці далей на злучэнне з часткамі Чырвонага Арміі ў складзе палка, або разбіцца па падраздзяленнях. На партсходзе былі розныя меркаванні. Камандаванне палка прыняло рашэнне: далейшы адыход з мэтай злучэння з часткамі Чырвонай Арміі ажыццяўляць паротна. У кожнай групе быў прызначаны камандзір і палітрук. Разам з асабовым складам роты, з якой прыйшлося і мне адыходзіць, адыходзілі былыя памежнікі, артылерысты, чырвонаармейцы іншых частак войскаў. Адыход у складзе рот здзяйсняўся ў выключна цяжкіх умовах, праводзячы ўпартыя баі з фашыстамі. Парой мы не елі па 2-3 сутак, радыя былі сырой бульбачцы. З адыходзячымі падраздзяленнямі рухалася шмат сем'яў каманднага складу. Жонкі і іх дзеці таксама змушаныя былі трываць усе нягоды, звязаныя з адступленнем нашага войска. Сувязі ніякай. Ніякай інфармацыі, акрамя несуцяшальных аповядаў жыхароў вёсак. Рухаліся толькі на ўсход. Кожны кіламетр дарогі трэба дбайна выведваць. Штодня, а то і некалькі раз на дзень шлях нечакана заступалі заслоны немцаў, накіраваныя на знішчэнне акружанага палка. Так мы прасоўваліся. (У.І. Панчанкаў. Там жа.")*

Падышлі да м. Радунь. Высветлілі, што там немцы. Абмінуўшы Радунь, сельская дарога прывяла ў гразкае багністае месца, з якога з вялікай цяжкасцю выйшлі.

Пры падыходзе да Ліды, бязлеснай мясцовасці, аказалася, што прасоўвацца на ўсход у складзе роты таксама цяжка, вырашылі разбіцца на дробныя групы. **У.І. Панчанкаў**: *"Дзесьці ў раёне г. Ліда мы атрымалі распараджэнне камандавання палка: у далейшым прасоўвацца на злучэнне з часткамі Чырвонай Арміі дробнымі групамі, пераапрануўшыся ў цывільную форму пад выглядам працоўных, зняволеных і г.д. Месцам збору груп быў вызначаны г. Асіповічы Магілёўскай вобласці." (У чэрвені 1941. Кн.1-я, Гародня, 1997, ст. 86-87).*

**Сляткоў:** *"Падышлі лясамі да Ліды, а калі лясы скончыліся, паслалі ў Ліду выведку. Тая даклала: у Лідзе немцы. Якаўлеў сабраў "вайсковую раду", на якой вырашылі полк падзяліць на групы і абыходзіць Ліду з поўначы". (ЛГММ, фонд Сляткоў П.Я.).* Некаторыя групы палка, а таксама памежнікі і байцы 9-га артылерыйска-кулямётнага батальёна вырашылі абыйсці Ліду з поўдня ў кірунку Наваградка, Баранавіч.

Тыя групы палка, якія вырашылі абыходзіць Ліду з поўначы, падышлі да в. Шаўдзюкі Лідскага раёна, дзе полк спыніўся на змушаны часовы адпачынак. 3 ліпеня 1941 г. пачалі рух у бок в. Гуды з мэтай выхаду праз в. Аўсядава - Верх-Ліда - Меляшы на Ліпнішкі, і далей - на Менскі кірунак. Палку трэба было перасекчы чыгункі і шашу Ліда-Вільня ля в. Гуды.

### Бой каля в. Гуды

Нямецкія выведвальныя самалёты, маючы магчымасць бяскарна лётаць над нашымі адыходзячымі войскамі, выведвалі і паведамлялі свайму камандаванню звесткі аб іх пасоўванні. Быў вылічаны і маршрут пасоўвання калон 213-га сп. Для ліквідацыі адыходзячых савецкіх вайскоўцаў ля в. Гуды ў хаце Рамана Ненартовіча (хата захаваўся да цяперашняга часу) размясціўся невялікі аддзел немцаў. Каля вёскі выстаўленыя вартавыя.

Досвіткам 3 ліпеня падзелены на групы полк падышоў да чыгункі Ліда-Вільня. Групе байцоў пад камандаваннем Г. Варанца загадана заняць абарону




***Адступленне 213 сп: х. Тартак - в. Навасёлкі - Сапоцкін - пераправа цераз Нёман каля в. Гожа - в. Крынічкі - в. Рыбніца - Парэчча - Новая Руда - Новы Двор - Васілішкі (далей на Радунь - в. Гуды - Ліпнішкі)***

ў акопчыках каля чыгуначнага насыпу, гэта значыць прыкрыць тыл нашых войскаў з боку чыгункі. Асноўны касцяк палка пачаў рух міма в. Гуды. Пры падыходзе да вёскі наша выведка нечакана наткнулася на нямецкіх вартавых. Завязалася перастрэлка. У выніку перастрэлкі выведнікаў палка з нямецкімі вартавымі, апошнія былі знішчаныя. Пачуўшы перастрэлку, падняліся немцы, начаваўшыя ў хаце Р. Ненартовіча.

Што рабіць палку? Ён змушаны быў пайсці ў атаку з мэтай знішчэння нямецкай залогі, перакрыўшай яму шлях да руху на ўсход. Першапачаткова поспех быў на боку савецкіх ваяроў. Па ўспамінах мясцовых жыхароў, чырвонаармейцы з крыкам: "Ура!" стралялі з вінтовак на хаду, прасоўваліся наперад. Але тут з гарышча хаты Р. Ненартовіча пачаў бесперапынку страляць нямецкі кулямёт. Другі нямецкі кулямёт "запрацаваў" з гарышча хлява. Бой зацягваўся. Хтосьці з чырвонаармейцаў па жыце падабраўся блізка да хаты і кінуў дзве гранаты пад сцены хаты. Але гранаты не падарваліся.

Аднак і ў немцаў сілы абмежаваныя. Два нямецкія салдаты з двара Р. Ненартовіча на матацыкле паспелі з'ехаць у бок Ліды (10 км) і выклікаць падмацаванне. Па сведчанні Г. Варанца, да немцаў падышло падмацаванне па чыгунцы. Група Г. Варанца адкрыла агонь па выскокваўшых з таварнага вагона немцах і перабіла іх. Неўзабаве пад'ехалі дзве нямецкія аўтамашыны, поўныя салдат-аўтаматчыкаў. Сілы, вядома, сталі няроўнымі. Кароткі няроўны бой з вялікімі стратамі з нашага боку. Група Г. Варанца паспела перабегчы цераз чыгуначны насып і зрабіла начны пераход да в. Ліпнішкі.

Нашы галодныя і змарнелыя байцы, сярод якіх былі і параненыя, прайшлі па акупаванай тэрыторыі лясамі і балотамі, у асноўным па начах, больш за сотню кіламетраў, абыходзілі населеныя пункты, адбіваліся ад ворага, які іх пераследваў. Ішлі групамі і групкамі на ўсход у надзеі сустрэць сваіх, злучыцца, атрымаць падмацаванне і перайсці лінію фронту. Але іх маладыя жыцці абарваліся ля в. Гуды.

На полі бою (у цяперашні час на гэтым месцы знаходзіцца дыспетчарская, нафтасклад, мехдвор саўгаса "Лідскі") засталося шмат забітых і параненых чырвонаармейцаў і афіцэраў. Азвярэлыя фашысты люта распраўляліся з параненымі чырвонаармейцамі. Па сведчанні мясцовага насельніцтва, савецкіх параненых пасля бою фашысты дастрэльвалі ва ўпор. Сваіх забітых хавалі самі, насыпаўшы 16 магільных пагорачкаў (цяпер сярэдзіна мехдвара), і поўную машыну параненых павезлі ў Ліду.

Назаўтра, 4 ліпеня, немцы загадалі мясцовым жыхарам пахаваць забітых чырвонаармейцаў. Забітых да магілаў звозілі коньмі. Па словах відавочцаў, некаторых забітых чырвонаармейцаў прывязвалі да каня і поцягам цягнулі да месца пахавання. Была выкапана адна асноўная магіла (2х3) м глыбінёй не больш за 1.5 м.

Колькі савецкіх байцоў загінула ў гэтым бai, невядома. Прыкладна 65-70 байцоў. Лічба можа быць большай. Па сведчанні ветэранаў, у гэтым баі загінуў **Марк Годзін.** Верагодна, у бой з немцамі пад Гудамі уступіла адна група 213-га сп. Астатнія групы 213-га сп адступілі ў кірунку Верх-Ліда або ўжо прайшлі праз яе. Па сведчанні сучаснікаў, мясцовае насельніцтва в. Верх-Ліда чула перастрэлку ля в. Гуды, некалькі чалавек сабралася каля адной з хат. Да іх падышлі змардаваныя чырвонаармейцы, разгаварыліся. А тут і немцы пад'ехалі ў вёску на матацыклах. Хлопцы прасілі захаваць ім жыццё. Немцы, нібы, пагадзіліся, затым адагналі чырвонаармейцаў ад вёскі, каб у вёсцы не страляць, і за яе ваколіцай маладыя, прыгожыя хлопцы, якім наканавана было жыць, тварыць, кахаць, апошні раз глынулі порцыю лідскага паветра, і… навекі засталіся безназоўнымі героямі 1941-га.


**Марк Годзін**

**Шлях ад в. Гуды**

Гітлераўцы ўстанавілі, што частка савецкіх войскаў праскочыла Гуды, і накіравалася на ўсход у бок в. Дварышча. Нямецкае камандаванне вырашыла па брукаванай шашы Ліда-Геранёны перакрыць дарогі адступлення савецкім ваярам на падыходзе да в. Дварышча. Ізноў завязаўся бой. Полк яшчэ страціў частку байцоў і камандзіраў.

Пазасталыя байцы і камандзіры, у іх ліку былі афіцэры штаба 213-га стралковага палка, выйшлі ў раён в. Меляшы. **Г.А. Варанец**: *"У баі каля в. Гуды маёр Якаўлеў не ўдзельнічаў. Ён з групай камандзіраў і байцоў выведзвяза ішоў трохі наперадзе".* Паводле мал. лейтэнанта **Ф.К. Парцянога**, пасля бою ля в. Гуды штаб палка на конях адарваўся ад немцаў і дабраўся да в. Меляшы. На ўзлеску за вёскай спыніліся на прывал. Некага паслалі ў вёску па


ПОРТЯНОЙ
Федор Кондратьевич
213-го СП 56-ой СД

правізію. Мясцовыя жыхары паведамілі немцам, і тыя пры-ехалі на матацыклах і машынах, акружылі. Завязалася перастрэлка. Калі ў камісара К. Чарных застаўся апошні патрон, ён стрэліў сабе ў сэрца. (У камісара Чарных у вайсковым гарадку Фолюш на паўночнай ускраіне Гародні жыла сям'я: жонка і двое дзяцей. Сын камісара К. Чарных Валянцін 1935 г.н. - выкладчык УДІКа, знакаміты расійскі кінадраматург і аўтар сцэнарыяў фільмаў "Масква слязам не верыць", "Кіроўца аўтобуса" (фільм аб тым, як сын камісара са сваёй маці выбіраліся з акружэння з Гародні ў бок Масквы), "Каханне зямное", "Кахаць пакуску" і, нарэшце, фільм "Свае" аб першых днях вайны на заходняй мяжы, узяў тры з чатырох галоўных прызоў на адным з Маскоўскіх кінафэстаў).

Немцаў ненадоўга адагналі. Камісара, сцяг палка, і партфель з дакументамі закапалі тут жа пад самой высокай хвояй на ўзлеску лесу на ўскраіне вёскі. Камандзір палка маёр Якаўлеў Т.Я. у гэтым баі быў паранены. Параненага камандзіра вынеслі з поля бою, і пакінулі ў адной з вёсак. Магчыма, параненага Якаўлева немцы ўзялі ў палон там жа, дзе застрэліўся Чарных. Па словах **Н.С. Нагорнага**, параненага камандзіра здаў немцам яфрэйтар, радыст звяза сувязі Хведар Кіслы (перайшоў службу да немцаў).



НАГОРНЫЙ
Николай Степанович
старшина 1-го батальона 213-ой СП

**Паланенне**

Рэшткі палка падышлі да в. Ліпнішкі. Тут адбыўся апошні бой чырвонаармейцаў з сытымі і ўзброенымі да зубоў гітлераўцамі. Савецкія ваяры былі акружаныя, многія загінулі. Пазасталыя ў жывых байцы, у тым ліку і камандзір палка маёр Якаўлеў, запалоненыя і змешчаныя ў вялікую адрыну ў в. Ліпнішкі. Затым іх далучылі да вялікай калоны палонных чырвонаармейцаў, якіх гналі канваіры па шашы з Менска на Ліду. Па ўспамінах Г. Варанца, у калоне палонных было не меней за тысячу чалавек. Пад час праходу ў Лідзе па вул. Калініна, адзін з мясцовых "прыязнікаў", гледзячы на калону палонных чырвонаармейцаў, з'едліва вымавіў: "Ну, што, давая-валіся, непераможныя!".

Як відаць, для некаторай катэгорыі нашага насельніцтва вайна яшчэ не стала ні Святой, ні Вялікай, ні Айчыннай. У той жа час гераічнасць, мужнасць і самаадданасць рускага салдата ацэненая нямецкім генералам Готам: *"Упартасць рускага салдата тлумачыцца не толькі яго страхам перад камісарамі... Для яго вайна носіць характар Айчыннай вайны". (Гот Г. Танкавыя аперацыі. М., "Воен-издат", 1961, ст.108).*

Не ўсе ваяры былі забітыя і запалоненыя ля вёсак Гуды, Ліпнішкі. Вядома, што адна з груп у складзе 4-х чалавек пад кіраўніцтвам У.І. Панчанкава вырвалася і, абыходзячы населеныя пункты, накіравалася на ўсход, дайшла амаль да Барысава. Насустрач групе траплялася шмат нашых ваяроў, якія распавядалі аб тым, што прайсці на злучэнне з Чырвонай Арміяй практычна немагчыма. Да сярэдзіны ліпеня парадзелая група Ў.І. Панчанкава вярнулася ў Заходнюю Беларусь і пад выглядам былых зняволеных хавалася ў сялян Карэліцкага, Навагрудскага раёнаў, затым большасць пайшла ў партызаны. Нажаль, У.І. Панчанкаў у сваіх успамінах ні разу не назваў прозвішчы чальцоў сваёй маленькай групы, якая, пабываўшы пад Барысавам, да сярэдзіны ліпеня паспела вярнуцца ў Карэліцкі і Навагрудскі раёны. Пра трагедыю палка пад в. Гуды Панчанкаў дазнаўся толькі пасля вайны.

Пры розных акалічнасцях байцы траплялі ў палон. Як правіла, у асноўным, у выніку цяжкага ранення. Многія патрапілі ў палон у выніку акружэння нямецкімі войскамі. Што маглі зрабіць галаруч хоць бясстрашныя і абучаныя нашы байцы супраць танкаў і артылерыі? На іх долю дасталася разгубленасць камандзіраў, недахоп патронаў і гранат, адсутнасць медыцынскай дапамогі, харчу, хаос і жах згубнага адступлення.

**Б.М. Максіменка:** *"Коні, што везлі артылерыйскую гармату, на перадку якой я ехаў, загінулі пад Гудамі. Хлопцы падышлі і гавораць: "Барыс - везці цябе няма на чым. Несці мы цябе не можам - самі ледзь ходзім. Заставайся: вунь дзесьці страляніна ідзе, мусіць нашы асноўныя сілы ідуць, выбавяць". Нага мая распухла - ніхто не перавязвае, нічым не мажа, нічога няма. Хлопцы мяне і гарматы пакінулі ў надзеі на хуткае вяртанне, і пайшлі самі. І так я там і застаўся адзін у ляску. Адпачыў крышку і, пераадольваючы боль, пайшоў да вёскі. У крайняй хаце мне далі малака і хлеба. Параілі прабірацца хутарамі. У Літве сустрэў такіх ж акружэнцаў, як і я. Я і група таварышаў, сярод якіх былі салдаты і афіцэры, спрабавалі неяк праравацца да сваіх. Доўга бадзяліся па лясах ад хутара да хутара. І ізноў нашы шляхі расходзіліся. 15-16 ліпеня, калі я адпачываў на адным з хутароў недалёка ад Ліды, мяне нечакана акружылі нямецкія матацыклісты, і я патрапіў у палон". (Б.М. Максіменка. Там жа.)*

**Г.А. Варанец:** *"Я разам з групай байцоў і камандзіраў пасля бою ля в. Гуды зрабіў начны пераход да в. Ліпнішкі. 4 ліпеня нас акружылі немцы. Я з пазасталымі ў жывых быў узяты ў палон. З нашай групы ў 92 чалавекі ў палон патрапіла меней за палову. Нас спачатку трымалі ў двары, затым далучылі да групы палонных 20-25 чалавек. 6 чалавек*

*камандзіраў аддзялілі ад усіх, і тут жа за хлявом расстралялі з аўтаматаў. Сярод іх знаёмых я нікога не бачыў. Гэтыя 6 чалавек былі ўжо ў Ліпнішках. Пазней нас пасадзілі ў хлеў і пратрымалі там 2 дні. Рана раніцай 6 або 7 ліпеня нас выгналі з хлява, зшыхтавалі ў калону, і пад вялікім канвоем пагналі ў Ліду. У Лідзе нас пратрымалі, здаецца, 2-3 дні, як памяць мне гаворыць, здаецца, у замку. Але я не ўпэўнены. Там я бачыў некалькіх байцоў і камандзіраў (сяржантаў) з нашага 213 сп. Старэйшых камандзіраў і маёра Якаўлева сярод палонных не было. Іх утрымоўвалі дзесьці асобна. Зараз я думаю, што Якаўлеў і іншыя камандзіры альбо ўтрымоўваліся ў іншым месцы, альбо яны былі ў Лідзе некалькімі днямі пазней. Магчыма, гэта было 3-4 дні пасля нас. У Лідзе мы прабылі нядоўга. Праз 2-3 дні быў зроблены перапіс палонных: хто, адкуль, званне, з якой воінскай часткі. Хлусілі, хто як мог, нават імёны і прозвішчы называлі несапраўдныя". (Г.А. Варанец. Там жа.)*

**Б.М. Максіменка:** *"У Лідзе палонных загналі ў Лідскі замак, паставілі ахову. Утрымоўвалі на працягу 3-х сутак без ежы і вады. І ўсе тры дня заганялі ў замак усё новых і новых палонных і арыштаваных. Набралася больш за 4 тысячы. Маёра Якаўлева я там не бачыў, хоць усе там былі пад адкрытым небам і яго то я, і мае сябры-аднапалчане ўбачылі б. Але яго ў той перыяд там не было. А вось Прусакоў і іншыя ўжо там былі, але не ведаю, ці даўно.*

*Немцы, якія вялі перапіс палонных, гаварылі амаль чыста па-руску, некаторыя з іх мелі знакі адрознення ўнтэр-афіцэраў, яфрэйтараў і да т.п. Калі я было паспрабаваў збрахаць нумар палка, а потым месца службы сказаў "Сапоцкін", то адзін мне адразу сказаў:*

*- Не брашы. Ты з 213-га сп. Ваш камандзір палка - маёр Якаўлеў, мы ведаем усё, аж да таго, якім дзяўчынкам ваш "Руды кот" аддае перавагу, шатэнкам або брунэткам. ("Рудым катом" у 213 сп салдаты звалі камандзіра палка маёра Якаўлева Т.Я.).*

*Утрымоўвалі нас у жудасным стане. Толькі на 3-ці дзень у лагер прывезлі некалькі мяшкоў вотруб'я і выдалі вязням па невялікай порцыі з кансервавай банкі. Гэтае "кармленне" адмыслова фатаграфавалася для паказу ў Нямеччыне. І ўсе тры дні заганялі ў замак усё новых і новых палонных і арыштаваных. Набралася больш за 4 тысячы. Да некаторых з арыштаваных і запалоненых падыходзілі знаёмыя або родныя, называлі прозвішчы і імёны, фашысты адпускалі пад адказнасць заяўнікоў. Але такіх было не шмат". (Б.М. Максименко. Там жа.)*

Старажылы г. Ліды захавалі ў памяці спробу выратавання свайго мужа жыхаркай Карэліцкага раёна. Нейкім чынам, яна дазналася, што яе муж знаходзіцца ў зняволенні ў Лідскім замку. Але яе затрымалі дома гаспадарчыя або сямейныя клопаты. Сабралася ў дарогу і накіравалася да Ліды. Не паспела! Палонных з замка павезлі па чыгунцы ў Сувалкі. Не цяжка ўявіць боль, стогны і адчай няшчаснай жанчыны, прычытаўшай: чаму я раней не выйшла? Чаму я ішла, а не бегла? і да т.п.

**П. Рудзько** ўспамінае аб Лідскім канцлагеры ў Паўночным гарадку: *"Калі я патрапіў у палон - прывезлі ў горад Ліду, і там адбіраў нейкі ўкраінец у форме афіцэра РСЧА, адбіраў украінцаў сярод палонных для працы ў Лідскім дэпо "вагоннікамі" і "паравознікамі" - г.зн. правіць вагоны або паравозы. Адбіраў нас па наступным прынцыпе. Называе табе слова на рускай мове, а ты яго на ўкраінскай павінен быў сказаць. Для мяне ён сказаў фразу: "Скажы, як будзе на ўкраінскім: "Якая прыгожая дзеўчына". Я сказаў нешта накшталт: "Яка красіва дзіўчына". А той "чырвоны камандзір" засмяяўся і паправіў: "Яка гарна дзіўчына"! Добра гаворыць, праходзь"! І узяў у сваю каманду. Вось так той "чырвоны камандзір" фактычна выратаваў мне жыццё. Папрацаваўшы ў дэпо, праз нейкі час усё нашы ваеннапалонныя арганізавана сыйшлі ў партызаны. А вось камандзіра майго, л-та Васіля Рускіх, у тую каманду не ўзялі…"*

Ваеннапалонных немцы накіроўвалі на зборныя пункты, затым - у перасыльныя лагеры, пасля іх - у стала дзейныя лагеры - "шталагі" для шараговага і сержанцкага складу і "афлагі" - для афіцэраў, якія адначасова былі і месцамі іх масавага знішчэння.

**Г.А. Варанец:** *"Затым нас пагрузілі (у Лідзе) у таварныя вагоны і павезлі кудысьці. У вагонах было пасаджана па 100 чалавек. Сярод палонных было шмат хворых і параненых. Ляжаць або сядзець не было месца, можна было толькі стаяць. Усюды ўсё было шчыльна зачынена і забіта. Людзі пачалі задыхацца. На нашы крыкі "Паветра!" немцы пачалі страляць па вагонах з аўтаматаў. У нашым вагоне некалькі байцоў было паранена. Многія, знясілеўшы, гублялі прытомнасць. Дзесьці ў сярэдзіне шляху цягнік спыніўся, дазволілі выйсці з вагонаў. Невялікае поле было ачэплена шчыльным ланцугом нямецкіх аўтаматчыкаў. Некаторыя палонныя пабеглі ў бок ад вагонаў і былі расстраляныя з аўтаматаў. Затым нас пералічылі і пасадзілі назад у вагоны. У дарозе мы (я і іншыя) прарэзалі ў сцяне паміж вагонамі шчыліну ў дошках і па чарзе "пілі паветра" - дыхалі ў шчыліну. Нас прывезлі ў Гародню і размясцілі ў стайні нашага 213 сп. Там я сустрэў ездавога, з якім неаднаразова ездзіў па пошту ў Гародню, прозвішча яго я забыў. Праз некалькі дзён (2 або 3) нас адвезлі ў Сувалкі. Як нас туды везлі, я не памятаю. Памятаю толькі, што мы праходзілі міма драўляных нямецкіх баракаў-казармаў. І хтосьці з палонных, з тых хто раней служыў у гэтых месцах, гаварыў, што раней у гэтым месцы рабілася "перасадка" вагонаў з савецкай каляі на еўрапейскую. У Сувалках я сустрэў шмат байцоў і камандзіраў з нашага палка. Тут я*

*прабыў некалькі тыдняў". (Г.А. Варанец. Там жа.)*

**Б.М. Максіменка:** *"Праз 5-6 дзён ваеннапалонных з Лідскага замка, "пагналі на чыгунку, пагрузілі ў вагоны для жывёлы і таварняком, па 80 чалавек у вагоне, адправілі ў лагер, які знаходзіўся прыкладна за 5 км ад г. Сувалкі. Там пасярэдзіне голага поля збудавалі лагер для ваеннапалонных з некалькіх радоў калючага дроту, і там людзі пад адкрытым небам, пад дажджом былі даведзеныя да ўзроўню быдла. На 12 палонных раз у суткі выдавалі булку хлеба і адзін раз у 3 дні ганялі "на вадапой" на рэчку, якая знаходзілася за 2-3 км ад лагера. Маёра Якаўлева я ўпершыню ўбачыў недзе 25 ліпеня або ў пачатку жніўня ў лагеры "Сувалкі", калі я ўжо хадзіў самастойна (да гэтага ў мяне балела нага, і мне ваду прыносілі з рэчкі ў боце) і нас ганялі на вадапой. Прычым, першымі ўбачылі Якаўлева мае землякі - сябры-аднапалчане Прусакоў і Масталярчук, якія хадзілі на вадапой на рэчку. Афіцэрскі блок знаходзіўся насупраць нас. Паміж нашым і іх блокам быў праезд 20-30 м. Маёр быў у яго ўласнай зімовай суконнай гімнасцёрцы з пятліцамі, але без шпал. Гімнасцёрка была са слядамі пылу і сядзела на ім не шчыльна, з перакосамі, што гаварыла аб тым, што пад гімнасцеркай былі бінты. На рукавах былі шаўроны, боты, штаны галіфэ. Рухаўся ён марудна і нязграбна, стаяў ля калючага дроту, з нудой глядзеў на нас і ківаў галавой у знак прывітання. Мы віталіся: "Дабрыдзень, таварыш маёр". Хлопцы, якія хадзілі да мяне міма яго раз 5-7, бачылі яго ў кампаніі нейкага афіцэра ў шынялі, высокага росту. Па-моймому, я бачыў яго двойчы: у ліпені або пачатку жніўня, у канцы жніўня або ў першых днях верасня я бачыў яго ў апошні раз, калі афіцэрам давалі ежу - іх "сталовая" знаходзілася за 70 м ад нашага блока".(Б.М. Максіменка. Там жа.)*

**Г.А. Варанец:** *"Ад камандзіра транспартнай роты (ст. л-т, прозвішча не памятаю) я пачуў пра Якаўлева. Ён распавёў мне аднойчы, што бачыў сярод палонных камандзіраў маёра Якаўлева. Ведае, што Якаўлева некалькі раз вадзілі на допыт. З допыту ён вяртаўся змучаным. Ст. л-т гаварыў, што ён бачыў, як Якаўлева павялі на допыт, пасля якога ён не вярнуўся. Потым, нібы, нават немцы гаварылі, што Якаўлеў паводзіў сябе на допытах стойка і мужна, і што ён адмовіўся супрацоўнічаць з немцамі. Нібы Якаўлеву належалі словы: "Калі б іншыя біліся так, як камандзіры і байцы 213 сп, то немцы не былі б там, дзе яны знаходзяцца зараз. Яны б не прайшлі ні кіламетра па нашай зямлі".(Г.А. Варанец. Там жа.)*

А па ўспамінах камандзіра аддзялення палкавой школы **Наканечнікава Аляксандра Андрэевіча:** *"... нас прывезлі ў Лідскую цвердзь. У той жа дзень у цвердзь прывезлі маёра Якаўлева. Я бачыў яго да кастрычніка 1941 г.". (ЛГММ. Фонд "13 сп. Наканечнікаў А.А").*




**Б.М. Максіменка:** *"Наступіла восень, а з ёю і халады. Для схованкі ад непагадзі палонныя капалі ў зямлі ямкі і норы, хто чым мог, і ў іх сядзелі, але іх пры дажджы хутка залівала вадой. Расстрэлаў у Сувалках не было, але быў такі выпадак: нашыя палонныя, сярод якіх было шмат камандзіраў, бачачы немінучую гібель ад голаду, холаду і бесперапынных дажджоў, вырашылі ўцячы. Нехта прынёс у лагер нажніцы па метале, і іх вырашылі перадаць у блок, які быў бліжэй за ўсе да лесу. Тут дрот перакусілі рукамі і зрабілі праходы да крайняга блока, дзе размяшчаліся габрэі. Ва ўмоўлены час усе людзі з суседніх блокаў рушылі ў габрэйскі блок, але ... там адважных не аказалася, і праход не зрабілі. Такую навалу людзей немцы выявілі і адкрылі стралянiну. І вельмі многія загінулі ў тую ноч. Магчыма, загінуў тады і маёр Якаўлеў. Ён быў адданым ваяром, і не мог не паспрабаваць уцячы". (Б.М. Максіменка. Там жа.)*


**Чудоўскі Уладзімір Іванавіч**

Ці спрабаваў уцячы Якаўлеў, цяжка сказаць, бо ён быў паранены. Нагорны ўспамінаў, што прапаноўваў яму ўцячы, на што Якаўлеў адказаў, што ён далёка ўцячы не зможа, "а ты, малады і моцны - уцякай".

У 1989-1992 гг. кулямётчык вучэбнай роты **Ў.І. Чудоўскі** з г. Растоў-на-Дану, які прыязджаў на сустрэчу аднапалчан, распавядаў гарадзенскаму следапыту Ў. Бардову, як, быўшы ваеннапалонным, яму ўдалося пераежыць жахі знаходжання ў перасыльным лагеры "Сувалкі". Палонныя рылі "лісіныя норы" у пяску і спалі. Калі прыйшлі восеньскія халады, немцы выдалі ім трафейныя сінія польскія шынялі (з польскіх складоў). І ваеннапалонныя спалі, прыцiснуўшыся спінамі адзін да аднаго, захінуўшыся ў гэтыя шынялі. Бывала - заснеш, раніцай прачынаешся, а сусед ужо халодны. Памёр і акалеў за ноч. Яго хавалі, і на раніцняй праверцы выдавалі за жывога, каб за яго "пайку" атрымаць. Палонных немцы падзялілі па блоках, падзяліўшы ўнутраны абшар лагера калючым дротам. Камандзіраў і камісараў змясцілі ў афіцэрскі блок, параненых - у санітарны блок, габрэяў - у габрэйскі,

рускіх, беларусаў і палякаў - у рускі блок, украінцаў - ва ўкраінскі. Да ўкраінцаў немцы ў лагеры ставіліся лепш, чым да рускіх. Абяцалі пасля вызвалення Ўкраіны ад бальшавікоў, украінцаў адпусціць. Але лепш за ўсіх немцы ставіліся да так званым "нацыянальных меншасцяў", або, як іх клікалі ў палку, да "нацменаў". Кармілі ў Сувалках, як і ў Лідзе, вельмі дрэнна. Быў нарад на кухню, які абіраў бульбачку, з якой варылі зацірку, прычым, у гатовым прадукце зверху плавалі апарышы. Ваеннапалонныя апарышаў спачатку здзімалі, як пену з піва, а потым перасталі здзімаць і елкі разам з супам. Таксама бялок, выжыць трэба было неяк. З-за дрэннай ежы, антысанітарыі, недаядання палонныя мерлі, як мухі. У медблоку не было лекаў і бінтоў. Утылізавалі трупы "нацмены". Для гэтага немцы падзялілі іх на 2 (калі не на 3) змены, якія працавалі цэлы дзень, а, магчыма, і трэцяя начная змена была, і на 2 брыгады. Першая - капала траншэю, а другая складала туды трупы, утрамбоўвалі нагамі пашчыльней, і прысыпалі зверху параўнальна тонкім пластом зямлі. Гэта прывяло да таго, што з усіх навакольных лясоў Аўгустоўскай пушчы туды пачалі збягацца лісы. Спачатку ўначы, а потым, набраўшыся нахабства, і днём, грэблі пясок і грызлі трупы. Дарога на вадапой праходзіла як раз міма гэта рова. Ідзеш, бывала, на вадапой, і глядзіш - косткі абгрызеныя валяюцца, то рукі, то ногі. Тых, хто выжыў у Сувалках, павезлі далей, у глыб Польшчы, Нямеччыны, і нават Францыі.

**Максіменка:** *" У пачатку верасня нас перакінулі ў лагер Рыза (а маёр Якаўлеў, калі застаўся жывы пасля няўдалых уцёкаў, застаўся ў Сувалках)". (Б.М. Максіменка. Там жа).*

Урад СССР нічога не зрабіў, каб абараніць сваіх суайчыннікаў-палонных, палегчыць іх становішча, дапамагчы іх сем'ям.

Кіраўніцтва Нямеччыны, спасылаючыся на тое, што СССР не быў удзельнікам Гаагскай канвенцыі 1907 года і не далучыўся да Жэнеўскай канвенцыі 1929 года, не лічыла сябе звязаным нормамі законаў вайны ў адносінах да Савецкага Саюза.

Драматычнае становішча савецкіх ваеннапалонных ускладнялася яшчэ і ў тым, што і на Радзіме, у Савецкім Саюзе, яны былі ворагамі. Былі ворагамі і іх сям'і. Юрыдычна ўсе ваеннапалонныя лічыліся здраднікамі і ворагамі. У 1945 г. і ў 1955 г. у СССР былі праведзеныя амністыі ў сувязі з перамогай над Нямеччынай. Але, ні ў 1945, ні ў 1955 годзе ваеннапалонныя пад амністыю не патрапілі. І толькі ў верасні 1956 года выйшаў указ аб зняцці асуджанасці з ваеннапалонных. Гэта значыць, толькі праз 11 гадоў пасля канца вайны былі амніставаныя савецкія ваеннапалонныя, якія патрапілі ў палон пры розных акалічнасцях, ды і ці быў склад злачынства ў дзеяннях салдат Заходняга фронту. Ці не апынуліся яны ў палоне па прамой віне вышэйшага кіраўніцтва?

З успамінаў былых ваеннапалонных Г. Варанца з г. Выбарга, С.С. Ракіцянскага з г. Наварасійска, Б. Максіменкі з Караганды, іх у 1945 годзе вызвалілі з канцлагераў савецкія войскі. Яны, прайшоўшы ўсе пякельныя пакуты і катаванні, ізноў улілі-ся ў шэрагі ваяроў Савецкай Арміі. Шараговец **Багданаў Георг Антонавіч**, знаходзячыся ў палоне, двойчы здзяйсняў уцёкі, але няўдала. Пры трэціх уцёках з палону - "патрапіў да амерыканцаў. Пасля вайны праслужыў год у Савецкай Арміі". (*Г.А. Багданаў. ЛГММ. Фонд "213 сп. Багданаў Г.А."*



*Група савецкіх салдат пасля Перамогі 9 траўня 1945 г.1-шы рад, 4-ты злева - С.С.Ракіцянскі, у мінулым вязень канцлагера "Шталак", (захаваў свой асабісты нумар вязня канцлагера - падвойная свінцовая пласцінка замацоўвалася на шыі; у выпадку смерці адна частка пласцінкі адломлівалася і здавалася для справаздачы).*




**Багданаў Георгі Антонавіч**

Некаторым групам 213 сп і байцам з іншых частак, якія далучыліся да палка ўдалося выйсці з акружэння. Такой была група палітрука 5-й роты Герасімава Васіля Мітрафанавіча. Пасля падзелу пад Лідай старэйшым гэтай групы быў прызначаны лейтэнант Грыгор'еў, а камісарам Герасімаў. Група выйшла з акружэння са значнымі стратамі 28 ліпеня

1941 г. ля г. Калінкавічы Гомельскай вобласці. Тут быў размешчаны штаб 3-й арміі. Герасімаў У.М. прайшоў усю вайну ў палітаддзеле 3-й арміі. Група, у якой быў камандзір звяза Чабан Васіль Мітрафанавіч, выйшла з акружэння таксама ў раёне г. Калінкавічы.

**Сцяг 213-га сп**

Сцяг 213-га стралковага палка, па меркаванні Ў. Бардова, захаваўся і знаходзіцца ў адным з музеяў Масквы. Гісторыя сцяга 213 стралковага палка такая. Пасля бою ля в. Меляшы застрэліўшагася камісара Чарных, сцяг палка і партфель з дакументамі 213 сп закапалі тут жа пад самай высокай хвояй на ўзлеску.

Пасля бою, па словах мінамётчыка 213 сп, а затым намесніка камандзіра партызанскага атрада "Іскра" па выведцы партызанскай брыгады ім.Кірава Лідскага партызанскага злучэння П.Я. Сляткова, на гэтым месцы пабываў мясцовы ляснік Кастусь Макаравіч Сарока, убачыў свежае прыкопанае месца, капнуў, і… знайшоў сцяг.

Па ўспамінах ветэранаў, нумар часткі на сцягу адпавядаў нумару палка, які насіў полк маёра Якаўлева Т.Я да Фінскай вайны - "168 стралковы полк". У 1940 годзе напярэдадні Фінскай вайны ў дывізіі адбылася рэарганізацыя: 168-мы быў пераназваны ў 213-ты стралковы полк. Верагодна, 213 сп свайго сцяга не паспеў атрымаць, карыстаўся сцягам свайго папярэдніка - 168-га стралковага палка.

Ляснік К.М. Сарока схаваў знойдзены сцяг у сябе. А калі ў вёсцы з'явіліся партызаны, ён пад распіску перадаў сцяг палка камісару партызанскага атрада "Іскра" брыгады імя Кірава Дзееву А.І. Камандаваннем партызанскага атрада "Іскра" сцяг самалётам адпраўлены ў Маскву. Былы мінамётчык, затым выведнік 213 сп П.Я. Сляткоў, быўшы намеснікам камандзіра партызанскага атрада "Іскра" па выведцы, ведаў пра гэта, і пры сустрэчы ветэранаў 213 сп у 1986 г. распавёў аднапалчанам пра сцяг палка. Сын камандзіра 213 сп У.Т. Якаўлеў знайшоў гэты сцяг у Цэнтральным музеі Ўзброеных Сіл у Маскве. Нажаль, у музеі няма звестак аб гісторыі сцяга і палка.

У 80-х гадах у Гародню на сустрэчу ветэранаў 213-га сп, арганізаваную Сапоцкінскім саўгасам і школай, прыбылі ветэраны палка: Сляткоў, Нагорны, Варанец, Парцяны, Вешчуноў, Дзеркачоў, сын камандзіра палка Якаўлева. Ветэраны наведалі Гуды, Ліпнішкі, Меляшы, і … прыехалі ў в. Сліжы. Сустрэлі лесніка Сароку. (П. Сляткова пазналі старажылы вёскі, успомнілі яго падпольную мянушку "Пецька Граблін"). Ляснік К.М. Сарока пацвердзіў словы П. Сляткова аб перадачы сцяга палка ў партызанскі атрад "Іскра". А дзе распіска, якую камісар п. а. "Іскра" Дзееў даў Сароку? Аказалася, што Сарока пры афармленні пенсіі ў Лідскім райсабесе разам са сваімі дакументамі перадаў распіску ў райсабес. Ён наіўна лічыў, што за захоўванне Чырвонага сцяга палка і яго перадачу ў партызанскі атрад яму павялічаць памер пенсіі. С.П. Хромін - сакратар партыйнай арганізацыі саўгаса "Лідскі", які шмат высілкаў прыклаў да ўвекавечання памяці ваяроў 213-га стралковага палка, наводзіў даведкі ў райсабесе. Але ў дакументах К.Н. Сарокі такой распіскі, нажаль, няма.

Як сведчыць "Лідская газета" ад 26.04.2005 г., гарадзенскі следапыт У. Бардаў накіраваў у Рэспубліканскае кіраванне па ўвекавечанні памяці абаронцаў Айчыны і ахвяр вайны ліст аб пошуках сцяга 213 сп. Пачалася адпаведная пошукавая праца: у адрас Лідскага гарваенкамата прыйшоў ліст. Высветлілася, што жыхар в. Меляшы Кастусь Макаравіч Сарока сапраўды знайшоў і хаваў у гады вайны сцяг палка. Нажаль, гэты мужны чалавек ужо памёр, але яго дачка, Аляксандра Канстаўцінаўна Багдан, у той час падлетак, добра памятае гэта. Памятае, што бацька сапраўды перадаў сцяг партызанам. А вось адкуль бацька дадому прынёс сцяг, дзе знайшоў, ці былі каля сцяга пахаванні вайскоўцаў, яе памяць не захавала.

Байцы адыходзілі па незнаёмых ім дарогах і сцежках, праходзілі праз незнаёмыя ім вёскі. Дзе менавіта паконччыў з сабой камісар, і дзе быў закапаны палкавы сцяг, цяжка сказаць. Паводле большасці ўспамінаў, гэта здарылася ля в.Меляшы.

Вялікая частка мясцовага насельніцтва, асабліва сяляне, нягледзячы на забароны нямецкага камандавання, з рызыкай для жыцця аказвала дапамогу адыходзячым чырвонаармейцам. Многія, вельмі многія ветэраны з вялікай падзякай успамінаюць аб дапамозе мясцовага насельніцтва ў тыя трагічныя дні. Нам ужо вядома, што жыхар в. Гожы папярэдзіў камандаванне палка аб засеўшых за сцяной могілкаў немцах, аб дапамозе мясцовага насельніцтва Б. Максіменку. **Шчукін Пётр Сямёнавіч** (2-гі батальён) атрымаў раненне ў галаву пад Лідай, дайшоў да в. Ліпнішкі. Сям'я Уланоўскіх гэтай вёскі выхадзіла параненага байца, праз 40 дзён пасля ранення - ён ужо пад Смаленскам, затым пераход праз лінію фронту і ён - баец Калінінскага, 3-га Беларускага франтоў.




Большасць успамінаў ветэранаў легла на паперу ў 80-х гадах. У той час пісалі больш аб вычынах і геройчных здзяйсненнях. Але не-не, ды і ўсплываюць неардынарныя выпадкі. Так, **У.І. Панчанкаў** успамінае: "*У апошніх днях чэрвеня дзесьці ў Лідскім раёне, дзе дакладна - не магу ўзгадаць, наша група (камандзір групы мал. лейтэнант, прозвішча яго не памятаю) заняла на дзень адзін з гайкоў даўжынёй,*

*прыкладна метраў 200-250, шырынёй 150-200 м. Выставілі вартавых, абкапаліся. Стомленыя байцы адразу ж заснулі. Заснулі і вартавыя.*

*Я прачнуўся тады, калі немцы былі ўжо каля нас метраў за 50-70. З крыкам, гамам яны збіраліся ісці на нас у атаку. Многія з байцоў былі ў паніцы, беглі да мяне, крычалі: "Давайце здавацца!". Камандзір групы не падае ні адной каманды. Я змушаны быў сам класціся за кулямёт і адбіваць наступ немцаў. Бачачы, што паніку ніяк нельга ліквідаваць, я змушаны быў расстраляць дваіх панікёраў. Толькі пасля гэтага байцы занялі абарону, адбілі наступ фашыстаў. Мы сабралі добрыя трафеі. Хлопцы ў знак падзякі падарылі мне пісталет "Вальтар" і 60 патронаў да яго. Пасля бою пытаю ў іх: "Будзем зараз здавацца?" Усе адказвалі: "Не, вядома. Дзякуй вам, таварыш лейтэнант!" Так я стаў камандзірам гэтай групы, хоць мяне ніхто не прызначаў ім. А прызначаны камандзір групы праляжаў увесь гэты бой на дне акопа, фактычна не ўдзельнічаў у баі". (У.І. Панчанкаў. Там жа.)*

На маршы палка ад в. Гожа да чыг. станцыі Парэчча быў такі выпадак па ўспаміне П.Я. Сляткова. Пасля аднаго з сутыкненняў з немцамі "*...мінамётчык Турчанка падышоў да камандзіра роты Папругі і рашуча сказаў: "Я разагнаў немцаў і захапіў гармату з цягачом". Камандзір роты для ўдакладнення паслаў камандзіра звяза Янкоўскага з групай байцоў. Сапраўды, ва ўказаным месцы да цягача прымацаваная гармата вялікага калібру. Побач з цягачом на зямлі скрыня з інструментамі, на брызентавым кавалку ляжалі гаечныя ключы, адвёртка, малаток. Ясна, што цягач няспраўны, немцы не паспелі выправіць непаладкі. Падчас дакладу Янкоўскім камандзіру роты аб гераічным учынку, праяўленым у баі мінамётчыкам Турчанкам, выпадкова падышоў камісар палка Чарных, зацікавіўся ўчынкам Турчанкі і сказаў: "Злучымся са сваімі, ты будзеш прадстаўлены да ўрадавай узнагароды. У хуткай будучыні твой учынак будзе абвешчаны загадам па палку". Як высвятлілася пазней, Турчанка кінуў поле бою з немцамі і ў паніцы ўцёк. Байцы звяза бачылі, як Турчанка ўцёк, і з гневам накінуліся на яго: чаму ты кінуў поле бою і ўцёк? "Я знаходзіўся на самім краі бою. Бачу, немцы нас аткружаюць. Я зірнуў - нас тут мала, немцаў - шмат. Спалохаўся і ўцёк, усяроўна мы не выстаім, жыць то хочацца. Выбягаю на паляну, бачу, тут таксама немцы мітусяцца. Што мне рабіць? Я крыкнуў "Ура!". Бачыў, як немцы пабеглі. А я - у другі бок. Толькі прабег метраў 10, чую, нашы крычаць гучна-гучна "Ура!". Я развярнуўся і бягу туды, дзе крычаць "Ура!". Потым я ўспомніў пра гармату. Думаю, можа яна і зараз там стаіць. Ну, вырашыў дакласці камандзіру роты. А сам, па сумленні сказаць, баяўся, раптам яна з'ехала. Да шчасця, яна аказалася на месцы, а то мне ўляцела б".*

*А што наш Турчанка? Ён за баязлівасць будзе ўзнагароджаны ордэнам, за тое, што ён кінуў поле бою, уцёк, ратуючы сваю шкуру? Трэба распавесці камандзіру роты пакуль не позна, а то і праўда, за панікёрства і хлусню ордэн атрымае". (П.Я. Сляткоў. Там жа.)*

**Удзел байцоў Заходняга фронту ў партызанскім руху**

Многія байцы не змаглі перайсці лінію фронту, злучыцца з ваярамі Чырвонай Арміі. Некаторыя ўжо запалоненыя байцы і камандзіры здолелі ўцячы з этапаў у канцлагеры. Яны засталіся ў тыле ў немцаў і працягвалі барацьбу партызанскімі метадамі. Уклад "акружэнцаў" і ваеннапалонных у арганізацыю партызанскіх атрадаў велізарны. Менавіта яны на Лідчыне сталі асновай партызанскіх атрадаў, перадавалі партызанам свае вайсковыя веды і досвед, навучалі іх карыстанню зброяй, выбуховымі рэчывамі, распрацоўвалі і ажыццяўлялі партызанскія аперацыі, падтрымлівалі неабходную дысцыпліну і арганізаванасць у партызанскіх групах і атрадах.

Няма дакладных звестак, колькіх ваяроў 56-й сд сталі партызанамі.

Толькі на Лідчыне з 213-га сп у партызанскім атрадзе "Іскра" праявіў сябе выдатным падрыўнікам, быў душой атрада адважны партызан Пётр Якаўлевіч Сляткоў. (Пасля вызвалення Ліды ў ліпені 1944 г. Сляткоў П.Я. быў вайсковым камендантам г. Ліды. У фільме па рамане Ў. Богомолова "У жніўні сарок чацвёртага" ёсць сцэна прылёту маскоўскага начальства на вайсковы аэрадром Ліды. Дык вось прымаў высокае начальства як камендант г. Ліды менавіта П.Я. Сляткоў).

Камандзір звяза 2-га батальёна **Віктар Ільіч Панчанкаў** стаў камандзірам партызанскага атрада "Кастрычніцкі" брыгады імя Кірава. Ён успамінае: *"Пад выглядам зняволенага - асуджанага за хуліганства тэрмінам на 2 гады я, як і многія нашы таварышы, застаўся жыць, а дакладней будзе, хавацца ў сялян вёсак Чырвонае Карэліцкага раёна, Ятра, Косічы, Багудзенка Наваградскага раёна. Жывучы ў сялян, мы ні на хвіліну не забывалі аб дадзенай клятве народу, што нам неабходна змагацца з фашыстамі, але як, пытанне яшчэ намі не вырашалася. Мы часта сустракаліся з таварышамі па зброі, пазасталымі ў тыле ворага, рыхтаваліся ісці ў партызанскія атрады. Але ўлетку і ўзімку 1941 г. на дадзенай тэрыторыі партызанскіх атрадаў або хоць бы груп, мы не сустракалі, не чулі аб іх і змушаныя былі думаць, што рабіць. (ЛГММ, фонд "Панчанкаў У.І.).*

Павел Рудько, які знаходзіўся ў Лідскім канцлагеры і працаваў у дэпо ст. Ліда, уцёк з іншымі ваеннапалоннымі ў партызанскі атрад "Іскра".

Ст. л-т Вешчуноў Павел Сцяпанавіч - партызанскі атрад ім.Суворава Віцебскай вобласці.

Верагодна, гэты спіс можна працягнуць. Некаторыя ветэраны, патрапіўшы ў партызанскія атрады, хавалі сваё знаходжанне ў палоне, і пасля перамогі

хавалі, не хацелася быць “ворагам” сваёй краіны. І ў нас няма права іх папракнуць за гэта.

**Абеліск каля в. Гуды**

У траўні 1966 года ля шашы Ліда-Воранава, недалёка ад месца бою каля в. Гуды пад жалобную музыку духавога аркестра з вянкамі і кветкамі пры вялікім зборы народу перапахаваны парэшткі 56 савецкіх ваяроў. У 1967 годзе да Дня Перамогі на месцы перапахавання парэштkaў усталяваны абеліск у гонар ваяроў 213-га стралковага палка 56-й стралковай дывізіі, выраблены ў Лідскім райбыткамбінаце па эскізе аддзела архітэктуры і будаўніцтвы Лідскага райвыканкаму.



***Адкрыццё помніка воінам 213 сп ля д.Гуды, 4 траўня 1966 г.***



***Апошні салют палеглым байцам 213 сп ля в. Гуды, 4 траўня 1966 г.***



***Помнік ля в. Гуды, 1967 г.***

Прыйшоў час нам, нашчадкам, пакланіцца нізка ў пояс сакратару партыйнай арганізацыі калгаса “Радзіма” (пасля саўгас “Лідскі”) Хроміну Сямёну Паўлавічу. Менавіта па яго ініцыятыве і пры яго непасрэдным і актыўным удзеле насуперак пярэчанням інструктараў Лідскага райкама КПСС пачаты раскопкі чатырох брацкіх магілаў загінулых 3 ліпеня 1941 г. каля в. Гуды і іх перапахаванне. Менавіта па ініцыятыве Хроміна С.П. увекавечаны вычын чырвонаармейцаў 213 стралковага палка 56-й стралковай дывізіі, загінулых у няроўным баі з нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў першыя, і самыя цяжкія дні Вялікай Айчыннай.



***Раскопка брацкай магілы ля в. Гуды, 4 траўня 1966 г.***

Месцазнаходжанне магіллаў было вызначана хутка і дакладна, бо да гэтай працы былі прыцягнутыя людзі, якія ўдзельнічалі ў пахаваннях ваяроў. Паводле акту Лідскага аб’яднанага гарадскога вайсковага камісарыяту ад 20 чэрвеня 1966 года раскопкі праводзіліся ў чатырох месцах.

Метраў за 200 на поўнач ад будынка кіравання калгасу “Радзіма” выяўлены ў трох магілах парэшткі 19 ваяроў.

У наступнай магіле (0.5 м ад падмурка паўднёва-ўсходняга вугла будынка кіравання калгасу “Радзіма”) выяўленыя парэшткі 10 ваяроў. Па ўкладаннях у медальёны ўстаноўленыя наступныя адрасы і дадзеныя:

1. *“213 сп, нараджэння 1920 г., Рагачоў Д.М. Казахская ССР, г.Ленінагорск (Рыдар), 1-шы раён, вул. Бальнічная ,4 кв. 1, Сушкову М.Ф”.* На абароце ўкладання ў капсулу надпіс: *“Поўнача-Казахстанская вобласць г. Акмолінск”.*

2. *“Ваенфельчар Сазонаў Серафім Рыгоравіч 213 стр. полк 56 сд. Адрас жонкі: г. Пскоў Ленвобласці, Ротная, 3 , кв.4”.*

3. *“Адрас: Каз.ССРА, Паўн. Каз. вобл., г. Петрапаўлаўск, вул.Рэвалюцыйны касагор, № 35, Абрамавай Ганне Дзмітрыеўне”.* Адрас напісаны фіялетавымі чарніламі, дадаткова простым алоўкам дапісана: “22/У1-4.00-41”.

4. *“Чырвонаармеец Пракопчанка* (імя смутна, падобна - *Даніл) Сцяпанавіч 1921 года нараджэння. Бацька Пракопчанка Сцяпан Апанасавіч, Паўн.*

*Казахстанская вобласць Казахскай ССР, Біларскі раён"*, найменне вёскі не захавалася , відаць толькі *"р. Глазн"*.

У гэтай жа магіле выяўленыя гадзіннік 1-га Маскоўскага гадзіннікавага завода імя Кірава, паказанні стрэлак на ім замерлі на 7 гадзінах 15 хвілінах. Гадзіннік добра захаваўся, меў малаважную карозію.

У магіле каля збожжасховішча выяўлены парэшткі шасці ваяроў, па ўкладаннях у медальёны ўстаноўлены адрас: *"Татарская АССР, Бандюжскі хімічны завод, вул Гасар, дом 20, кв. 2, Рэутаў"*.

Метраў за 200 на поўдзень ад кіравання калгасу "Радзіма" ля пясчанага кар'ера раскапаныя дзве магілы, у якіх выяўленыя парэшткі 21-га ваяра. Па ўкладаннях у медальёны ўстаноўленыя адрасы двух байцоў:

1. *"Калмыцкая АССР, Сарпінскі раён, Канукоўскі с/с, хутар Сал-Аброчны, атрымаць Нідзіеву Цімафею Фядотавічу"*.

2. *"Маскоўская вобласць, Камуністычны раён, с. Рагачова, вул. Маскоўская №4 (або 7 або 9). Калядзенка Мікалай"*.

Мэта раскопак заключалася не проста ў перапахаванні парэшткаў загінулых савецкіх ваяроў у пачатковы перыяд вайны, хацелася прымусіць магілы "загаварыць". Раскопкі вяліся вельмі дбайна, у зямлі не павінен застацца ні адзін гузік, ні адзін гаплік ад шыняля. І вось першы поспех, знайшлося тое, што так старанна шукалі - эбанітавая капсула, у якой вайскоўцы захоўвалі адрасы сваіх сваякоў. Потым … другая, трэцяя…

Такім чынам, выяўлена 18 капсул. А вакол патроны, патроны. Імі набітыя кішэні штаноў, нагрудныя кішэні гімнасцёрак, розныя кайстры, пасавыя падсумкі. Адзін вінтовачны патрон захоўваўся ў кашальку з дакументамі. Ён, яўна, прызначаўся для сябе ў выпадку крытычнага моманту, каб не здацца жывым. Але яго ўладальніку не прыйшлося ім скарыстацца… Акрамя гэтага выяўленыя значок "ГТО", тры вінтоўкі без прыкладаў, каскі, пяхотная лапатка, нажніцы, муштукі, абцугі, шмат савецкіх манет вартасці 1, 2, 3, 5, 10, 20 капеек, сталовыя лыжкі, небяспечныя брытвы, складныя нажы. У спарахнелых кашальках і партманэ супрацоўнікам Лідскага краязнаўчага музея ў выніку дбайнага разбору ўдалося ўстанавіць яшчэ два імені. Адным з дакументаў аказалася квітанцыя, выдадзеная на імя **Іванова Пятра Іванавіча** 1918 г.н. у тым, што яго пашпарт, як прызыўніка, абменены на ваенны білет. Другім дакументам аказалася пасведчанне (прозвішча прачытаць не ўдалося) **Паўла Яўхімавіча** ў тым, што ён у 1940 годзе скончыў курсы малодшага медыцынскага складу пры Ленінградскай медыцынскай вучэльні. Разам з гэтым пасведчаннем ляжаў фотаздымак з зніклым малюнкам, але з надпісам, які захаваўся на абароце: *"На добрую памяць Паўлушу ад знаёмай Жэні"*. Знойдзеныя ў пахаваннях рэліквіі знаходзяцца на захоўванні ў ДУ "Лідскі гістарычна-

***Бланк запіскі, якая ўкладваецца байцамі ў пластмасавую капсулу напярэдадні Вялікай Айчыннай вайны.***



мастацкі музей”.

З 18 знойдзеных капсул 2 аказаліся пустымі, без укладанняў, у 9-ці капсулах былі цыдулкі, але прачытаць іх немагчыма, час (25 гадоў) і наш вільготны клімат зрабілі сваё, 7 - імянныя, з указаннем адрасоў сваякоў загінулых вaяроў. Менавіта дзякуючы гэтым цыдулкам праз вайсковыя камісарыяты зроблена спроба ўсталявання сувязі са сваякамі загінулых. Адгукнуліся сваякі С. Сазонова і А. Рэутава. Прозвішчы сямі байцоў, сем’і якіх атрымалі паведамленні, што іх родны або блізкі чалавек знік без весткі, вядомыя. Але 49 герояў, якія выканалі свой абавязак перад Айчынай, засталіся невядомымі, знайшлі вечны супакой пад Лідай.

З сямі герояў дакладна вядома, што двое - з 213 стралковага палка. Гэта ваенфельчар Серафім Рыгоравіч Сазонаў і Д.М. Рагачоў. Па паступіўшых пасля дадзеных Т.Ф. Нідзіеў і А.П. Рэутаў некаторы час праходзілі вайсковую службу ў мястэчку Іўі. Яны таксама маглі быць з 213 сп. Астатнія байцы маглі быць з 213-га сп, а маглі быць і з іншых частак, якія далучыліся і адыходзілі з 213-м сп .



*Аляксей Пятровіч Рэутаў - чырвонаармеец 213 сп*



*Серафім Рыгоравіч Сазонаў - ваенфельчар 213сп*

Ваенфельчар Сазонаў Серафім Рыгоравіч нарадзіўся ў 1907 г. у с. Атміс Ніжнеломаўскага раёна Куйбышаўскай (цяпер Пензенскай) вобласці. У Чырвонай Арміі з лістапада 1929 года. З 1929 па 1931 гг. служыў чырвонаармейцам у 26-м артылерыйскім палку асобага Чырванасцяжнай Далёкаўсходняй Арміі. З 1931 па 1934 гг. вучыўся ў Ленінградскай ваенна-ветэрынарнай фельчарскай школе Ленінградскай вайсковай акругі. За тры месяцы да вайны ажаніўся. Па словах жонкі, Ганны Робертаўны, у чэрвені 1941 г. Сазонаў С.Г. быў накіраваны для праходжання вайсковай службы ў 56-ю сд Заходняй асобай акругі. 21 чэрвеня прыбыў у Гародню, атрымаў накіраванне ў 213 сп, і тут жа з Гародні адправіў жонцы тэлеграму: “Прыязджай”. У гадзіну ночы 22 чэрвеня, адчуваючы



ИЗВЕЩЕНИЕ

абвостранасць у атмасферы, адправіў жонцы наступную тэлеграму: “Не прыязджай. Чакай распараджэнні”. А ў 4 гадзіны пачалася вайна.

У газеце “Известия” ад 21 жніўня 1966 г. у рубрыцы “Вышук працягваецца” быў апублікаваны артыкул настаўніцы Першамайскай СШ Ядзвігі Бусе аб выяўленні і перапахаванні парэштак байцоў, загінулых у 1941 годзе. Перапахаванне і ўстанаўленне асобаў 7-мі байцоў ускалыхнула ўвесь Савецкі Саюз. У адрас С.П. Хроміна пачалі прыходзіць лісты з розных гарадоў СССР: ад аднапалчан 213 сп, пазасталых у жывых пасля вайны, іх родных і блізкіх. Сотні лістоў прыйшло са слёзнымі просьбамі паведаміць магчымыя звесткі на без вестак зніклых вaяроў, якія служылі ў 1941 годзе ў рэгіёне Гародня-Ліда. Неўзабаве да месца перапахавання пачалі прыязджаць жонкі і родныя загінулых. У 1970 годзе адбылася першая сустрэча ветэранаў 213-га стралковага палка каля брацкай магілы і абеліска ля в. Гуды. Нажаль, сустрэчы



*Група ветэранаў 213 сп каля помніка ля в. Гуды, травень 1986 г. (першы злева радавы роты сувязі Дзяркачоў У.Я.- у баях не ўдзельнічаў, т.ш. напярэдадні вайны пасланы на вучобу ў Гомельскую вайсковую навучальню, пасля вайны жыў у Гародні, актыўны ўдзельнік усіх сустрэч ветэранаў 213 сп; 2-гі злева - мастак-афармляльнік клуба і паштар 213 сп Варанец Г.А., пасля вайны жыў у Выбарзе; трэці злева - сын камандзіра 213 сп Якаўлеў У.Т. з Калугі;. 4-ты - Ракіцянскі С.С., жыў у Наварасійску; 5-ты - Парцяны Ф.К., жыў у Гародні; 6-ты - памежнік Мікалаеў з Ленінграда; 7-я - Каця Яворская; 8-мы - Нагорны Н.С.;10-ты - Шэлых Я.П. - старшына кулямётнай роты лейтэнанта Сямёнава).*



*Група ветэранаў 213-га сп, родныя загінулых 213-га сп, 25 траўня 1988 г. (2-гі злева Ў.А. Караткевіч, 3-ці Вешчуноў П.С.; 4-ты - Грачоў, баец 9-га кулямётнага батальёна, 5-ты - Б. М. Максименко; 6-я - сястра шарагоўца Рэутава А. П Баркунова Т.П. з Пярмі, 7-мы - былы дырэктар Сапоцкінскай сярэдняй школы).*

ветэранаў спыніліся ў гады "перабудовы": ветэраны пастарэлі, знясілелі, многія адышлі ў лепшы свет, а неўзабаве знікла з палітычнай карты свету і краіна СССР.

Каля сярэдняй школы пас. Сапоцкін Гарадзенскага раёна ў гонар чырвонаармейцаў 213 сп, якія мужна змагаліся ў першыя дні вайны, пастаўлены гранітны помнік.

Не ўсе байцы, загінулыя той трагічнай раніцай 3 ліпеня 1941 года, перапахаваныя. Пасля перапахавання асноўнай масы байцоў каля в. Гуды мясцовае насельніцтва больш актыўна пачало дзяліцца ўспамінамі. Стала вядома, што частка загінулых савецкіх байцоў



*Каля гранітнага помніка чырвонаармейцам 213-га сп. Сярэдняя школа пас.Сапоцкін Гарадзенскага раёна, 24 траўня 1988 г.(3-ці злева Сучкоў Н.С, 4-ты - Караткевіч У.А., 5-я- Баркунова Т.П., 6-я Ярмошына (Сапоцкінская СШ),7-мы - дырэктар Сапоцкінскай сярэдняй школы)*

была скінутая ў студню, якая знаходзілася ў ляску ў гліняным кар'еры на полі каля в. Бялевічы, ёсць пахаванні каля возера ў старым двары Жырмуны.

Дзякуючы велізарнай працы гарадзенскага следапыта Васіля Бардова, які 25 гадоў свайго жыцця прысвяціў пошукам ветэранаў 213 стралковага палка, мы ведаем аб перадваенным жыцці, баявой падрыхтоўцы, першых жорсткіх баях 213 сп, аб тым, як склаліся далейшыя лёсы легендарных байцоў 213 сп. Найважнейшымі і цікавымі для яго людзьмі былі сведкі далёкіх і трагічных падзей чэрвеня 1941. З сярэдзіны 80-х пачаў ён адшукваць удзельнікаў першых бітваў, запісваць і супастаўляць іх аповяды. Дзякуючы яго пошуку ў чвэрць стагоддзя і з'явіўся гэты матэрыял. Дадзенае даследаванне - пакуль толькі тонкая сцяжынка, па якой, трэба ісці далей, адшукваць новыя матэрыялы і невядомыя факты гісторыі 56-й стралковай дывізіі.

**Страты 56-й сд**

Колькі чалавек з 56-й сд патрапіла ў палон, колькі загінула ў першых баях - невядома. Ёсць прыкладная лічба трапіўшых у палон са складу Заходняга фронту ў першыя два тыдні вайны - больш за 300 тысяч чалавек, г.зн. палова асабоваага складу Заходняга фронту. Нягледзячы на масавую гераічнасць, у першыя дні вайны перамога была на баку праціўніка. Тысячы салдат Заходняга фронту загінулі, дзесяткі тысяч патрапілі ў нямецкі палон. *"Абаронная аперацыя ў Беларусі з'яўляецца самай кровапралітнай за ўсю Вялікую Айчынную вайну ў сярэднесутачным вылічэнні людскіх страт. За перыяд з 22 чэрвеня па 9 ліпеня 1941 сярэднесутачныя страты склалі 23210 чалавек"*, больш, чым дзве паўнакроўныя дывізіі па штатах мірнага часу. *(Памяці загінулых. Вялікая Айчынная вайна. 1941-1945. М., 1995, стар .94).*

Усяго па 56 сд па не вельмі дакладных падліках вайну перажылі ледзь больш, чым 100 чалавек. Па палках: з двух артылерыйскіх палкоў вайну перажылі 16 чалавек, у 37-м і 184-м засталося ў жывых па 11 чалавек, у кіраванні дывізіі - нямногім больш за 10 чалавек. Па словах Г. Варанца, з 213 сп удалося адшукаць у жывых 56 чалавек.

Вядомыя прозвішчы 48-мі (з 56-ці чырвонаармейцаў і афіцэраў 213 сп па Г. Варанцу), пазасталых у жывых.

1. Багданаў Георг Антонавіч
2. Вешчуноў Павел Сцяфанавіч
3. Варанец Генадзь Антонавіч
4. Герасімаў Васіль Мітрафанавіч
5. Герасімаў Уладзімір Фёдаравіч
6. Дзяркачоў Уладзімір Ягоравіч
7. Захараў Іван Іванавіч
8. Захараў Іван Мікалаевіч
9. Ігнаццеў Іван Ігнацьевіч
10. Кавалёў Хведар Васільевіч ,
11. Кузьмін Васіль Пятровіч
12. Кургавін Пётр Васільевіч
13. Максіменка Барыс Мацвеевіч
14. Мартынаў Пётр Апанасавіч
15. Мікалаеў Васіль Мікалаевіч
16. Мікалаеў Пётр Фёдаравіч
17. Міхееў Васіль Елізаравіч
18. Нагорны Мікалай Сцяпанавіч
19. Наканечнікаў Аляксандр Андрэевіч
20. Наторкін Мікалай Ільіч
21. Палякоў
22. Паноў У.К.

23. Панчанкаў Віталь Ільіч
24. Понуркевіч С.С.
25. Папоў Іван Мікалаевіч
26. Парцяны Хведар Кандрацьевіч
27. Прохараў Зміцер Прахоравіч
28. Ракіцянскі Сяргей Сцяпанавіч
29. Рудзько Павел
30. Сляткоў Пётр Якаўлевіч
31. Сучкоў Мікалай Сідаравіч
32. Сцяпанаў Васіль Сяргеевіч
33. Сцяпанаў Мікалай Яўхімавіч
34. Сцяпанаў П.У. (з Магнітагорска)
35. Сяргееў Сцяпан Сяргеевіч
36. Тамашэўскі Хведар Дзмітрыевіч
37. Фёдараў Аляксей Кузьміч
38. Філіпаў Хведар Рыгоравіч
39. Цітоў
40. Чабан Васіль Пятровіч
41. Чудзінаў Хведар Трафімавіч
42. Чудоўскі Уладзімір Іванавіч
43. Шчукін Пётр Сямёнавіч
44. Шэлых Якаў Пятровіч
45. Яворская Кацярына Міхайлаўна
46. Ягораў Мікалай Мацвеевіч
47. Ягораў Пётр Іванавіч
48. Якаўлеў Цімафей Якаўлевіч

Як растлумачыць, што ў 213 сп у жывых засталося больш за ўсё - 56 чалавек? Перадавыя нямецкія часткі на нашай зямлі скарыстоўвалі тактычны прыём: сустрэўшы ўпарты супраціў, яны абыходзілі гэты агмень з флангаў, пакідаючы яго для задушэння сваім другім эшалонам, а самі імкліва працягвалі наступаць. Так здарылася і з 213-м сп: перадавыя нямецкія часткі пакінулі яго для задушэння сваім другім эшалонам. Да шчасця, камандаванне 213-га сп паспела адвесці свае войскі на ўсход у ноч на 24 чэрвеня. Не здарся катастрофы пад Гудамі і Ліпнішкамі, магчыма, многія з загінулых паспелі б стаць героямі.

Для параўнання, у 85-й сд (Гародня), у жывых ўдалося адшукаць толькі 29 ветэранаў. Нямногія выжылі з 27-й сд (Аўгустова), прыкрываўшай адступленне войскаў 3-й арміі. Гэтую задачу 27-я дывізія выканала, але … коштам жыцця практычна ўсяго асабовага складу.

Хацелася б лік жывых памножыць, але, нажаль, маўчаць ветэраны… Па цалкам зразумелых прычынах, некаторыя ветэраны не жадаюць даваць знаць пра сябе, асабліва тыя, хто прайшоў праз катаванні савецкіх пасляваенных лагераў. Вось і палітрук 213 сп Цітоў, які жыў у Марыупалі, верагодна, так напакутаваўся ў лагерах, што ў паведамленнях аб атрыманні заказных лістоў ад ветэранаў палка ставіў подпіс “Цітоў”, але пра сябе распавесці, варушыць мінуўшчыну не жадаў, або не мог. Вельмі цяжка! Таму і маўчаў.

А колькі іх, безназоўных, незаслужана забытых байцоў ляжыць у лідскай зямлі? У першыя дні вайны пад ударамі нямецкіх паветраных і наземных сіл нашы байцы змушаныя былі адступаць. І вельмі часта пахаваць загінулых не было ні сіл, ні рэальных магчымасцяў. Лідскі паэт Смарагд Сліўко так пісаў аб безназоўных героях:

“Героям - кветкі і песні, іх імёны - святыні!
Але больш за ўсё невядомых герояў,
якія жывуць без імені”.

*(Смарагд Сліўко. Бывай двадцатый век”. Ліда, 2001, ст. 60).*

Аб рэштках салдат 1941 года прынята было не ўспамінаць, іншая справа - у 1944 годзе, там сітуацыя была іншай. Але і гэтае пытанне ссунулася з мёртвай кропкі. У 1994 г. пры Міністэрстве абароны Рэспублікі Беларусь адкрыта кіраванне па ўвекавечанні памяці абаронцаў Айчыны і ахвяр вайны. Так, у Менску, Віцебску і Гародні створаныя спецыялізаваныя пошукавыя роты. Іх задача - пошук месцаў пахавання ваяроў, па магчымасці - устанаўленне асобы загінулага, перапахаванне пар эшткаў. Справа вельмі важная, падтрыманая мясцовымі органамі ўлады і грамадскасцю.

Мужна, як героі, паводзілі сябе байцы 56 сд. Але аб іх барацьбе мала што дакладна вядома: частка дакументаў назаўжды была згубленая падчас баёў, частка знаходзіцца за мяжой, у архівах Расійскай Федэрацыі. Таму ўспаміны ветэранаў вайны - дакументы асаблівай важнасці і каштоўнасці. Менавіта яны дазваляюць убачыць і адчуць трагічныя падзеі больш чым паўвекавой даўніны. Вядома, не ўсе ўспаміны трэба прымаць за чыстую манету, іх трэба вывяраць і параўноўваць з іншымі дакументамі і матэрыяламі.

Не-не, ды і праслізне ва ўспамінах, што не ўсе ваяры былі героямі. Былі і “дэмаралізаваныя, і панікёры, былі і здраднікі, былі і такія, хто добраахвотна здаваўся ў палон. Былі выпадкі, калі акружэнцы займаліся рабаваннямі і паборамі сярод мясцовага насельніцтва. І аб такіх фактах сведчыць мясцовае насельніцтва, і такія выпадкі захаваліся ў памяці аб вайне. Усяго хапала ў ваеннай гісторыі. Але над усім гэтым узвышаецца светлая постаць пакутніка-байца, які вынес на сваіх плячах драматызм першых дзён вайны, гаркату адступлення, гібель баявых таварышаў, але не згубіў веру ў ПЕРАМОГУ.

Лозунг “Усюды першая і ўсюды з перамогай!” з гонарам несла 56-я Маскоўская Чырванасцяжная стралковая дывізія 21 год. І толькі на тэрыторыі Гарадзеншчыны ў пачатковы перыяд Вялікай Айчыннай “першая і непераможная” спыніла сваё існаванне. 19 верасня 1941 г. 56-я стралковая дывізія была расфармаваная. А праз чатыры дні, 23 верасня 1941 г., на Ленінградскім фронце адрадзілася 56-я стралковая дывізія новага фармавання. У яе склад увайшлі астаткі дывізіі першага фармавання і захаваліся нумары палкоў і асобных батальёнаў першага фармавання. 56-я сд новага фармавання працягвала традыцыі 56-й сд, створанай у Маскве ў 1919 г. За баявыя дзеянні ў складзе Ленінградскага фронту 56-я сд атрымала найменне Ленінградска-Пушкінскай і была ўзнагароджаная ордэнам Чырвонага Сцяга.

# Бачароў Віктар Мітрафанавіч

## *60 год з дня нараджэння*



***Бачароў Віктар Мітрафанавіч*** *(8.02.1950 - 3.10.2004, Менск). Нарадзіўся ў Краснаярску, выпускнік Гарадзенскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута (1975), грузчык, арматуршчык, бетоншчык, запраўшчык, заг. склада, метадыст Дома піянераў, нам дырэктара - арганізатар пазакласнай і пазашкольнай працы, дырэктар СШ № 13 (з 1986). У Лідзе з 1975 г., жыў па вул. Машэрава, 13-14. Паэт і празаік, аўтар кніг "Разговор" (1996), "Пора брать" (1998), "Калі адзвінеў званок" (1998), "Дембель неизбежен" (1999), "Стихи из прошлого века" (Туапсэ, 2001). Пасмяротныя зборнікі: "Золотая тёлка или по следам золотого телёнка" (2006), "Птица из Персидского залива" (Ліда, 2010).*

### Шчырага сэрца парывы

Бачароў Віктар Мітрафанавіч нарадзіўся 8 лютага 1950 года ў горадзе Краснаярску (Расійская Федэрацыя) у сям'і вайскоўца. З 1959 года жыў у Беларусі, а з 1975 г. па верасень 2002 года жыў і працаваў у нашым горадзе. Атрымліваючы адукацыю, скончыў сярэднюю школу №1 г. Гародні і філалагічны факультэт Гарадзенскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута імя Я. Купалы. 27 гадоў працаваў ва ўстановах адукацыі горада Ліды. З іх 16 гадоў – дырэктарам СШ № 13. Неаднаразова быў абраны дэпутатам гарадскога Савета дэпутатаў.

У 1960 годзе надрукаваў першы верш у рэспубліканскай дзіцячай газеце "Зорька". А з 1964 года пастаянна друкуецца ў "Гродзенскай праўдзе" і іншых рэспубліканскіх газетах і часопісах. Супрацоўнічаў з літкансультантам абласной газеты Васілём Быкавым, ужо у той час слынным пісьменнікам. Так-ама меў пастаянныя сустрэчы з празаікам Аляксеем Карпюком, паэтэсамі Данутай Бічэль-Загнетавай, Вольгай Іпатавай і іншымі.

Свой першы зборнік, які пабачыў свет у 1996 годзе, Віктар Бачароў назваў "Разговор". У гэтай назве хаваецца высокі сэнс. Паэт імкнецца да жывой сувязі з людзьмі і распачынае душэўную размову не толькі з імі, сябрамі, але і з сабою аб пачуццях да Радзімы, аб сэнсе сённяшняга дня, аб ваенным ліхалецці і, зразумела, аб каханні. "Усё гэта ўжо было ў паэзіі", - змрочна скажа хтосьці.

"Вядома, як Сусвет", - саркастычна дабавіць іншы. Так, вядома, як вечна юнае сонца, як зялёнае полымя траў, што успыхвае кожнай вясной, як шчабятанне птушак і таямнічая глыбіня вадзяных струменяў. А талент, як сказаў паэт, ёсць тая адзіная навіна, якая ніколі не старэе. І таму знаёмы свет у вершах В. Бачарова адкрываецца новымі гранямі, расцвітае іншымі колерамі, паўстае ў новым святле з новымі жыццёвымі пытаннямі і новымі пачуццямі. Захапляюць сваёй шчырасцю і пранікнёнасцю многія вершы чатырох раздзелаў гэтай кнігі.

*А я занёс бы*
*Ў кнігу Гінеса*
*Травы расток...*
*Той, што вясна*
*На крылах вынесла*
*Праз пыл дарог.*

А затым выдаюцца кнігі: "Пора брать!" (1998 г.), "Калі адзвінеў званок" (1998 г.) у перакладзе на беларускую мову, п'еса "Куда идёт наш Титаник?" (1999 г.), "Дембель неизбежен" (2000 г.), "Стихи из прошлого века" (2001 г.).

Гэтыя творы розныя па жанрах, і ўсе яны знаходзяць сваіх чытачоў: ці гэта вершы, гумарыстычная проза, афарызмы, шаржы ці гэта аповесці для дзяцей.

*"Яшчэ добра і тое, што ў творчасці Віктара Бачарова адчуваецца шырокая, адкрытая натура аўтара, якая здольна кахаць і сябраваць, любіць жыццё і радавацца жыццю, і часам засмучацца. Ці не па гэтай прычыне многія вершы ён прысвяціў жанчынам, мясцовым паэтам-сябрам, аднадумцам, роднай прыродзе, гораду Лідзе"*, - пісаў у свой час пра яго на старонках "Лідскай газеты" вядомы паэт – зямляк Уладзімір Васько.

З верасня 2002 г. Віктар Бачароў жыў і працаваў у г. Менску. Некаторы час займаў пасаду загадчыка аддзела выхаваўчай работы Беларускага дзяржаўнага тэхналагічнага універсітэта. У газетах і часопісах друкаваў свае творы, супрацоўнічаў з тэатрамі як аўтар п'ес, рыхтаваў да выдання новыя кнігі...

Трэцяга кастрычніка 2004 года на 55-ым годзе жыцця Віктар Бачароў раптоўна памёр. Ён умеў кахаць і любіць. Шмат хвалюючых радкоў пра каханне напісана Віктарам Бачаровым. Яны захапляюць сваёй пяшчотай і душэўнай цеплынёй.



***Віктар Бачароў з настаўнікамі і вучнямі 11 класа СШ №13 г. Ліды, 1998 г. Віктар Бачароў працаваў тут дырэктарам з 1986 па 2002 г.***



***Данута Бічэль, Уладзімір Васько, Віктар Бачароў, Леапольд Пырскі, 2001 г.***

У Віктара Бачарова было вельмі многа сяброў. І я ганаруся, што ў мяне звязвала цеснае сяброўства і творчае супрацоўніцтва з ім яшчэ са студэнцкіх гадоў. Я запомніў яго чулым і шчырым, вясёлым і добразычлівым...

***Міхась Мельнік,***
*кіраўнік літаратурнага аб'яднання "Суквецце" пры рэдакцыі "Лідскай газеты".*

## Незабыўны чалавек

Памяць пра Віктара Мітрафанавіча Бачарова ў мяне засталася ў добрых успамінах. Памятаю першае сваё знаёмства з ім.

Пасля заканчэння Крупаўскай СШ я накіраваўся на вучобу ў мясцовае ПТВ – 196. На працягу вучобы я дазнаўся, што непадалёку ад вучэльні, знаходзіцца сярэдняя школа № 13, дырэктарам якой з'яўляецца Віктар Бачароў. Вось тут я, набраўшыся смеласці, і задумаў з ім пазнаёміцца. Пасля заняткаў я крочыў у СШ № 13. Пераступіўшы парог школы, я запытаў у гардэробшчыцы:

- Дырэктар у сябе?

- У сябе, - адказала тая.

Адчыніўшы дзверы кабінета дырэктара, я ўбачыў мажнога чалавека, які размаўляў па тэлефоне. Угледзеўшы мяне, ён паклаў трубку і грозна сустрэў:

- Ты чаму без стуку? Цябе што не вучылі?... Чаго табе трэба?

Напэўна, ён думаў, што я – вучань гэтай школы і як дырэктар вырашыў узмацніць на мяне голас. Самога Бачарова я бачыў раней калі вучыўся ў школе – у Крупаве. Тады ён прыязджаў туды з Міхасём Мельнікам, і яны чаталі ў зале свае творы. Тады я на іх глядзеў як на боскіх асоб.

- Прабачце, калі ласка, - сказаў я спужаным голасам ледзь не глытаючы свае словы ад спалоху, - я не ведаў гэтага. Я пішу вершы і мне сказалі, што вы мясцовы лідскі паэт. Хацеў бы з вамі пазнаёміцца...



***На сустрэчы з выкладчыкамі і навучэнцамі Лідскага СПТВ-55, 1980 г. Злева направа: Смарагд Сліўко,Віктар Бачароў, Міхась Мельнік.***



***Літгасцёўня Леапольда Пырскага, 2001 г. У першым радзе данута Бічэль, Леанід Віннік, Леапольд Пырскі, Віктар Бачароў***

Казаў я яшчэ нешта. Але на вачах Віктара Мітрафанавіча ўжо з'явілася нейкая дабрыня, і ён адказаў мне:

- Вельмі добра! Прыносьце свае вершы, я іх пагляджу і дам свой аналіз.

Пасля гэтага я перапісаў свае вершы ў чысты сшытак і аднёс Бачарову. На гэты раз перад тым, як увайсці, я стукаў у дзверы, пакуль той не дазволіць голасным: "Да, да!". Сядзелі мы з ім доўга, разбіралі мае творы беларускамоўнага і рускамоўнага характару. Пазначаў ён мае памылкі. А потым ён у мяне спытаў:

- Саша, ты хто па нацыянальнасці?

- Паляк! – адказаў я.

- Не, ты беларус. Ты родам з Беларусі. I ты павінен пісаць на беларускай мове. Я – сам родам з Расіі, то і пішу на рускай, а на беларускай у мяне не атрымліваецца.

I з тых часоў я пачаў прытрымлівацца гэтага загаду. З цягам часу ў мяне сталі з'яўляцца неспадзяваныя творы, і я заўважыў, як у мяне пачало лепш атрымлівацца з паэзіяй, з правіламі рыфмоўкі і рытму. Пасля мой "настаўнік" даў асабіста мне чысты сшытак, каб я перапісаў апрацаваныя вершы. У хуткім часе ён сказаў, што ў мяне ўсё атрымаецца з творчасцю.

Дазнаўшыся, што ў майго "настаўніка" ў хуткім часе прыбліжаецца юбілей (50 год), я вырашыў зрабіць яму падарунак. Купіў дэзадарант і паштоўку. Ён вельмі быў удзячны мне за падарунак. Ведаючы, што я чалавек безграшовы, студэнт, працягнуў запрашальны білет у ГДК на яго 50-годдзе – літаратурны вечар "Пока пишу – живу". паведаміў мне што на вечар прыедуць Юрка Голуб, Данута Бічэль і іншыя вядомыя літара-тары. Білет застаўся да гэтых часоў у мяне..

На гэтай вечарыне мне і пашчасціла ўбачыць і пазнаёміцца з вышэйназванымі паэтамі і з іншымі сябрамі юбіляра, з якімі я сябрую да гэтых часоў. Самае галоўнае, што засталося ў маёй памяці – фотаздымак з усімі сябрамі Віктара Мітрафанавіча. Гэта адзіны здымак, дзе я знаходжуся побач з сябрамі пры жыцці паэта.

Пасля ўсяго сказанага ў мяне з'явілася цяга да гумару. Настаўнікам яго зноў стаў Бачароў. I да гэтых часоў гэты жанр у маёй творчасці бытуе і дасягнуў невялікіх вяршынь. Спрабаваў я сябе і ў якасці перакладчыка: перакладаў рускамоўныя вершы сябра на беларускую мову. Мне ён таксама даў значную адзнаку за гэтую працу і рады быў пачуць свае творы ў беларускім варыянце. Ведаў я яго і як кампазітара. Часта слухалі мы яго песні, запісаныя на касеце.

Калі ён падпісаў мне свае кнігі і адну з іх "Дембель неизбежен", то сказаў:

- Прачытай яе, і я спадзяюся, што і ты напішаш штосьці падобнае пасля войска.

Служыўшы ў войску, я не раз яму тэлефанаваў, падтрымліваў сувязі. Пасля дазнаўся, што мой "настаўнік" у Лідзе не працуе і наогул не жыве тут, а пераехаў у Менск да бацькоў. I туды я яму патэлефаноўваў, і яму было прыемна, што яго не забываю. I аднойчы мне па тэлефоне прызнаўся, што збіраецца выдаць яшчэ адну кнігу (гэта кніга "Золотая тёлка").з цягам часу я зноў тэлефанаваў яму. Ён хацеў, каб я да яго прыехаў, калі буду ў Менску.

Просьбу ягоную я не выканаў, не атрымалася. У канцы 2004 года я дазнаўся, што яго не стала... Цяжка было мне пачуць гэта, калі я ўдакладніў яшчэ і ў Міхася Мельніка. Ён паведаміў, што сам быў на пахаванні нашага сябра ў Менску. Дарэчы, гэта быў дзень настаўніка. I цяпер толькі фотаздымак, запрашальны білет і падпісаныя мне кнігі напамінаюць пра блізкага мне чалавека Віктара Мітрафанавіча Бачарова.

Для мяне ён з'яўляецца першым літаратурным настаўнікам, які накіраваў маладога творца ў Краіну мастацкай літаратуры, дзе ўжо імя яго было на высокім ўзроўні. А сваю эстафету ён перадаў сваім сябрам, якія не пакідаюць мяне і вучаць літаратурным мудрасцям далей.

У лютым 2010 года Віктару Мітрафанавічу споўнілася 60 год з дня яго нараджэння. Прайшло 10 год, як мы пазнаёміліся, і гэтае знаёмства будзе доўгапомным для мяне, а імя паэта будзе векапомным для кожнага, бо творы не знікаюць, напісанае застаецца – і гэта памяць і гісторыя літаратурнай спадчыны Лідчыны.

Нізкі паклон Вам, Віктар Мітрафанавіч!

***Алесь Хітрун,***
*сябар літаб'яднання "Суквецце",*
*студэнт філфака Гарадзенскага*
*дзяржуніверсітэта імя Янкі Купалы.*



***Віктар Бачароў ў гасцях у сяброў літаратурнага гуртка "Крынічка" (Сядзіць крайні злева, побач кіраўнік гуртка, сябар і паэт Міхась Мельнік, красавік 1997 г.)***

## У ВЯНОК ВІКТАРУ БАЧАРОВУ

**Смарагд Сліўко**

*Віктару Бачарову*

Зноў зазвінела світанне
Вясёлкай лістоты і кветак...
Як адказаць на пытанне:
Хто ж ён, паэт адметны?

Смелага пэндзля мазок
На палатне ўпартым,
Каб зазвінеў каласок,
Што ўздых для тугі і жартаў.

А можа, спявак – гітарыст
Мацае нервы рукою,
Каб міліцыйны свіст
Пеў салаўём над ракою?

Ён ў песні, слязе і ў сяўбе
Веснюю музыку ладзіць,
Ідзе ад сябе й да сябе,
Жыве ў неспакойным суладдзі.

Дык хто ж ён такі, паэт?
Шукаю патрэбнае слова,
Каб мой рыфмачовы шкілет
Моцнасцю быў з Бачарова!

*(Пераклад Міхася Мельніка)*

**Іван Гушчынскі**

### ІДЗІ І ВЯРТАЙСЯ

*Віктару Бачарову*

Вучыла матуля:
Ад зла не хавайся.
Далонькай атуліць –
Ідзі і вяртайся.

Трывога танула
Ў бацькоўскім басе:
Будзь моцным, сынуля,
Ідзі і вяртайся.

Шаптала сястрычка:
Зграшыў, дык пакайся.
Пегас – конь без брычкі,
Паехаў – вяртайся.

З сябрамі не цесна
На шумным Парнасе,
І з мяккага крэсла
Ідзі і вяртайся.

А рыфма гарэла
Не ў піве ці квасе...
І – сажай па белым:
Ідзі і вяртайся.

**Міхась Мельнік**

***Прысвячэнне Віктару Бачарову ў сувязі з прэзентацыяй яго першай кнігі паэзіі “Разговор” /14.11.1996 г./***

Паэзія у Бачарова –
Заўсёды шчырая размова...
У ёй і вершы – прысвячэнні,
У ёй і лірыка кахання,
І грамадзянскае дыханне,
І бардаўскае хваляванне...
Ён піша востра і калюча
На ўсіх знаёмых эпіграмы.
Укол яго, хоць і балючы,
Затое ж і карысны самы!
Трэба тут сказаць адкрыта.
Што майстэрства ў ім зарыта:
Аж закіпае ў жылах кроў,
Як напіша Бачароў!
Яму падуладны і песня, і верш,
Сатыра, і гумар, і сага...
Ды ўсё-такі яго спапяляе найперш
Духоўная смага.
Хай водзіць Гасподзь заўжды ў цішы
Твоаёю рукою.
Дай, Божа, тваёй хрысціянскай душы
Любві і спакою...
І хоць зняверышся часамі,
Ды, адвяргаючы адчай,
Праз лёс нясецца твой Пегас –
Яго не спыніць строгі час.
Хоць сорак год табе даўно,
Але сябры ніяк не вераць:
“На вушы кінь лапшу чапляць!-
Ну, два па дваццаць можна даць...”
А ты з усмешкаю: “Вы што...
Давайце лепей два па сто!..”

**Алесь Хітрун**

**МЭТА ЖЫЦЦЯ**

***Віктару Бачарову***

Жыццё не ведае мяжы –
Яно адведзена нам Богам.
Камусьці мёд, каму ражны:
У кожнага свая дарога...
Пакінуць кожны хоча сам
Пасля сябе сцяжынку,
Шчэ хтосьці піша лёсу план,
Ў кагосьці ўсё – малінкай.
Але дарэмна усё гэта,
Трэба спадзявацца...
А ў Бога адна мэта:
Са злыбядой змагацца.

## Вершы Віктара Бачарова ў перакладзе на беларускую мову

* * *

А я занёс бы ў кнігу Гінеса
травы расток...
Той, што вясна на крылах вынесла
праз пыл дарог.
Ці не рэкорд жа для былінкі
асфальт прабіць
і са свабодаю ў абдымку
прастор любіць!
Такую сілу нам бы, людзям,
каб цераз лёс
пранесці ўсё, што з намі будзе,
і ўсё, што ёсць...
Каб не быць рабом чырвонца
на паперці,
калі цягнуўся ты да сонца,
каб змог дайсці.

*(Пераклад Станіслава Судніка)*

***Леаніду Вінніку***

Надакучыла! Ногу ў стрэмя ўраз,
разарваць туманоў смугу,
ды бяда, дзе ты возьмеш час,
хвілю выкраіць не магу.
Хвілю выкраіць, згадаць даўняе,
і пра прышлае патужыць,
і на міг цябе, мая слаўная,
да грудзей сваіх прытуліць.
На хвіліну да хаты матчынай
мне не вырвацца ну ніяк. .
Ну ў каго я такі няўважлівы,
ну ў каго я такі басяк.
Ні хвіліну, каб душу вылечыць,
ў Божы храм з павіной зайсці
і адчуць дух святы, вялічавы,
ды ўсё некалі, маць яці!
Надакучыла. Ногу ў стрэмя ўраз, .
сам сабе не падам вады ...
А на смерць ці знайду хоць час?
Не знайду? Ну такой бяды.

*(Пераклад Станіслава Судніка)*

***Леаніду Вінніку***

Назалелае ўсё і прыкрае,
Хоць ты ў стрэмя — й на ўцёкі наўскач,
Як акраец часу мне выкраіць?
Не хапае яго, хоць плач!
Дзе той час - нагадаць мінулае
Ды па будучыні пахадзіць.
І цябе мне, харошая, чулая,
Няма часу падсаладзіць.
Сівізны не бачу матулінай,

Каб сагрэць цеплынёй рукі.
І чаму стаў такі не чуйны я?
І ў каго я ўдаўся такі?
Дзе знайсці мне час, каб ачысціцца -
З пакаяннем з’явіцца ў храм
І душой да нябёс узвысіцца...
Бляха-муха, няма часу нам!
Назалела ў крутні спружыніцца.
Горка збрыдзеў я сабе сам.
Нават часу няма каб супыніцца.
Ды такі шанц Бог дасць і нам...
*(Пераклаў 04.12.2000 г. Пятро Макарэвіч)*

* * *

Я ціха памру і сыду ў паднябессе...
Ты ціха паплачаш, маю ўспомніш песню...
І дзеці паплачуць, адны без пары,
І ціха падыдуць з жалобай сябры.
І словы прамовяць, і ціха ўсе ўстануць,
І ціха хвілінай маўчання памянуць.
А потым адыдуць прыстойна і ціха,
Над домам з жалобою каркне грачыха...
Пастойце,
я супраць, каб так усё ціха,
Жыццё я пражыў і цікава, і ліха!
Не раз плакаў я, і не раз я смяяўся,
Не раз я і біўся, і шмат цалаваўся.
Дабро я пабачыў, і бачыў я зло,
І шчасце ў жыцці са мной побач ішло.
Шанцавала таму, што сяброў меў я шмат,
І ў каханні спрадвек быў зухвалы я хват.
Я ўверх падымаўся і падаў з гары,
Ўсяго нахапаўся за жыцце, сябры.
Пагэтаму “ціха” — не трэба, малю,
А то памінальных ста грам не налью.
*(Пераклад Станіслава Судніка)*

* * *

Восень біла па акне мне
залатым лістом.
Я з табою пасумую,
ўзяўшы два па сто.
Я з табою пасумую,
вось і ўвесь мой сказ,
на жыццё шукаў такую,
а знайшоў на раз.
Што ж і раз напэўна многа,
шчасця цераз край.
Дождж дубасіць за парогам,
ну, а ў нас тут рай.
Тут збываюцца жаданні
пад капельны гук,
і прысутнічае тайна
паміж ласкай рук.
*(Пераклад Станіслава Судніка)*

**СУСЕД**

Учора ж ён газету браў
З святочнаю паштоўкай,
Ў сваёй кватэры напяваў
Матыў вясёлы, звонкі.

Учора ж новую вясну
Вітаў каля альтанкі,
Дымок цыгаркі ў быль-вайну,
Пускаўшы абаранкам.

Учора ж крочыў на парад
У гонар перамогі,
І ордэнскі бліскучы рад
Дзятву браў да знямогі.

І раптам сёння ў наш пад’езд,
Дзе яго крокі пелі,
Прыйшоў на развітанне лес
Сцяжынкай з лапак елак...
*(27-28 лістапада 2000 года пераклаў Пятро Макарэвіч)*

* * *

Калі ласка, выкінь тло
І не дзьміся марна.
Неба чыстае, як шкло.
Што ж табе так хмарна?

І ў душы ўсё неўпапад,
Нікуды не варта.
Я душы такой не рад,
Ды і ты не рада.

Які ж дождж начапляў
Кропелек на вейкі?..
На калені я бы ўпаў,
Каб стаў лад хоць нейкі.
*(29.11.2000 г. пераклаў Пятро Макарэвіч)*

**У ПОЛІ**

Вабіць даль з ускрайку поля,
А блакітны парасон
Лье на роднае прыволле
Жаўруковы пераразвон.

Светла ім, а мне свабодна.
Ім лунаць, а мне хадзіць.
Так і хочацца любоўна
Ўсе расінкі захапіць,

Наталіцца прахалодай
І мацней зямлю любіць,
І лічыць за ўзнагароду -
Сынам тут да скону жыць.
*(30.11.2000 г. пераклаў Пятро Макарэвіч)*

* * *

Лістапад. Лісталёт. Лістабой...
Можа, сталася нешта з табой?

Нечакана, нябачна, крадком
Гаркатой восень рынула ў дом.

Медным россыпам лісце звініць,
Па-асенняму сумна гарыць.

Вядзе з ветрам зноў вечны свой бой
Лістапад. Лісталёт. Лістабой...

Тэлефонная трубка маўчыць.
У ёй гудкі, як машыны ўначы.

І сваім адзінокім гудком
Клічаш ты, бы хусцінкай-рукой...

Мабыць, лёс задыхаецца мой...
Лістапад. Лісталёт. Лістабой...

Ды бяду я дагнаць не паспеў,
Быццам гнаўся за тысячай стрэл.

І цяпер ля шпітальных палат
Абдымаю я белы халат...

Значыць, быць, як раней, нам з табой...
Лістапад... Лісталёт... Лістабой...
*(01.12.2000 г. пераклаў Пятро Макарэвіч)*

* * *

За поўнач зімой я
Ацэньваў былое.
Яно вось такое
Пушкое й цяжкое.

Пакінуты снамі,
Ўсё зважыў і змераў
Сваімі рукамі,
Няўмольным бязменам.
Трывожна ў адчаі
Навіслі, як хмары,
І ў сэрца крычалі
Няўцехамі мары.
І ўстаў я, разбіты
Высновай трывалай:
Як многа пражыта,
Як зроблена мала.
*(02.12.2000 г. пераклаў Пятро Макарэвіч)*

**СЯБРАМ**

Дзякуй вам, што вы прыйшлі,
Сябры, сяброўкі!
Прысядзьце тут, у святой цішы,
У свае конаўкі
Наліце кожны грам па сто,
Заешце хлебам.
Узгорак могільны – не стол
Пад куплам неба.
Але ж прыйшлі... Я рады вам, -
Вас дзень чакае.
А мой партрэт, што сярод брам
Тут пазірае.
Не я адзін ужо такі,
Мінулым вее:
Адзін партрэт, за ім другі,
Як галерэя.
А вы прыйшлі. Я рады вам,
Мае сябры,
Бо пару год назад я сам
Стаяў тады.
І іншых так жа памінаў,
І ўсё я каяўся...
Цяпер і сам яе спазнаў,
Вас тут чакаю...
*(Пераклад Алеся Хітруна)*

**ГАДЫ ТЫ ПОМНІШ...**

***Міхасю Мельніку***

Гады ты помніш залатыя?
Яны шумелі, як прыбой...
Што зваць іх будуць ўжо "застоем"
Мы шчэ не ведалі з табой.

Ды яны і не стаялі,
Яны круцілі ў віхры нас,
Каханнем сэрцы напаўнялі,
Душу цягнулі на Парнас.

І сіл хапала, і памкненняў;
Было нам ўсё тады з рукі,
Бо кожны верыў, што ён геній,
Што моцныя яго радкі,

Што і пад зоркай будзе вечна,
Што будзе маладым і мілым...
Прайшлі гады ўжо. Мой паплечнік,
Лічыць іх не хапае сілы.

Усе гады мы да знямогі
Нага ў нагу ішлі з табой.
Бо ты і я – мы педагогі.
І гэта – пастаянны Бой...

Хоць змены ў лёсе йдуць не блага,
Будуюць дзеці ўжо масты,
Але не знікла ў жыцці смага,
Заўжды ў адказе -- я і ты...

А новы час нам ні шыша
Зноў не прынёс, ці ў першы раз?
Ды, як раней, заве душа
На паэтычны наш Парнас.
*(Пераклад Алеся Хітруна)*

**Я РАЎНУЮ ЦЯБЕ....**

Я раўную цябе толькі к смерці:
Тая возьме, назад – не аддасць...
А мне хочацца вельмі, павер ты,
Горыч каб не даткнулася нас...
Каб адчулася сонца ў далоні,
Я тваю пацiскаю далонь.
Як змагчы хоць бы кропельу болі
Ад цябе мне забраць у свой боль?...

*(Пераклад Алеся Хітруна)*

**СТАРЫ ГОРАД**

Стары горад дрымотны,
Толькі мы не адны:
Вецер гоніць лістоту,
Затушыў ліхтары.

Ноч ідзе па заплеччы,
І ў нямой цішыні
Дзесьці плача малеча,
Нешта хлопча сасніў.

Вось прабег чорны кот
І бядоту забраў.
Дожджык грае без нот
На вяршынях дубраў.

Начны свет бліскануў
І прапаў у аблоках.
Стары горад заснуў, -
Не міргнем і мы вокам...

*(Пераклад Алеся Хітруна)*

**НА МУШКУ СМЕРЦЬ...**

На мушку смерць мяне ўзяла,
Стуліўшы на курку свой палец.
Нібы ў дрэва лісцік адняла
І да зямлі трымае танец.
Колькі танцу доўжыцца, не знаю
І калі зямліца прыгарне?
А ўсё ж лістком я крыху палятаю,
Вецер, мне здаецца, за мяне...

*(Пераклад Алеся Хітруна)*

**НА СУСТРЭЧУ К БОГУ...**

На сустрэчу к Богу не спяшаюцца,
Час у час прыходзяць да яго.
Толькі тэрмін тых сустрэч вагаецца.
Як памеры рэк між берагоў.

Адзін бераг той - жыццёвы бераг,
А другі, дзе век адпачываць.
І няхай нястача сілы ў нервах –
На другі не думай ты ступаць.

Тут яшчэ пачуеш ты дыханне
Той, чый любы воку кожны крок,
Парасткаў вясенніх набуханне,
Раніцай народжаны радок.

Можа здарыцца, што і ты спаткнешся
На нялёгкім бегу па жыцці...
Добра тое, што яшчэ прачнешся,
Покуль на той бераг не пачаў плысці...

*(Пераклад Алеся Хітруна)*

**КРОПКІ НАД “І”**

Прыйшоў той час над “і” паставіць кропкі.
Ты ўсё бяжыш, ды можаш шчэ прыбавіць кроку,
Гэты забег, дарэчы, стаў не мой,
Як я ні біўся, адзін толькі боль.
Кажуць, пражыць, не прайсці цераз поле,
У кожнага ёсць і сцяжынка, і доля.
Нашы сцяжынкі нас не злучылі,
Ды і не доўга мы разам пражылі.
Над “і” кропкі паставіць час падышоў,
Думкі ўсё гінуць ізноў ды ізноў.
Не хачу я жадаць ні грама бяды.
Шкада, што каханне ўносяць гады.
Няхай холад душу тваю не студзіць,
Хай нас з табою люд ужо не судзіць,
Дай Бог, каб шчасце цябе адшукала,
Жыццё каб не біла, а толькі ласкала.
Кропкі над “і”, кропкі над “і”...
Побач з табою мы быць не змаглі.
І кожны разрыўны радок у жыцці,
Як наш лёс шматкропны. Кропкі над “і”...

*(Пераклад Алеся Хітруна)*

**У ЗАЛЕ РАД ЖЫЦЦЁВЫ...**

У зале рад жыццёвы выбраў я не лепшы:
З месцам дрэнь. Сябры - ўдвая...
Хтосьці да мяне квіт узяў першым:
У цэнтры цяпер ён, а збоку – я.

Ён фартуну ўтаймаваў наскокам,
Не ўсе ў каханні б так змаглі.
Што наркаць, бо я ўжо збоку,
Як у кастры патухлыя вуглі.

Ён у паэзіі ўзляцеў высока,
Кожнага хацеўшы пераймаць.
Што наракаць, бо я ўжо збоку,
Мне – рыфмаваць, жанчыне – нараджаць...

У жыццё нырнуў ён з берагу глыбока,
Пасярод магіл пашанна касцьмі злёг.
Што наракаць, бо я ўжо збоку,
Туліцца зямля й да маіх ног...

Так жыццё праходзіць аднабока
Без яскравых нейкіх перамен.
Што наракаць, бо я ўжо збоку.
З цэнтрам не прадбачыцца абмен.

*(Пераклад Алеся Хітруна)*

# Юр’я ў Зблянах

У розных вёсках нашай краіны існавалі свае адметныя звычаі святкавання Юр’я. На Лідчыне ў Юр’еў дзень 6 траўня (23 красавіка па старым стылі) замужнія жанчыны і дзяўчаты ішлі да жытніх палеткаў і абходзілі ў вёсцы двары з песнямі.

У 1971 годзе я прыехаў з г. Ліды маршрутным аўтобусам у вёску Збляны і запісаў там вясельны і Юр’еўскі абрады. Жыхары гэтай вёскі праваслаўныя. На Юр’я тут бывае яшчэ фэст. Пра асаблівасці фэсту ў Зблянах я чамусьці нічога не запісаў. А вось пра святкаванне Юр’я захаваліся запісы таго абраду.

Увечары напярэдадні Юр’я (гэта значыць 5 траўня) збіраецца каля 20 жанчын. Яны накіроўваюцца да жытняга поля. Там нарваўшы крыху руні, браліся ўсе за рукі і так ішлі з песнямі у вёску. Спявалі юр’еўскую песню:

*Да мы Юр’я страчаем,*
*Да мы Бога звелічаем.*
*Падай, Божа, ключык-замочак*
*Адамкнуць нам неба і зямлю.*
*Ды выпусціць Юр’еву расу,*
*Ды на ўсякую пашніцу,*
*Ды на жыта, на пшаніцу.*
*Пабі, Божа, куколь-мятліцу.*
*Каб з кораня караністая,*
*Пасярэдзіне-сцяблістая*
*Увярху – каласістая.*
*Ды ў гумно ўвазістая*
*А на таку ўмалацістая:*
*З каласочка – жыта бочка*
*А ў дзяжы падыходна,*
*А на стале сытна і спорна.*

(Запісана мной у 1971 г. у Зблянах Лідскага раёна ад Кацярыны Лакцевіч, 1932 г. нар.)

Адзначым, што жанчыны пачынаюць спяваць на полі каля жыта і выконваюць толькі адну гэтую песню, надаючы ёй нейкі магічны сэнс. Напэўна, гэтую песню жанчыны выконваюць тройчы.

А ўвечары свята Юр’я жанчыны таксама праходзяць праз вёску з песнямі, гэты раз без руні, але ўжо абавязкова тройчы спяваюць тую ж самую юр’еўскую песню, што спявалі ўчора. Аднак у той песні замест першых двух радкоў спяваюць адну фразу (радок):

*Ой, ваююць Юр’я, ваююць.*

Пасля гэтай абрадавай выконваюць другую песню, якая відавочна ўзнікла ў Зблянах:

*Ой, над сялом, сялом Зблянскім*
*Узышлі тры месяцы ясны.*
*Першы месяц – Ванюшачка,*
*Другі месяц – Алёшачка,*
*Трэці месяц – Колечка.*



***Збляны. Уезд з боку Панямонцаў.***

*А над сялом, сялом Зблянскім*
*Узышлі тры зорочкі ясны:*
*Адна зорка – Кацюшачка,*
*Другая зорка – Манюшачка,*
*Трэцяя зорка – Вярушачка.*

Калі ў вёсцы ёсць дзяцюк, які доўга не жэніцца, дык жанчыны ідучы праз вёску з песнямі падыходзяць пад акно яго хаты і выконваюць гумарыстычную песню:

*Стары Зыдор не жанаты*
*Ды па нояс барадаты,*
*Чэрві сала патачылі,*
*А Зыдора не жанілі.*

Ідучы праз вёску трэці раз, спявачкі падходзяць пад акно той хаты, дзе пасля мінулага Юр’я было вяселле. Спыняюцца і спяваюць:

*Маладая малодачка,*
*Выйдзі да нас на вулачку,*
*Вынясі нам падарачак.*
*Падарачак і паясочак,*
*Хоць і хлеба кусочак.*

Гэтую песню спяваюць тры разы. З хаты выносяць пачастунак - і гарэлку, і закуску. Забраўшы падарункі, жанчыны ідуць далей да хаты наступнай маладухі і спяваюць ёй. Такім чынам абходзяць усе хаты маладух сваёй вёскі.

Затым спявачкі запрашаюць усіх маладух у нейчую хату на пачастунак. Адбываецца нібы своеасаблівы прыём маладух у кумпанію жонак.

Тамашняя жыхарка Кася Лакцевіч, ад якой я запісаў гэтыя песні, растлумачыла мне Юр’еўскі абход маладух. Раней, апрача жончын, моладзь хадзіла спяваць песню маладухам. Маладуха дарыла дзяўчатам хусты, а хлопцам – паясы. Але ўжо жонцы не ходзяць спяваць, а жанчыны захоўваюць традыцыю.

***Сымон Барыс.***

# НАЙБОЛЬШ ЗНАЧНЫЯ ГІСТАРЫЧНЫЯ ВЫДАННІ АПОШНЯГА ЧАСУ




У выдавецтве “Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі”, г. Менск, выйшлі кніга II і кніга III энцыклапедыі “Гарады і вёскі Беларусі. Магілёўская вобласць”, Т. 6, Т. 7. 592 і 544 ст. Наклад па 2000 асобнікаў.




У выдавецтве “Белкартаграфія” г. Менск, выйшаў “Вялікі гістарычны атлас Беларусі”, Т. 1, 248 ст. 3600 асобнікаў




На Менскай фабрыцы каляровага друку надрукаваны каталог А.П. Арлова “Бумажные денежные знаки в Беларуси” 696 ст. Наклад 3000 асобнікаў.




У выдавецтве “Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі”, г. Менск, выйшла кніга В.С. Пазднякова “Папяровыя грошы Беларусі. Ад XVIII ст. да нашых дзён” 216 ст. Наклад 1100 асобнікаў.




У выдавецтве “Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі”, г. Менск, выйшла кніга М.В. Нікалаева “Гісторыя беларускай кнігі” Т. 1 “Кніжная культура Вялікага Княства Літоўскага” 424 ст. Наклад 2500 асобнікаў.




У выдавецтве “Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі”, г. Менск, выйшла энцыклапедыя “Города, местечки и замки Великого Княжества Литовского” 312 ст. Наклад 3000 асобнікаў.





**Архітэктура Ліды XXI стагоддзя. Гандлёва-сервісныя цэнтры “Кантынент” і “Экватар” па вул. Кірава**

*Здымкі Станіслава Судніка.*